# МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

**Адрас Рэдакцыі: Вільня, вул. Савіч № 12-14.**

**Часапіс выходзіць раз у тры месяцы і выдаецца ў складчыну.**

Найменшая складка ў год — 4 зал., на паўгоду — 2 зал. Адна кніжка — 1 зал.

Перад чытаньнем просім папpавіць наступныя памылкі: на 7 бачыне ў 17 радку зьверху слова „сіцца“ трэба чытаць „Сітца“; на 9 бачыне ў 3 радку зьверху словы „над вадой“ трэба чытаць „пад вадой“.

## ЗЬМЕСТ



Вокладку рысаваў мастак Кузьма Чурыла.

# Маладая Беларусь

ЛІТАРАТУРНА - ГРАМАДЗКА - НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

Кніжка 1 1936 г. Год I

*ВІЛЬНЯ, ЛЮТЫ 1936.*

Выходзіць у сьвет першая кніжка „Маладой Беларусі", літаратурна - грамадзка - навуковага часапісу — часапісу маладых. Зрадзіла яго само жыцьцё — сучасныя абставіны нашага грамадзкага і культурнага руху ў Заходняй Беларусі. Нягледзячы на нязвычайна цяжкія абставіны, у якіх сяньня знаходзімся, з кожным годам шырыцца й паглыбляецца нацыянальная й соцыяльная сьведамасьць масаў народных; родзіцца ў гэтых масах, часта саматужна, моцнае імкненьне проціўставіцца ўсім нягодам жыцьця ўласнымі сіламі. Гэтае імкненьне з асаблівай яркасьцю праяўляецца як на ніве грамадзкага, так і культурнага й літаратурнага жыцьця, якое ставіць перад намі штораз новыя й шырэйшыя вымаганьні, родзіць патрэбу тварэньня канкрэтных формаў выяўленьня народнае думкі. Такіх якраз формаў у нас сяньня не стае, а тыя, што існуюць, з многіх прычынаў не адказываюць агульнабеларускім мэтам.

Нашае старэйшае грамадзянства, кіруючае беспасярэдна ці пасярэдна ўсім культурным і грамадзкім арганізаваным жыцьцём, думае ў значнай меры катэгорыямі перастарэлымі і неактуальнымі, узалежняючы ад іх усю сваю дзейнасьць. Усякія-ж сьвежыя і жывыя думкі і ідэі, уношаныя маладым пакаленьнем, спатыкаюцца з незразуменьнем, а нават з адпорам з боку таго-ж грамадзянства. Цэлыя кадры маладой беларускай інтэлігенцыі ня могуць з гэтых прычынаў уліцца ў існуючыя арганізацыйныя формы культурнага й грамадзкага жыцьця, бо гэтыя формы для яе за вузкія. А маладая гэнэрацыя із значнымі інтэлектуальнымі сіламі, маючая цьвярозы пагляд на жыцьцё і разумеючая яго, усьця-ж расьце і мужнее.

Вось-жа з мэтаю гуртаваньня маладых творчых сілаў дзеля грамадзкае працы й разьвіцьця беларускае літаратуры, культуры і навукі згодна з вымаганьнямі часу і паўстае да жыцьця „Маладая Беларусь". Тут будуць крысталізавацца нашыя думкі і выкоўвацца наш сьветагляд, будуць узгадоўвацца новыя працаўнікі. Мы ўважаем, што беларускі народ досыць мае сваіх уласных жыцьцёвых сілаў і на іх мы будзем у сваей працы толькі апірацца, адкідаючы ўсякія чужыя ар'ентацыі. Мы адкідаем так-жа розныя пераржытыя і неактуальныя ўжо сяньня ідэі, а становімся тварам да жыцьця, каб зьліцца з гэтым жыцьцём і йсьці з ім поплеч. У галіне прыгожае літаратуры „Маладая Беларусь" будзе класьці асаблівы націск на разьвіцьцё новых мастацкіх формаў і кірункаў, адказываючых вымаганьням сучаснае поэтыкі, а так-жа будзе старацца каб літаратурная творчасьць сваей тэматыкай служыла перадусім сяньняшнім патрэбам беларускага народу.

У галіне грамадзка-навуковай будзем класьці далейшыя падваліны беларускай культуры, зьвяртаючы перадусім увагу на праблемы і пытаньні проста ці ўкосна важныя і актуальныя сяньня.

Мэтай „Маладой Беларусі" будзе так-жа даньне магчымасьці тварыць і выказвацца тым пісьменьнікам і культурным працаўніком, якія дзеля аснаўных ідэолёгічных прычынаў ня могуць і ня хочаць мясьціцца ў рамках цяпер існуючых часапісаў.

Належна выканаем вызначаныя сабе задачы толькі тадыкалі да працы стане ўсё маладое пакаленьне беларускай інтэлігенцыі. Мусім помніць, што зьмест, вартасьць і выгляд часапісу будзе перадусім залежыць ад нас, ад уложанай у яго працы маладых сілаў.

**Рэдакцыя.**

# МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

1

Беларусь, Беларусь маладая,
ты шуміш, быццам бор малады.
Нашы песьні мы ў сонцы купаем
і пра сонца пяём заўсягды.

Закрынічыў уздым Адраджэньня
ап'яняючы хмелем жыццьця.
Закрынічыла радасьць тварэньня,
шчасьце ўзьлёту над сном нябыцьця.

І гарачыя, простыя словы
сеем сьпеўна у мутны прастор!
Маладыя — ня знаем пакоры;
ад зямлі — толькі шаг нам да зор!

Мы прыйшлі за свабоду змагацца
і гарэць за жыцьцё і жыцьцём.
Сьветлай далі узводзім палацы
і пад шчасьце падмурак кладзём.

А навокал за намі Краіна
і вясковы шуміць маладняк.
Мы ніколі ужо не загінем,
на сьцягу нашым — радасьці знак.

2

Мы выходзім цяпер на дарогу
маладая працоўная раць.
Спакідаем і сум і трывогу;
перамогаю песьні зьвіняць.

Хай ляжаць пад нагамі каменьня,
што на шлях наш складалі вякі.
Там, дзе ўздым маладых Адраджэньня,
стануць блізкімі даляў шляхі.

Кожны шаг наш пушчае карэньне
ў грудзі маткі працоўных — зямлі.
Слова кожнае родзіць цярпеньне
тых, што вякамі пад крыжам гнілі.

Пастарому маліцца ня станем,
кінем плакаць, клясьці і прасіць.

Весялей за папа на сьвітаньні
бураломная песьня зьвініць.

Мы нясём з сабой новую веру,
пакланяемся праўдзе другой.
Марны будзень і нудны і шэры
ярка ўспыхне жыцьцёвай красой.

Мы выходзім цяпер на дарогу,
замыкаючы шчыльна рады;
Нашы песьні зьвіняць перамогай
і вясёлы паход маладых.

3

Беларусь, Беларусь маладая,
для Цябе толькі песьня мая.
Для Цябе аддаю і прымаю
ўсю нягоду і радасьць жыцьця.

Будуць дні . . .
Дні другія — ня нашы,
поўны зьместам, як чарка віном,
ды ніколі так бурна-гарача
кроў ня будзе мяцеліць агнём.

Мы ня сьвечка прад Богам, а полым,
што вулканіць працоўны народ.
Не ахвяра! Мы накіп вясёлы!
Крыгаломаў вясьняных паход.

Разьвівайся туман цёмнакрылы —
досыць сонца ад нас ты хаваў;
як палын нам жыцьцё апастыла,
што вякамі над намі ты ткаў.

Ад мяжы да мяжы па краіне
над туманам сьвітаньне гарыць,
прачынаецца дух. Ён — ня згінуў;
прачынаецца жыць і тварыць.

Беларусь, Беларусь маладая,
для Цябе толькі песьня мая;
у грудзёх — ні тугі, ні адчаю,
толькі сьветлая радасьць жыцьця.

2.I.36 г. Таболы.

# З АСЬНЕЖАНЫМ ВЕТРАМ

Сьнягі, сьнягі... і даль нямая.
Маўчаць і поле і кусты.
Адзін віхор усьцяж сьпявае
напеў свой рэзкі і густы.

Брыду у даль... У твар махае
мяцель асьнежаным крылом,
а кроў гарыць.... як хмель гуляе
ў грудзёх разквечаным жыцьцём.

Гуляй мяцель... і бійся ў вочы!
Я — жыць хачу! Я — жыць люблю!
Ні сьветлым днём, ні цёмнай ноччу
нікому сьцежкі ня ўступлю.

Бо так кахаць, як я кахаю
і ненавідзець так, як я,
патрапіць той, хто добра знае
цану ўсей радасьці жыцьця.

Скачы, скачы — о, любы вецер!
Купайся ў замяці сьнягоў,
бо мы — аднэй стыхіі дзеці, —
мне хмель жыцьця мяцеліць кроў.

Махай наўкол крылом касматым,
звані зімовай казкі чар.
Ўзаўюся я з табой, як з братам:
ты — бунту дух, а я — пясьняр.

МІХАСЬ МАШАРА

Студзень 1936. Таболы.

# На шляху

Як цёмная хмара раскінулася Нарач без канца і краю. Ноч. Імгла. Усё зьлілося разам. З ціхім шумам ляніва б'юцца аб бераг хвалі. Час ад часу загарыцца чорная паласа пены, гасьне, ціха паўзе назад па пяшчаным беразе.

Трахім выцягнууся на траве, прылёг да зямлі худымі кудлатымі грудзьмі.

— А есьці ахвота — працадзіў праз зубы. — Вось і жыцьцё! Ад шасьці год пайшоў да працы... Год дваццаць служыў парабкам... — змоўк.

Цёплымі языкамі ліжыць агонь твар старога Трахіма, батрака і мой.

— Жыцьцё наша як гэты рызман: увесь у латах і сьцюдзена. Ды і коляр яго шэры... — гавора Трахім.

Батрак паглядзеў на сваю старую сярмягу, чорную ад поту і пылу, на пакалечаныя босыя, худыя ногі і, быццам пераканаўшыся, што жыцьцё гэта і ёсьць яго і Трахімаў рызман, кіўнуў галавой і слухаў далей.

— А шмат чаго зьмянілася і на маей памяці; шмат выгаралася з зямлі смалякоў; толькі, як лягла нядоля на нашы вузкія загоны, дык і калком з іх ня зьверніш яе...

— Мяйсцы ў нас былі глухія — балоты, лясы. У два, у тры абхопы стаялі сосны, глыбака ўрэзаўшыся карэньнем у зямлю, а суччамі ў неба, аж хмары чапляліся за сасновыя шышкі..

— Сонца мала вышэй магло падняцца над лесам, толькі на Яна і то нявысака — і баба дастала-б яго качаргой.

— А ў бары начамі штось страшыла, галасіла. Шмат чаго было. Раскажы маладым — не паверaць.

— Старую праўду казкай цяпер называюць...

І быццам прыпамінаючы, ці мо' прыслухоўваючыся да ціхага шуму хваляў, стары Трахім змоўк. Вышэй нацягнуў на плечы сярмягу.

Нарач штось шаптала — і быццам ня нам, а Нарачы гаварыў Трахім:

— А кругом вёскі медным сярпом стаяў бор Ляда. Вясной, як падзьме вецяр з за Крывога Пня, зацягне неба шэрай воўнай хмар, быццам прачнуўшыся стары дзед на печы, пачне шумець стары бор і дзень і ноч зялёным шумам.

— Мала хто тады адважыцца ісьці ў бор. У глыбі і вецяр баіцца заблудзіць — там спакойна. Толькі з берагу шуміць, толькі з берагу гнуцца медныя камлі барадатых сосэнаў.

— Сяньня высяклі і лес — толькі пні і пасекі асталіся. Шмат прайшло гадоў з таго часу. Цяжка было жыць, цяжка жыць і цяпер...

— Праўдаў на сьвеце шмат, толькі нашай мужыцкай, мазольнай за імі ня відаць... А працаваць і ў нашай хаце пра-

цавалі ад цямна да цямна, а нядоімкі расьлі. Бацька пачаў піць.

— Брат Рыгор быў старшы за мяне ва год дзесяць, на ім была ўся гаспадарка.

— Аддзяліўся-б ты, а то гэта скаціна бязрогая ўсіх зацягне на магілкі—казала ня раз Рыгору яго жонка Аўдося.

— От, гаворыш і сама ня ведаеш што! — супакаіваў бабу Рыгор.

— Паглядзі — на каго ты падобны!...

— Эт, змоўкла-б ты, баба...

— Але ня так лёгка было ўсьцішыць бабу. Калышачы аднэй нагой калыску ўсё гаварыла, хоць Рыгор даўно ўжо спаў.

— І як толькі заварушыцца на печы стары, змоўкне Аўдося. Толькі позна шэпчыць малітву, час ад часу паглядаючы на худыя ногі Рыгора, усхліпывае. Дзіця ня спіць, а яна позна плача.

— І часам высака падыміцца сіцца і часам месяц ціха, як злодзей гляне з за Крывой Сасны ў вакно; ня раз пераверніцца з боку на бок лежучы на печы на лучыне стары Якім. Аўдося ўсё ня сьпіць: калышыць дзіця, шэпчыць малітвы і за Рыгора, і за дзяцей, і за ўсіх разам...

Дзесь далёка на гасьцінцы забразгалі калёсы і прачнуўшыся перада днём васеньні вецер зашумеў у маладым сасоньніку, схапіў з агня ахапак іскраў, кінуў іх у ноч і зьліўся дзесь далёка з шумам возера.

А паміж возерам і агнём, быццам збуджанае манатонным голасам Трахіма — уставала, праходзіла жыцьцё шэрай кужэльнай ніткай.

Батрак устаў ад агню.

— У дарогу?

— Трэба! — адказаў батрак, стоячы на мейсцы, быццам не хацеў адыходзіць ад агню, ад возера, ад нас.

— На Міхалішкі? — спытаўся Трахім.

— Далей.... — адказаў батрак і яшчэ раз перагледзіў пустыя кішэні і, не знайшоўшы ў іх закурыць, падняў з зямлі пустую торбу і разьвітаўшыся з намі пайшоў на гасьцінец.

Далёка дзесь, паміж небам і возерам, займаўся дзень, а зара, адбіўшыся ў мокрым глыбокім люстры Нарачы, плавілася, пераліваласся.

— Канчай!

— Пасьля.. Мо, калі яшчэ спаткаемся — адказаў Трахім. Але пасьля ні на этапе, ні на шляху я яго не спаткаў.

МАКСІМ ТАНК

## НА ШЛЯХУ ДЗІКІХ ГУСЕЙ

Кудлаты вецяр чапляўся за межы, калосьсе.
Стужкай дарога лягла з пад мокрых калёсаў

там — дзе бярозы сум на галіны павесяць,
там — дзе адны толькі хмары, вецяр і месяц...

Ноч спужаўшыся, белая ноч над зямлёю,
зорнаю сьцежкай адходзіць — чорны кот крадучыся...
Сны, што мінулі, што асталіся са мною,
з ценьмі бяроз спадарожных спляліся.

Іду па шляху пяшчаным, няроўным.
Кій і торба на плечах песьняў вандроўных

і ад вастрогу і да вастрогу плятусь —
Беларусь, ты мая,
Беларусь!

1936 г. Пількаўшчына.

## ЗАЗІМАК

Днём
сатлеўшыя зоры падалі сьнегам.
Хмары чаплялісь за сосны,
за стрэхі, за вецер —
хмары зблудзіўшая вырай.
Сінія вочы прыжмурыўшы вечар
і між палос, і балот, і дарог
шырэй раскінуў палотны узорныя,
белыя шырэй.

Вецер ўсю ноч іх рваў на кавалкі, як пену.
А перад днём і сам зморany лёг,
сонна шаптаў трасьнікам нябыліцы-байкі.
Толькі падслухалі іх і разьнясьлі да усходу
з крыкам і з белымі сьнежнымі крыльлямі чайкі

Цэлы дзень сонца сыпала золата ў гразь.
Вечарам косыя іскры вецер далёка
раскінуў між ніў і балот...
Знова іду між знаёмых дарог,
вырваўшысь з шэрых
мұроў.

А сіні вецяр ацёр пазалоту.
Поўна вады ў каляінах.
Неба ў гары над вадой...
Рухам шалёным хтось зоры раскінуў
чорнай дарогай гразкой.

1935 г.

## СЭЗАНОВЕЦ

Муры
і неба кавалак між кратаў,
быццам прадмесьце далёкае
ўсё ў агнях...
Ціха —
крокі дазорцы,
кашаль з апошніх этапаў.
Вершы — парваныя думкі ў руках.

А на варштаце:
мінулага дні, успаміны.
Я сэзановец, пясьняр із-за крат.
Пальцы апухшыя з сьцюжы
па галасох ўсхваляваных раскінуў.
Я музыкант.

Хутка вясна.
Капае ў цэлі вастрожнай.
Песьню нам выкаваць трэба хутчэй,
каб пад сяўбу гатаваць
і сэрца і грудзі, барозны —
будуць вясну спатыкаць весялей.

І на варштаце нагрэтая ў горне
новай зары, гнецца звонкая сталь;
гнецца
сталь песьні
ў руках маіх чорных:
я — сэзановец,
каваль.

# П'ЯНЫ БАЯН

1

Выйшаў ён на вуліцу
ў разшытой кашулі.
Пыл з пад лапця курыцца:
„Што-ж усе паснулі?“
Мала яму вёскі —
размахнуцца цесна,
курыць папяроску,
на трохрадцы песьня.
Золата-чупрына
не кладзецца гладка,
дымам жоўта-сінім
ўецца із пад шапкі.

2

Выйшлі людзі, дзівяцца:
— Ну і малайчына!
Скуль так песьні сыпяцца?
Слухай Кацярына!
„Над жыцьцём сабачым
годзе ужо плакаць!
Выйдзем і паскачым,
пакуль стопчым лапаць.
Стопчым—дык атопкам
ўздымім пылу хмары,
на ўсю вёску ёмка
сьвісьнім, прыўдарым!“...

3

Прынагнулась коласам,
залацістай грывай,
зашаптала голасам
васільковым ніва.
Галасы нягладка
ўсхваляваліcь з п'яна,
плакала трохрадка
у руках баяна.
Шопатам легенды
яе песьня льлецца,
пераззвонам медным
падабралась к сэрцу.

4

„Эх-жа ты, гаротная!“
і назад адкінуў
думы пералётныя,
золата-чупрыну...
„Кожнаю вясною
мы выходзім шырэй,
ды над паласою
спатыкаем вырай.
Эх! яшчэ ня звоняць
яе пералівы
сярод нашых гоняў,
сярод нашых ніваў...“

5

Пальцы хваляй дробненькай
па басох прайшліся;
галасы гармоніка
золатам ліліся.
„Век хаджу дарогай,
пуцявінай польнай,
па крывых парогах,
з сваей песьняй вольнай.
Як ў салому стрэхаў,
ў вашы думкі мары
з пераззвонам сьмеху
кідаю пажары“.

6

„Ведаю ў панурую
ночы непагоду
разадзьме іх бураю
з захаду да ўсходу!
Эх, рукой мазольнай
з новай сілай сьвежай
распаліце горны!
разарвіце межы . . . . . . .
Вясна прыдзе ў госьці —
грамадой ідзіце
і да шпіку косьці
ніву узарыце!...“

7

Песьня абарвалася
нейкім дзіўным шумам,
і закалыхалася
рэхам у сэрцы тлуму.
Ў гэтым рэху гордым
думак ўсхваляваных
чуліся акорды
п'яныя баяна.
Не загінуць пэўна
яны ў час віхуры.
Сьвет ўскалышаць гнеўнай,
непакорнай бурай.

## З КАЛАСАМІ

— Гісторыя гэта малая,
нібы акурак папяроскі...
Было відаць неба,
хоць хмара кавалкам сярмягі
вісела сівая
на комінах фабрык,
на вецьці худым
згорбленай з сьцюжы бярозкі...
— Гісторыя гэта малая,
нібы акурак папяроскі...
— Гавары!...

— Ей было год...
Ня модна з гадоў пачынаць!
Чырвоную хустачку помню
і сонца ў вачох...
На‘т коляр вачэй ня ўспомню ніяк.
І так —
было гэта ў жніва.
Ішоў з сенажаці я нівай,
серп гарэў у яе у руках...
Што-ж, ісьці мо‘ далей? —
і стаяць нейк страх...
Эх, хаця-б з каласамі ня зжала!...
А ў грудзях маіх штось заіграла —
Толькі часам вясна так іграе ў грудзёх,
нібы вецер з далёкіх этапных дарог...
Заглядзеўся, стаю.
А яна усё жнець...
ніва тае, як сьнег...
серп бліжэй да мяне, —
ні стаяць, ні ўцякаць — як прывязан, аж сьмех...
Эх, хаця-б з каласамі ня зжала!...
Ў час нядобры падумаць прышлося, —
праклінаць можа лёс?...
Праўда, што не сярпом,
але толькі і толькі вачамі
мяне зжала між ніў
з каласамі.

1935 г.

# НАД НАРАЧЧУ

1

Доўга сонца ў калосьсі згарэць не магло.
Прыйдзе і ноч на бярозы павесіцца.
Месяц прыйдзе, скамарох, у сяло
з чорнай, кудлатай мядзьведзіцай.

Выплылі хмары — авечак табун
выгнаў на поле шырокае вецяр
і заіграў шумам збуджаных струн
на зачараванай жалейцы.

Сьпіш неспакойна ты, вёска мая,
сны каласіста-узорныя ткуцца
там — дзе спаткалася з небам зямля,
там — дзе бярозы сумуючы гнуцца.

Вецяр тармосіць чупрыну маю,
ветрам палошчыць кашулю—дзяругу.
Слухай-жа, вёска, я песьню спяю!
Слухай свайго песьняра-валацугу.

2

Сонца ў сіняй пасьцелі калосься лягло,
толькі вецяр яшчэ не нацешыцца.
Месяц прыйдзе, скамарох, у сяло
з чорнай кудлатай мядзьведзіцай.

Толькі ў хаце надгніўшай агонь не пагас,
паміж плеч працiскаецца бокам.
Пляцець лапці і байку стары Апанас,
тчэць і вяжыць арцель падвалоку.

Часам роем густым зашумяць галасы:
— Мо зямлю будзім грызьці з палосак...
— Абяцалі прыйсьці рыбакі з за Касы,
із над Мястра, з пад мядзельскіх вёсак.

Ціха жаліцца-плача ў калысцы дзіця,
у хаце душна і дымна і цесна,
а за працаю хтось нібы думы жыцьця
разагнаць хоча дзіўнаю песьняй.

3

Ноч на межах гарбатых змарыўшысь лягла,
зоры ў косы ўплятаець і цешыцца,
і памалу гасьцінцам выходзе з сяла
скамарох із кудлатай мядзьведзіцай.

„Працадзілі праз невад мы возера ўсё,
як далонь помнім дно і затокі...
дзе балота, пясок, лес зялёны—трысьцё..."
Вяжыць ціха арцель падвалоку.

„На руках нашых вечна рубцы, мазалі;
прыйдзе з песьняй дажджліваю восень...
прыйдуць з торбай у хаты галодныя дні...
Не! лепш з доляй за грудзі вазьмёмся!"

Цішыня. Ды ізноў буры шум — галасы
хваляй чорнай збунтаванай ўдараць.
— Заўтра з сонцам арцелі прыйдуць з за Касы,
заўтра ўбачыць нас шэрая Нарач.

**Вільня. 25.I. 1936 г.**

## У НЕПАГОДУ

Перш —
крык ветру.
Сьнег — белы дым падпаленых хмар.
Іскры!
іскры!
іскры!
Сьцюдзёным полымям з стрэх
дыхае ў твар.
Цэгла і камень ціснуць грудзі.
Прыйдзе і вечар жалезны, чорны...
Шмат каго сьцюжа
атуліць, прыгорне...
Ўсе за пазухай сяньня
з крыкам ветру ідуць.
Вечар,
вечар,
вечар!
Дзень сінее як пальцы,
вечар сінее як твар...
А сьнег
усё сыпіць
і сыпіць —
сіні дым падпаленых хмар.

1935 г.

МАКСІМ ТАНК

# На шляхох новай беларускай паэзіі

1

Навейшая беларуская літаратура, асягнуўшая даволі высокую роўню артыстычную і ідэолёгічную ў пэрыяд „нашаніўскі“, пасьля вайны разьвіваецца ўзноў з вялікай, няпрыкмячанай дасюль сілай і размахам, у кірунку далейшага росту і дасканаленьня.

У гэтым артыкуле аграні̇чымся выключна да паэзіі, памінаючы повесьць і новэлю, якія сяньня ўжо стаяць у нас на эўрапэйскай вышыні, а так-жа драматычную творчасьць. Гаворачы аб сучасным поэтыцкім руху, заўсёды прыходзіцца пачынаць ад яго праяваў у Беларускай Савецкай Рэспубліцы, дзе беларускае культурнае й літаратурнае жыцьцё разьвіваецца, нягледзячы нават на вялікія перашкоды, вельмі буйна. Хаця беларуская паэзія ў Усходняй Беларусі лічыць за сабой мала болей, як пятнаццаць год, можна аднак адрозьніць у яе разьвіцьці два пэрыяды, цесна ўзалежненыя ад палітычных абставінаў. У першым пэрыядзе, сягаючым больш менш да 1929 г., а часткава абыймаючым год 1930, беларускія поэты й пісьменьнікі карыстаюцца значнай свабодай тварэньня і ўносяць у сваю продукцыю элемэнты беларускія, народныя, надаючы ўсэй нашай літаратуры спэцыфічны, індывідуальны характар. Пачынаючы-ж ад 1930 г. аж да сяньняшняга дня беларуская паэзія, у сувязі із зьменаю палітычнага курсу, змушана разьвівацца выключна згодна з ведамым прынцыпам: нацыянальная паводле формы, фактычна толькі языка, а камуністычная паводле зьместу. З рэзультатамі такіх экспэрымэнтаў у галіне літаратуры пазнаёмімся ў наступнай кніжцы „Маладой Беларусі“, цяпер-жа зьвернем увагу на ўспомнены першы пэрыяд беларускай паэзіі ў БССР., якая з прычыны свайго інтэнсыўнага разьвіцьця, шырыні й размавітасьці поэтыцкіх зацікаўленьняў і ўспрыйманьняў, а так-жа даволі высокай роўні артыстычнай творыць адзін з найпрыгажэйшых разьдзелаў у гісторыі беларускае літаратуры.

Сучасныя поэты з даволі высокай літаратурнай культурай і талентам, неаграні̇чываючыся да ціснага кругу ўласных зацікаўленьняў, чым пераважна грашылі перадваенныя поэты, значна павысілі роўню артыстычнае творчасьці і ўзьвялі яе на новыя шляхі. Іх творчасьць, як і наагул сучасная паэзія, адзначаецца вялікім размахам, стыхійным імкненьнем да паўніні жыцьця, праяўляецца ў ей неаграні̇чаная свабода поэтыцкае экспрэсіі.

У гэтым пэрыядзе адразу зазначаецца вялікая перавага поэтаў і пісьменьнікаў, зьвязаных арганічна з сялянствам, вёскай; апяваючы вясковае жыцьцё і сялянства, якое ў іхнім разуменьні, ак і ў запраўднасьці, было амаль што сынонімам беларускага народу, аднесьліся яны да тагачаснай савецкай сучаснасьці больш менш пасыўна. На чале гэтае групы стаяць такія мастакі слова,

як *Язэп Пушча*. *Уладзімер Дубоўка*, *Алесь Дудар* і *Максім Лужанін*; таксама трэба да іх залічыць цэлы рад меншых, як *Аркадзь Маркоўка*, *Анатоль Вольны*, *Бабарэка*, *Язэп Падабед*, *Валеры Маракаў*, *Юлі Таўбін* і іншыя. Паколькі іх лучыць у вадну групу вёска, як галоўны прадмет поэтыцкік успрыйманьняў, на-толькі розьняцца яны між сабой індывідуальнымі асаблівасьцямі творчасьці і адносінамі да жыцьця.

У Пушчы бачым перадусім шчырыя, беспасярэднія адносіны да вясковага жыцьця й прыроды, якія выклікаюць у яго многа ўражаньняў і глыбокія эмоцыянальныя перажываньні, родзяць у душы поэты пачуцьцё вялікай радасьці.

> Я сын дубровы кругдалістай,
> я сын сялянскіх ураджаяў.
> О, як да сэрца гэта блізка!
> Яно хмель - песьню абуджае.

кажа Пушча ў цыклю сваіх вершаў *Мне чупрыны ня хочыцца зьвесіць*. І гэтая „хмель-песьня", узбуджаная сьведамасьцю кроўнае сувязі з вёскай, прыродай, выліваецца ў форме глыбокае і беспасярэдняе лірыкі. Праходзіць яна чырвонай ніткай праз усю ягоную творчасьць раньняе пары, адпавядаючы прынцыпу, выражанаму поэтам у прадмове да аднаго із зборнікаў сваіх вершаў п. н. *Vita* (1926). Гаворыць там Пушча, што заданьнем ягонае творчасьці, як і беларускай паэзіі наагул, ёсьць „сынтэза, стройная сугучнасьць романтызму жыцьця з яго рэалізмам". Абуджанае, бурлівае жыцьцё вёскі і хараство беларускае прыроды зьяўляюцца крыніцай сьветлага оптымізму Пушчы. І ў успомненым цыклю вершаў ён пяе, што „жыцьцё—расьцьвіўшы куст каліны".

Інакш рэагуе на жыцьцё Дубоўка, таксама вялікі мастак слова і глыбокі лірык. Паколькі Пушча ўспрыймаў самыя праявы жыцьця такімі, якімі яны ёсьць, і захапляўся іх хараством, паколькі Дубоўка стараецца ўглыбіцца ў гэтае жыцьцё і ўлавіць яго сэнс. Тады, калі ў Пушчы пераважае пачуцьцёвасьць, то Дубоўка перадусім глыбокі індывідуаліст, у яго творах шмат цікавых рэфлексыяў, удзержаных на высокай поэтыцкай вышыні. Пушча здавальняецца сучаснасьцю, якая для яго зьяўляецца „расьцьвіўшым кустом каліны", Дубоўку-ж гэтага мала, ён хоча разгадаць і будучыню; „заўтрашняе наша—рэбус", гаворыць ён у вершы *Над шляхам пыл*. І вось гэтая незгаданая будучыня ў абставінах беларускага савецкага жыцьця і нездаваленьне з сучаснасьці, якая палохае поэта сваімі радыкальнымі зьменамі, і родзяць у душы Дубоўкі глыбокі сум і мэлянхолію. У цыклю вершаў *Калініншчына* Дубоўка выразна аб гэтым гавора:

> А я! Благаслаўляю дні, што зьнікді,
> вітаю дні наступнага ў трывозе.
> Няўжо і ты, як гэты камень дзікі,
> на шыю занізьзаш мне ляжыцё увосень?

З трывогай гэтай аб адным малюся:
каб дні жыцьця майго па вітай сьцежцы
вялі мяне да любай Беларусі,
дзе кожны з дрэва ліст мне сэрца цешыць.

З гледзішча поэтыцкіх адносінаў да сучаснага сабе жыцьця падобны да Дубоўкі Лужанін. І ён ня можа здаволіцца сучаснасьцю, якая не захоплівае поэты і не дае яму канкрэтнага адказу на найбольш балючыя яму пытаньні, закранаючыя лёс беларускага народу. У першым зборніку сваіх вершаў п. н. *Крокі* ён кажа: „Рэдка, рэдка цяпер я сьмяюся, некранутае радасьці сын". Гэтыя словы так характэрныя для раньняе творчасьці Лужаніна, што адзін з сучасных поэтаў, Пятро Глебка ў вадным сваім артыкуле трапна зацеміў, што імі можна было-б назваць увесь яго зборнік. З нездаваленьня сучаснасьцю родзіцца ў яго глыбокі пэсымізм, поэт стараецца пяяць на тэмы абстракцыйныя, нязьвязаныя з сяньняшнім днём, шукае сабе апоры ў мастацкім фармалізме, высоўваючы прынцып—мастацтва для мастацтва. Не знаходзячы ў сучаснай Беларусі належнага зьместу, адказваючага народным вымаганьням і патрэбам, ён зьвяртаецца да Беларусі мінулай, ідэалізуючы нашую прошласьць.

Зусім інакш прадстаўляецца ідэйны зьмест творчасьці Дудара. Ён таксама, як і ўспомненыя поэты, адчувае кроўнае сваяцтва з беларускай вёскай, у яго творах моцна зьвініць беларуская нацыянальная мэлёдыя, але з другога боку ён аднёсься позытыўна да тагачасных умоваў савецкага жыцьця, знаходзячы ў іх шмат чаго блізкага. Адсюль выплывае яго сьветлы оптымізм і бадзёрасьць.

Беларусь, твой стан пакалечаны
сёньня новаю зьзяе красой...
Бо сягоньня гараць успаміны,
бо сягоньня загоены раны...
Што было — назаўсёды згінула
і з магілы ніколі ня ўстане.

Як бачым тагачасныя ўмовы жыцьця выціснулі глыбокі адпячатак на ідэйным зьмесьце беларускае паэзіі; кожны аўтар інакш на іх рэагаваў і па свойму шукаў сабе далейшых дарог. Трэба аднак моцна падчыркнуць, што паколькі савецкая сучаснасьць выклікала ў некаторых нашых поэтаў многа засьцярогаў і сумляваньняў, надаючы іх творчасьці сумны, мінорны тон, патолькі будучыню баларускага народу прадстаўлялі яны ў хварбах ясных. Сваю веру і оптымізм будавалі яны перадусім на ўсьведамленьні вялікае позытыўнае сілы, затоенай у народзе, і яго творчых здольнасцяў, якія праяўляліся ў шырокім размаху культурнага жыцьця. У сувязі з гэтым паваенная паэзія ў першым сваім пэрыядзе зрывае становўча з плачлівым, элегійным тонам творчасьці „нашаніўскай". Замест „Краю выклятага Богам", над якім плакалі „нашаніўцы", сучасныя поэты бачаць новую бацькаўшчыну — „У вопратцы з шоўку ўваскрослы мой край", як вы-

разіўся Аркадзь Маркоўка. Гэты контраст паміж паэзіяй перадваеннай і сучаснай ярка прадставіў Міхась Чарот у поэме *Марына*:

> Жаласна енчаць:
> Гэта — сьпеў сівой старасьвеччыны.
> Я пяю — што рабілася ўчора . . .
> Нават там, дзе плач і гора —
> Мой сьпеў вясёлы.

Вялікае багацьце прадстаўляе сучасная паэзія з гледзішча артыстычнага. Заместа аднастайных і рэгулярных формаў перадваеннае паэзіі, твораных згодна з традыцыйнымі эстэтычнымі канонамі, цяпер мы бачым новыя артыстычныя формы і звароты, якія імкнуцца да вялікай, неагранічанай свабоды выяўленьня поэтыцкае думкі і адтварэньня поэтыцкага абраза. Характэрная для сучаснасьці вольная конструкцыя верша, якая парывае з падзелам на звароткі і строфы, ня мае яшчэ вялікага пасьпеху ў беларускай паэзіі, у якой моцна адбілася традыцыя народнае творчасьці, яе прасьціня і мэлёдыйнасьць. Апрача Лужаніна, які стараўся, праўда не заўсёды з добрымі вынікамі, будаваць вольны верш, у іншых поэтаў пераважае аднак верш з рэгулярным разьмерам. Затое ў галіне стылю і поэтыцкага языка спасьцярагаем вялікі поступ.

Чытаючы творы сучасных поэтаў, адразу кідаюцца нам у вочы арыгінальныя, сьмелыя мэтафары, прыраўнаньні і эпітэты, якія ярка конкрэтызуюць абраз і перадаюць пуката думку аўтара. Гэтыя асаблівасьці стылю вельмі выразна выступаюць у Пушчы, надаючы яго творам новы, сучасны характар. Напр.: „Беланогі расчухраны месяц лявоніць у лісьці кляновым", „Туліцца жнівень пад пуняй з ношкай аўсянай саломы", „Сонца бліскучым пласконьнем іскры ў тумане губляе" і гэтым падобныя, зьяўляюцца найбольш тыповымі мэтафарамі Пушчы. Іх роля ў творы аграмадная; напрыклад наступныя мэтафары:

> У сутоньні п'яніцай
> хістаецца пад плотам цень.
> Умыўшыся яркай раніцай,
> на сіні выган
> выганяе
> сонца пасьвіць дзень.

нязвычайна канкрэтна і маляўніча выклікаюць у нашым выабражэньні абраз вясковае раніцы. У шуканьні новае формы Пушча часамі траціць меру і паслугоўваецца даволі вырафінаванымі мэтафарамі, якія могуць выклікаць ад'емнае ўражаньне, як напр. „Вечар месяц ажарабіў і пусьціў блукацца ля сьцен", аднак такія выпадкі ў яго вельмі рэдкія.

Прыгледзімся цяпер да іншых поэтаў. Вось Дубоўка, замест доўгага апісаньня ночы ў полі, малюе яе нязвычайна лаконічна: „Ноч пацягнула бяліць палотны, разьвіваючы непразрыстыя столкі". Вартасьць такога апісаньня дваякая: вялікая экономія слоў і пукаты, канкрэтны характар абраза. Такую самую ролю іграюць мэтафары ў наступным чатырохвершы:

Паляцелі вятры над далінай,
вышывалі расою сьцяжынкі...
Выхадзілі істужкай цьвятлівай
маладзіцы й дзяўчаты з дажынкаў.

Вельмі важнае значэньне мае мэтафара ў творчасьці Дудара. Зьяўленьне любай дзяўчыны родзіць у сэрцы поэты вялікую радасьць, якую ён малюе пры помачы ўсяго толькі двух радкоў верша: „Зіму ў маім сэрцы зламала пахам салодкім горкай рабіны". А вось ігра косаў сонца на дахах гораду: „Сонца золатам ў дах барабаніць—адбівае сталёвы рытм", альбо сьвежасьць і хараство вясны: „Май прышоў у блакітнай кашулі, у манісьце павеваў лясных", альбо ўрэшце блеск месяца на полі летам: „Загубіў залатую падкову на шурпатым аўсянішчы месяц". Дзеля паўніні абраза прытачу яшчэ адзін такі зварот з верша П. Труса *Юны змаганец*:

Чарнамызая ночка-цыганка
над далінаю жмурыла бровы,
як пращчаўся з матуляю Янка,
адыходзячы ў лес, у „Дуброву".

І адзін з поэмы Міхася Чарота *Беларусь лапцюжная*:

Камяніцы былі ў сумоце,
твар свой паморшчылі шыльды...
Толькі плякат на плоце
зубы ад радасьці выскаліў.

Як бачым, сучасная поэтыцкая мова, лепш кажачы яе сынтакс, дзякуючы сьмелым і арыгінальным экспэрымэнтам, штораз больш адрозьніваецца ад звычайнай літаратурнай мовы і сынтаксу. Пералічаныя поэты ўнеслі шмат мастацкіх вартасьцяў у новую беларускую літаратуру. Характэрна, што сяньня, калі ў сувязі із зьменаю палітычнага курсу адносна Беларусаў у Саветах, творчасьць іх была спынена, то ўсёжтакі новае пакаленьне поэтаў і пісьменьнікаў, творачы ў іншым духу, прызнала іхні вялікі талент. Аб гэтым гаворыць сучасны савецкі крытык, Алесь Кучар у вартыкуле *Творчыя праблемы савецкай паэзіі.* Ён кажа: „Яшчэ і цяпер недабітыя рэшткі буржуазных нацыяналістаў сеяць варожыя нам думкі ( і гэта мае месца сярод некаторае невялікае часткі пісьменьнікаў), што буржуазныя нацыяналісты тыпу Дубоўкі і Пушчы ўнесьлі вялізарнейшыя мастацкія каштоўнасьці ў літаратуру, стварылі вялікі мастацкі стыль паэзіі, што яны, Дубоўка і Пушча, зьяўляюцца „злымі геніямі" мастацтва, непрызнанымі і неацэненымі". Як бачым, савецкая крытыка залічае сяньня да „буржуазных нацыяналістаў" нават тых, што, крытыкуючы ідэолёгію ўспомненых поэтаў, прызнаюць ім высокія мастацкія вартасьці. Кучар падходзіць да гэтае справы шмат прасьцей, цьвердзячы, што гэтыя поэты „Не даючы па сутнасьці добраякаснай прадукцыі, яны балталі пра геніяльнасьць розных эпігонаў, упаднікаў, плягіятараў ад буржуазнага нацыяналізму". [1]) Зразумела, што такая

[1]) „Полымя Рэвалюцыі", Менск, 1934, кн. XII ст. 109 і 110.

ацэнка ня мае нічога супольнага з навуковым аб'ектывізмам і сьведчыць толькі аб тэндэнцыйнасьці яе аўтара.

Калі з аднаго боку ў сучаснай беларускай паэзіі заўважваецца імкненьне да вялікага штукарства формы, то з другога боку стараецца яна зблізіцца да прасьціні і мэлёдыйнасьці народнае песьні. Гэтыя дзьве аснаўныя ў ей рысы разьвіваюцца роўналежна і дапаўняюцца ўзаемна. Аграмадны ўплыў народнае творчасьці на мастацкую літаратуру тлумачыцца тым, што адраджэнская беларуская культура апіраецца перадусім на сялянскіх элемэнтах. Прыкладам сучасная літаратурная мова ня ёсьць далейшай эволюцыяй старой літаратурнай мовы з часоў беларускае дзяржаўнасьці (Вялікае Княства Літоўскае), але яна вытварылася на падставе мовы народнай. Народная творчасьць мае ўжо сваю традыцыю ў нашай мастацкай літаратуры. Яна згуляла вялікую ролю на парозе адраджэньня беларускае літаратуры ў пачатку XIX ст., папаўняючы яе сьвежым прыплывам зьместу, як і мэлёдыйнасьцю і прасьцінёй вершаванае формы. Таксама і „Нашаніўцы" ахвотна ўводзілі ў літаратуру матывы з народнае творчасьці,ператвараючы іх артыстычна.

У вялікай меры стараецца зблізіцца да фольклёру і сучасная паэзія; уплыў яго такі вялікі, што няма амаль ніводнага поэты, нават найбольш сучаснага, каторы не адчуў-бы характва і поэтычнасьці беларускай народнай песьні. Найвялікшы яна зрабіла ўплыў на *Паўлюка Труса*, глыбокага лірыка, рана памёршага ў 1929 г. Пачаў ён сваю поэтыцкую кар'еру, пішучы актуальныя вершы із жыцьця вёскі, маючыя публіцыстычны характар, якія зьмяшчаў у беларускай правінцыянальнай прэсе. Аднак хутка поэта дасьпеў артыстычна і пачаў пісаць высока мастацкія вершы і лірычныя поэмы, як *Чырвоныя рожы*, *Дзесяты падмурак*, *Лірнік*, *Сірата Алеся* і цэлы рад іншых. З гледзішча стылю яго творы можна падзяліць на дзьве групы: у ваднэй зазначаецца вялікі ўплыў Лермантава, сьпеўнасьць і настраёвасьць лірыкі расейскага романтыка, у другой — беларускай народнай песьні. Адносіны поэты да народнае песьні — беспасярэднія: ён застасоўвае ў сваіх творах рытміку народнае песьні, жыўцом уплятае ў свой верш галоўныя асаблівасьці народнага стылю, як даўгія прыраўнаньні, браныя з жыцьця пыроды, званыя паралелізмамі, спэцыфічныя для народнае песьні антытэзы, эпітэты і паасобныя выражэньні. Такі спосаб ператвараньня народае творчасьці дае той артыстычны рэзультат, што ў яго вершы так умела захаваны народны характар, што часам ня відаць пасярэдніцтва поэты. Вось напрыклад адрывак з верша *Веюць ветры*:

Веюць ветры, ветравіньне,
з поля на даліну...
Выйду ў вечар, вечар сіні
вее багавіньнем!

Выйду ў вечар за дуброву,
стану пад калінай,
ці ня ўмые мае бровы
поглядам дзяўчына.

Характэрна, што ўплыў народнае творчасьці адбіўся так-жа ў поэтаў, якія выразна вызваляюцца з шаблёну старой формы, а з боку ідэолёгічнага зьместу стараюцца зблізіцца да паэзіі пролетарскай. Вось, між многімі іншымі, Міхась Чарот патэтычныя радкі сваіх поэмаў, у якіх апісывае актуальныя праявы соцыялістычнага будаўніцтва, пераплятае звароткамі, стылізаванымі на ўзор народнае песьні, надаючы сваім творам многа сьвежасьці і размавітасьці. Напрыклад у яго поэме *Беларусь лапцюжная* чытаем :

Ой ня кукуй, зязюля ў лесе,
не сьпявай ты вецер ракітай,
не кажэце дзяўчыне Алесі,
што жаніх яе ў войску забіты.

Мусім тутака моцна падчыркнуць, што між карыстаньнем з народнае творчасьці сучасных поэтаў і „нашаніўцаў“ існуе вялікая розьніца. Поэты „нашаніўцы“ ўплятали перадусім фольклёрыстычныя матывы ў зьмест сваіх твораў, будавалі на іх сваю фабулу, затое шмат радзей насьледавалі народную паэзію ў форме сваіх вершаў. У сувязі з такімі романтычнымі адносінамі да фольклёру, у іхняй творчасьці было мноства зачараваных замкаў, курганоў, мітычных постацяў — лесавікоў, русалак, вадзянікоў і г. п., яны выступалі пераважна як сымболь барацьбы народу за вызваленьне. Досыць прыпомніць творчасьць Купалы, каб пераканацца аб гэтым. Сягоньня-ж у сувязі з іншымі абставінамі жыцьцця народу і іншымі тэндэнцыямі ў паэзіі, якая перадусім імкнецца да жыцьцёвага рэалізму, мёртвы сьвет народнае фантастыкі зьяўляецца ўжо пережытым і неактуальным. Такім спосабам народная творчасць, якая і сяньня ня згубіла сваей вартасьці для артыстычнае літаратуры, мае цяпер зусім іншыя заданьні. Яе ўплыў, як можна было бачыць з паданых прыкладаў, абыймае перадусім форму верша — яго стыль, рытміку і часткава некаторыя асаблівасьці поэтыцкае мовы; інакш кажучы — народная творчасьць зьяўляецца ў сучаснай паэзіі перадусім адным із сродкаў артыстычных.

У дасюлешнім аглядзе беларускай паэзіі ў Усходняй Беларусі мы памінулі групу аўтараў, якія твораць пролетарскі кірунак. Цяпер коратка з імі пазнаёмімся. Галоўнай асаблівасьцю гэтага кірунку ёсьць тое, што ён не прызнае прынцыпу мастацтва, калі яно выразна ня служыць утылітарным мэтам, а так-жа агранічае індывідуальнасьць і асабовасьць аўтара, стаўляючы над адзінкаю зарганізаваны калектыў. Апісываючы канкрэтную рэчаіснасьць, ня прызнае яна так-жа абстракцыйных мэтаў, нязьвязаных з праявамі соцыяльнага жыцьця. Пролетарскія элемэнты выступалі ўжо перад вайной у творчасьці Цішкі Гартнага. Гэты кірунак у першым пэрыядзе беларускай сучаснай паэзіі ня мог усестаронна і шырака выявіць свайго аблічча, бо сама нават соцыяльная і экономічная структура Беларусі, у якой вельмі мала фабрычных асяродкаў, гуртуючых работніцкія масы, ня прыяла

ягонаму разьвіцьцю. Аднак, нягледзячы на гэта пролетарская паэзія, рэпрэзэнтаваная *Андрэям Аляксандровічам* і часткава *Міхасём Чаротам*, выявіла даволі буйны рост.

Творчасьць гэтых поэтаў уносіць новыя элементы ў беларускую паэзію ня толькі з гледзішча ідэолёгічнага, але й артыстычнага. Творы Чарота адзначаюцца зжатасьцю і скондэнсаванасьцю формы, бадзёрым тэмпам рытмікі і ўрачыстым настроем, які часта пераходзіць у патос. З гэтага гледзішча поўнасьцю яны адказываюць вымаганьням савецкай пролетарскай крытыкі. Аднак былі робляны закіды Чароту, што ў яго творах вельмі глыбака праяўляюцца сялянскія матывы, пераданыя традыцыйным спосабам, г. зн. таксама, як у поэтаў успомненага сялянскага кірунку. Ды і ўзапраўды Чарот належыць да пролетарскае поэзіі толькі часткова, бо галоўным прадметам яго зацікаўленьняў ёсьць вёска. Розьніца між ім і поэтамі сялянскімі ня ў тэматыцы, але ў ідэолёгічным падходзе да сучаснасьці — у імкненьні зьліваць вёску і горад згодна з вымаганьнем савецкае праграмы. Напісаў ён даволі многа лірычных вершаў, апавяданьняў і аповесьцяў; найбольшую вартасьць маюць яго поэмы, напалавіну лірычныя, пісаныя ў сучасным стылю. На першае месца высоўваецца поэма *Босыя на вогнішчы*, твор высокае мастацкае вартасьці і глыбокага ідэолёгічнага зьместу, потым ідуць поэмы: *Беларусь лапцюжная*, *Марынч*, *Карчма*, *Ленін*, *Чырвонакрылы вяшчун* і інш.

Інакш прадстаўляецца творчасьць Аляксандровіча, які, будучы сынам менскага работніка, патрапіў поўнасьцю вызваліцца з пераважаючых у беларускай літаратуры сялянскіх матываў і стацца бадзёрым пралетарскім поэтам. Ня ў прыклад іншым паэтам ёсьць ён сьпеваком места, яго руху і дынамікі. Змог ён актыўна аднесьціся да канкрэтнай савецкай рэальнасьці, апісываючы з асаблівым патосам актуальныя праявы сацыялістычнага будаўніцтва. Дзеля гэтага яго творчасьць, як трапна зацеміў крытык Ул. Сядура, носіць „адзнаку партыйнай поэтычнай публіцыстыкі“ [1]).

Вымагаючы ад паэтаў апісываньня актуальных праблемаў сучаснага савецкага жыцьця, афіцыяльная крытыка ў гэтым пэрыядзе высунула перадусім справу узаемаадносінаў вёскі і места. Гэтая праблема ў нутранай палітыцы савецкай была спрэцызаваная такім спосабам, што між вёскай і местам павінна быць цесная сувязь, апёртая на супольным ідэолёгічным падкладзе і на экамічнай вымене прадуктаў і сродкаў вытворчасьці. Паэты сялянскага кірунку аднесьліся да гэтай канцэпцыі калі ня выразна нэгатыўна, дык пасыўна, уважаючы, што імкнецца яна да перавагі места, г. зн. работніцкіх масаў, — неадналітых і мала ўсьвядомляных з гледзішча нацыянальнага, — над вёскай. Затое выразна яна адбілася ў пролетарскай паэзіі, як могуць аб

1) „Полымя Рэвалюцыі“, 1931, сакавік, 231.

гэтым сьведчыць хаця-б наступныя радкі з поэмы Чарота *Беларусь лапцюжная:*

**Мы цяпер аб краіне шэрай**
**сьпеў жыцьця каласіць будзем вершам . . .**
**Горад дымны і вёску ў шэрані**
**злучыць у адно — вышлі першымі.**

**Сьпевам — морам**
**поле залілося...**
**Грукат фабрыкаў, рогат іх труб . . .**
**Сны прастору**
**шэпчацца калосьсем, —**
**вёска з горадам едуць браць шлюб!**

Гэтак выглядае агульны абраз беларускай паэзіі ў Усходняй Беларусі ў першы пэрыяд яе разьвіцьця, г. зн. больш менш да 1929 г. Беларуская паэзія змагла ў гэтым часе набраць вялікага размаху і ўзысьці на даволі высокую артыстычную роўню. Хаця не наступіла яшчэ ў гэтым часе дакладная дыфэрэнцыяцыя сярод поэтаў і пісьменьнікаў ані з гледзішча ідэолёгічнаго ані так-жа артыстычнага, аднак зазначыліся ўжо два розныя кірункі: адзін, які абняў пераважную большасьць поэтаў і пісьменьнікаў, — апіраўся на элементах сялянскіх, народных, ігнаруючы савецкую рэчаіснасьць, другі затое, бяднейшы лічбова, рэпрэзэнтаваны поэтамі пераважна мястовага паходжаньня, — прыняў у значнай меры пролетарскае аблічча, стараючыся апісываць праявы соцыялістычнага будаўніцтва. Больш паважныя канфлікты на грунце ідэолёгічным між гэтымі поэтамі не паўставалі, аб чым між іншым можа сьведчыць тое, што ўсе яны спачатку ўходзілі ў вадно літаратурнае згуртаваньне — *Маладняк*, заснаванае ў канцы 1923 г. І толькі ў 1926 г. адбываецца першы разлом сярод „Маладнякоўцаў“: цэлы рад сяброў, як Пушча, Дубоўка, Кузьма Чорны, Бабарэка, Крапіва і іншыя, закладаюць новае літаратурнае таварыства — *Узвышша*, якое гуртавала перадусім поэтаў з выразным патрыётычным аблічам, а так-жа староньнікаў эстэтычнага формалізму. Але і цэлы рад іншых „Маладнякоўцаў“, як Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар, а нават Чарот і Аляксандровіч, ня могучы пагадзіцца з урадовымі тэндэнцыямі арганізацыі, выходзяць з яе ў 1927 г. і ўліваюцца ў новаснаванае літаратурнае аб'яднаньне *Полымя*, якое гуртавала нятолькі маладых сучасных поэтаў і пісьменьнікаў, але так-жа й „нашаніўцаў“.

Як бачым, усе поэты й пісьменьнікі, нягледзячы нават на значныя ідэолёгічныя розьніцы, стаялі здэцыдавана на беларускім грунце. Але прыходзіць зьмена палітычнага курсу ў Саветах, якая радыкальна мяняе ўсё аблічча літаратуры і творыць іншыя ўмовы для ўсяго беларускага жыцьця ў Усходняй Беларусі.

СТ. СТАНКЕВІЧ

(Працяг будзе)

## КАЗКА

Зноў вачыма кудысь плывеш —
у гэты сіні, сіні вечар —
Неасьветленых вуліцаў верш
шалясьціць ізноў новай сустрэчай.

Праз хвіліну — у змрокаў шоўк
ноч агні свае — іскры разьмеча —
Праз хвіліну — да працы ізноў —
Дык расплёскай ты хмель свой, вечар!

Мне здалося —
шумяць галасы
у гонях вулак вясковым напевам —
Аўтабусы — сена вазы —
зацямнелі зусюль —
справа — зьлева —

У задымцы — дзе гоняў даль —
у каласох месяц-серп задзылінкаў —
І вячэрні вызваньвае псальм
пацямнеўшы мурожнік — клінкер —

Зноў вачыма кудысь плывеш —
у гэты сіні, сіні вечар —
Неасьветляных вуліцаў верш
шалясьціць ізноў новай сустрэчай.

1936 г.

## ЯШЧЭ АБ ВОСЕНІ

Калышацца дамы — катафалькі —
у тумане йдуць павольным крокам людзі — зданьні —
Паветра пахне сырасьцю —
мляўка —
Я хаджу таксама ціха —
у жалобе — сяньня.

Навісла неба чорнай харугвай —
на слупох гараць хаўтурныя паходні — сьвечы —
а вецер паніхідзіць у вуглах —
Гэты вечар —
шэры — сумны —
шалясьціць аб нечым.

Ўдаралі сярпом жнеі ў калосьсе —
памірала яно шэлестам у дзень гарачы —
Плыве вось ужо — бачу я — восень —
і маячаць ў дыме вуліц —
копы жыта -- плачкі.

1936 г.

## Я ІЗНОЎ

Ў бездарожжах блукацца даволі
Абтрасу я з вачэй цяжкі сон.
і ізноў загаруся на волі
у вагні ап'яняючых дзён.

Годзе ў песьнях туляцца нядолі,
што вякамі цярпелі дзяды.
Выйду раньнем у роднае поле,
рассьпяваю задор малады.

Бо ціж сэрца стрымаць каму болей,
калі радасьцю пеняцца дні...
Над краінай жуды і патолі
сьпеў юнацкі мацней зазьвіні!

Ў бездарожжах блукацца даволі!
Абтрасу я з вачэй цяжкі сон.
Я хачу загарэцца на волі
у вагні ап'яняючых дзён.

1936 г.

ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ

# У вагоне

Па лініі Жабінка - Гомель ішоў цягнік. На палескую даль хутка падала ноч. Маўкліва выляцелі з балотаў чорныя птушкі і цёмнымі ценямі паплылі па зямлі. Цямнелі сьнягі. У вагонах зажаўцелі ліхтарыкі і ў шыбах адбіліся пераводнымі абразкамі постаці сонных пасажыраў.

А на далі набягалі змрокі.

Шэрай палатнінай імчаў насып і бег у адваротны бок. Плылі — праносіліся і сінелі вечарам асьнежаныя алеі лесу. З іх вылятали птушкі — абрыўкі дыму — белымі хусткамі махалі ў вокны вагону й абрываліся ўніз — падалі на насып.

Паволі калыхаліся вагоны, запрашалі далёкіх падарожных да сну. Пераклікаліся жалейкамі калёсы. Рэдка праходзіў кандуктар, стаўляў на падлогу ліхтар, пакурываў скрутку з махоркі і смачна зяваў.

Рэдка ўлазілі пасажыры, абтрасалі сьнег, тупалі нагамі, з прыгаворамі — прымоўкамі ўсаджваліся й хутка пачыналі драмаць.

Агранам Піліп Шыманюк, усеўшыся выгадна ў куце вагону, ахінуўшыся пальтом, чытаў „Нашу Ніву“. Па выражэньні яго вачэй можна было судзіць, што ён часта адрываецца ад газэты й аб нечым думае — лятуціць. І Шыманюк сам лавіў свае думкі на гэтых перабоях. Але ён тлумачыў іх нэрвовасьцю.

Яму рысавалася сялянская хата ў палескай вёсцы, куды ён ехаў. Ён чытае лекцыю аб вядзеньні гаспадаркі. Пасьля лекцыі сяляне абступаюць яго, пытаюцца, а ён ім пабеларуску адказвае, дае парады...

Гэтыя абразы так ярка й жыва ўсплывалі ў выабражэньні агранома, што ён мімаволі схапляўся й стараўся вярнуць спакой сваім думкам. Ён тады ўглыбляўся ў газэту, трохі хмурачы бровы. Але абразы ізноў усяўладна абхаплялі агранома.

Рэдкія станцыі на хвіліну адварочвалі яго ўвагу ў іншы бок. Белы, занесены сьнегам пэрон — праз адагрэтае вочка шыбы — навяваў нейкі нявыразны, сумны настрой.

Пасажыры выселі й агранам астаўся адзін. Сьвісток, глухі крык кандуктара з задняе часьці цягніка, — і ізноў мернае калыханьне вагону.

— Нудна тут жыць — думалася аграному, — але людзі жывуць і яны хіба здаволены сваім жыцьцём, якое яно ня ёсьць. Завеяць сьнягі, адарвуць палескія вёскі ад сьвету... Бліжэйшае мястэчка, дзе нешта прадасца часам і купіцца — уся сувязь з культурным сьветам. Але жывуць людзі, вякамі жывуць.

Цягнік паволі грымеў, як-бы жалезнымі цапамі малаціў палескую даль. На пераезьдзе спыніўся і ізноў загрымеў у маразяную ноч.

У вагон увайшоў нейкі чалавек, прайшоўся праз пусты вагон і ўсеўся насупроць агранома.

Агроном зірнуў на пасажыра й погляды іх сустрэліся.

З за шэрае заслоны гадоў мільганула вясёлае студэнцтва. Няўжо ён? І нясьмела спытаўся:

— Міхась...

І ў адказ прарваліся пастарому юнацкі сьмех і радасьць. Пачалі гаварыць, як няраз гаварылі ў студэнцкім гуртку, горача, шчыра. Аграному стала неяк весялей і здалося, што людзі могуць жыць і ў такой мёртвай глушы, жыць поўна, багата...

— Чорт вазьмі! — ня мог супакоіцца Міхась ад радасьці — колькі лет, колькі зім!.. Гара з гарой ня зыйдзецца, а чалавек... Якім ты цудам трапіў у гэтую тайгу?

Агроном з прыемнасьцю расказаў аб лекцыі, якую ён едзе чытаць. Ён цяпер — інструктар агракультуры, так сказаць, і вельмі здаволены. Ён лічыць гэтую працу вельмі важнай для беларускага адраджэньня.

— Ерунда! — абрэзаў яго Міхась. — Гэтая работа — гэта непатрэбная трата энэргіі, бескарысная трата, гэта — самаашуканства й самаапраўданьне. Вы — культурнікі...

І Міхась засьмяяўся на ўвесь вагон.

— А ты скажы, — пачаў з запалам гаварыць далей Міхась, ківаючыся ў такт цягніка, разводзячы рукамі, — ты скажы мне, ці шмат палепшылі вы жыцьцё народу?

— Палепшылі — адазваўся агроном.

Ён хітра пазіраў на Міхася й дзівіўся з аднаго. Гэты Міхась, такі апатычны студэнт, які цэлымі днямі з кніжкай валяўся ў ложку, раптам цяпер такі заядлы рэвалюцыянер...

— Палепшылі — ха-ха-ха! — нэрвова сьмяяўся Міхась і здавалася, што ён хоча гэтым едкім сьмехам зьнішчыць сваіх праціўнікаў, хоча сказаць тое, што кіпіць у яго...

— Вы — пазытывісты, фразэолёгі, якія баяцца змагацца, якім выгадней сядзець бясьпечна ў цёплых пакоях і гаварыць прыгожыя словы аб асьвеце, культуры, штучных гнаёх. А тымчасам дзякуючы вашай культуры дэнацыяналізацыя ідзе шырокай хваляй. І хто ў гэтым вінаваты? Вы, адны вы, бязумоўна — вы.

— Ня думай, Міхась, што як сотня — дзьве інтэлігентаў здэнацыяналізуецца, дык ужо й Беларусь загіне. Глупства! Нам гэта ня страшна, бо мы гэта ўжо бачылі. Але народ, народ не здэнацыяналізуеш так лёгка, ён вякі ператрываў і ня згінуў.

— Так, але вы забываецеся, што цяпер ня той патрыярхальны век, калі сабе сяляне хадзілі ў нацыянальных вопратках і так далей. Цяпер — век тэхнікі. А вёску бяруць за горла, вось так. А гэтага ўжо не ператрываем.

Міхась змоўк і ў манатонным, бясконцым шуме цягніка вырастала нешта цяжкое, неразьвязанае.

— Не, вы адыйшлі далёка ад народу й пачынаеце рабіцца хітрымі інтэлігентамі — пачаў ізноў Міхась.

Аграном далей хітра пазіраў на яго й чакаў адпаведнага мамэнту, каб трохі „асадзіць“ Міхася, але ён гаварыў нястрымана.

— Ну, добра. Вось ты прыехаў, чытаеш лекцыю, выабразім, што цябе сяляне нават зразумелі, твае там азоты, супэрфасфаты і іншую хімію. А за што яны гэта купяць? За што? Калі яны есьць ня маюць чаго? Калі яны лямпы ня паляць? Не, брат, культура — гэта прыгожыя слоўцы і больш нічога. Культура ў нас павінна быць і палітыкай.

Міхась ізноў замоўк на хвіліну, гатоў зараз-жа выбухнуць, і аграном скарыстаў з гэтага.

— Перадусім, ня трэба нэрвавацца, Міхась. Спакойна.

— Так, спакойна... Вы — спакойныя, я ведаю.

— Ды ні чарта не спакойныя — абурыўся аграном. — Сам ты ерунду пляцеш. Ты верыш у бомбу, а мы ня верым, а хто больш карысьці прынясе — невядома. Ты думаеш, гэты селянін так і пачне будаваць сам жыцьцё, калі яму дасі магчымасьць. Іншыя махеры яго пачнуць ціснуць і ён усёроўна будзе „гарматнім мясам“.

— За 15—20 гадоў вырасла-б новае пакаленьне, якое прайшло-б школу і яно-б будавала... — адазваўся Міхась.

— Добра, добра, але — на цяпер ты ўсё зводзіш толькі да нішчэньня, і больш нічога. А можа так патрывае 20—50—70 гадоў... А селянін будзе такім цёмным, і дзеці сялянскія будуць паміраць ад бруду й сухотаў. Трэба ўсьведамляць народ. Ня толькі штучныя гнаі. Дык і штучныя гнаі мог-бы мець селянін, калі-б ішоў у коопэратывы, калі-б разумеў іх сілу й значэньне. Ты думаеш не знайшлося-б у нас людзей якія кідалі-б бомбы. Напэўна, знайшліся-б Грынявіцкія. Але мы ня верым у бомбу, бомба — гэта толькі кроў і рэпрэсіі.

Міхась слухаў спакойна, і іранічна ўсьміхаўся.

— Вось вы ўсьведамілі сялянства, казаў ён — і яно зрывае сьпелы плод. Так бярэ ручкай і зрывае Ты бачыш гэтае сьвята народу? А ворагі нашыя толькі пляскаюць ручкамі і пахрысьціянску здаволеныя. Сьмяешся, брат. Ніводзін народ ня ўзяў сабе незалежнасьці без барацьбы.

— Але ня ўзяў і без падгатаваўчае працы.

Цягнік спыніўся ізноў. І цішыня ў вагоне была напружанай і няпрыемнай. Праз адхуканую шыбу — відаць, як нейкі пасажыр з валізкай выбег із станцыі, бразнуўшы дзьвярыма, і сьпешна пераходзіў жалезнадарожныя рэйкі. На пэроне пахаджваў „пабеданосна“ жандар. Кандуктар замігцеў ліхтаром. І ізноў запяялі аб сіняй далі калёсы.

— З табой піва ня зварыш — сказаў Міхась, як ізноў рушыў цягнік.

— А я, брат, змучаны. Трэцяю ноч ня сплю. Засну трохі. Ты мяне каля Мозыра збудзіш.

Міхась нацягнуў каўнер на галаву, закрыў рукамі твар і хутка заснуў.

А аграному ня спалася. Думкі неяк забіліся й неспакойна нейк было на душы.

А можа й праўду кажа Міхась?... Можа сьмеласьці няма ў нас, можа мы, праўда, ціхі народ, які ня зможа тварыць сваей гісторыі?

Думка хутка працавала, адна зьбівала другую, адна сьмяялася над другой, а ў сэрцы агранома — ізноў цягучы сум.

Але ці-ж народ, які мае такіх Міхасёў і Піліпаў, можа згінуць?... Хай яны ідуць рознымі дарогамі, хай яны змагаюцца нават між сабой, але ўжо сам факт...

Імчаўся цягнік, запрашаў заснуць, але думкі ня сунімаліся. Вось ён, няшчасны, бедны аграном, сын гэтае зямлі, мучыцца, працуе, аддае жыцьцё для народу. Ён згіне, але іншыя заступяць яго ў гэтай працы. Усё-ж будзе лепей і лепей.

Стукалі колы на пераездах, а спалоханыя думкі круціліся ў змучанай галаве.

Усё-ж наша праграма — праграма ўступак — думаў агрaном...

А Міхась спаў. Ён варочаўся, нешта гаварыў праз сон. Пальто раскінулася, рука бязвольна апала з напружанымі сінімі жылкамі. Бедны Міхась! Мала зьмяніўся. Толькі маршчыны глыбей уеліся ў твар.

Аграном з нейкай любасьцю прыглядаўся да заспанага твару спадарожніка. Яму хацелася разгадаць яго, вось так пабачыць яго душу, ясна, блізка.

І аграном заўважыў, што на падлозе вагону валяецца Міхасёў стары партман. Паперкі выпалі й раскідаліся.

Аграном акуратна іх падабраў і пачаў разглядаць Візыткі, нейкія фатаграфіі. Можа сымпатыя Міхася тут ёсьць... І раптам вочы агранома спалохана забегалі і ён анямеў. Пільна паслухаў глыбокае дыханьне Міхася. Дрыжачымі рукамі трымаў паперку і не адважваўся яшчэ раз глянуць на яе.

— Не, ня можа быць? — гаварыла нешта, не хацела згадзіцца, бунтавалася.

— Ня можа быць. Міхась — сышчык? Што гэта?

Але ў паперцы выразна пісалася.

Паперка выразна казала, што так.

Аграном бязьсільна зьвесіў руку, а ў ёй дрыжала маленькая, дробная паперка.

Сталася неяк балюча й сумна.

Асьцярожна ўлажыў ён у пальто партман і ўсунуўся глыбей у кут і заплакаў. Ён, аграном, з вусікамі, дарослы чалавек — плача... А Міхась — сьпіць. А хвілінку таму назад ён парушыў увесь яго ідэйны сьвет...

У вакно пачаў прадзірацца нясьмелы шэры золак. На станцыі ўсеўся нейкі жыд, відаць купец, асьцярожна азірнуўся й ціха сеў у вагоне.

Міхась пацягнуўся й ускочыў на ногі.

— А а — зяўнуў нарасьпеў.

І ізноў пачаў гутарку.

— Мы можа выйдзем у калідор — запрапанаваў аграном — асьвяжыцца.

У калідоры абдало халадком. Закурылі. У шыбе сьветлымі зорачкамі мігцелі ваганькі папяросаў. Сьвятлела ўсё больш. З шэрага расьсвету выплывалі цёмнай істужкай лясы. Пад раніцу быццам шыбчэй ішоў цягнік. Праносіліся вёскі, можа там ужо пачыналася жыцьцё. Можа па ваду нехта йшоў, мо, кароў ужо даілі...

Міхась з сьвежай энэргіяй пачаў ізноў —

—Вось гэтыя вёскі...—ён развёў рукой, але аграном схапіў яго моцна за худую шыю, сьціснуў з усяе сілы, што Міхась пабялеў.

Павеяла сыпучым сьнегам, а з пад колаў выляцеў абрывісты шум. Нязграбна чапляўся Міхась за абледзянелыя сходкі вагону й зьляцеў уніз. Аграном упэўніўся, ці ён трапіў пад колы.

Моцна зацягнуўся папяросай. Стукала сэрца й рукі дрыжэлі.

— Каб нават і не на сьмерць, замерзьне — праляцела думка.

А цягнік імчаў і імчаў. Міналі станцыі. Калыхаўся вагон. У куце пастарому сядзеў аграном, ахінуўшыся пальтом.

У душы ўзьнікала новае, неразгаданае пытаньне:

— А можа Міхась верыў у тое, што казаў...

---

Праз некалькі дзён у газэце паявілася ў хроніцы зацемка:

„Недалёка ад станцыі Жыткавічы на жалезнай дарозе знойдзены труп невядомага чалавека. Сьмерць наступіла найпраўдападобней з прычыны неасьцярожнасьці. Распачата сьледзтва“.

---

Замятаюць сьнягі Палесьсе. Закурэла мяцеліцай даль. Налятаюць вятры і ўзбіваюць сьнежныя гурбы, з хаўтурным напевам ударающца ў тэлеграфныя драты.

Зум... Зум...

А дэпэша паволі, вымоўна цэдзіць:

— На лініі... „усилить надзор“...

Та — татаа — та — — — — —

1936 г.

М. ДАЛЬНЫ

# Інтэлігенцыя ў беларускім культурна-грамадзкім жыцьці

Сучасныя абставіны беларускага культурна-грамадзкага жыцьця ў значнай ступені залежаць ад тых суадносінаў, каторыя паўсталі ў выніку сусьветнай вайны. Беларусы, нягледзячы на свае спробы, не маглі прыняць удзелу ў вырашэньні гэтых суадносінаў, выпаўшых для іх некарысна, асталіся народам недзяржаўным, апынуўшыся прытым у межах трох розных дзяржаваў. Якая колечы культурна-грамадзкая лучнасьць паасобных часьцінаў зрабілася амаль немагчымай. Кожная жыве сваім асобным жыцьцём, характар якога ў дадатку залежыць ад агульных грамадзка-культурных адносінаў дадзенай дзяржавы. А адносіны гэтыя, калі ідзе аб дзьве найвялікшыя часьціны беларускага народу — дыямэтральна сабе процілежныя. Гэтыя фактары бязумоўна адʼемна дзеяць на разьвіцьцё нашага грамадзка-культурнага жыцьця ў усебеларускім маштабе. Але апрача гэтага, на яго фармаваньне ўплываюць іншыя некарысныя дзейнікі, з якіх адцемім два найважнейшыя.

Пасьля першага па вайне ўздыму дэмакратычных формаў жыцьця ў краёх Заходняй Эўропы, хутка надышоў іх заняпад. Побач з паўстаўшым яшчэ ў часе сусьветнай вайны комунізмам у Ўсходняй Эўропе, вытварыўся на Захадзе новы кірунак грамадзкае думкі—фашызм. Абодва кірункі, сьпешна праводжаныя ў жыцьцё, хоць і зьяўляюцца сабе процілежнымі, аднак маюць адну супольную рыску — антыдэмакратычны характар. Партыі, захапіўшыя ўладу ў дзяржавах, абапёртых на асновах фашызму ці комунізму, накідаюць згары пэўныя формы грамадзкага і культурнага жыцьця нават большасьці свайго насельніцтва, прызнаючы толькі за сабой выключнае права яго рэгуляцыі. Зразумела, што гэтакае рэгуляваньне жыцьця нават дзяржаўнага народу, можа зусім яго здэформаваць, а тымбольш грамадзкакультурнае жыцьцё народу недзяржаўнага, для якога дадзены кірунак думкі можа быць ня толькі чужым, але і супярэчным з яго сапраўднымі інтарэсамі.

Пры бязупынным узросьце насельніцтва ў паасобных дзяржавах, трываючым бязконца экономічным крызысе і дзякуючы розным няўдалым спробам у галіне структуры грамадзка-экономічных адносінаў і заблытанай міжнароднай сытуацыі,—штораз часьцей абсэрвуецца зьявішча неадпаведнае цыркуляцыі грамадзкага даходу і яго падзелу. Зьявішча гэтае асабліва кепска адбіваецца на жыцьці дзяржаваў экономічна слабейшых, якія апынуліся ў тэй прыкрай сытуацыі, што ня могуць здаволіць экономічных патрэбаў усіх сваіх грамадзян. Адсюль перадусім бярэ свой пачатак узрост хвараблівых нацыяналістычна-шовіністычных праяваў сярод народаў дзяржаўных, што апынуліся ў падобнай сытуацыі. Падаецца часта найбольш прос-

тае разьвязаньне ўспомненага пытаньня такім спосабам, каб супакоіць патрэбы выключна сваіх аднапляменьнікаў коштам г. зв. „меншасьцяў“,—якія з гэтага гледзішча трактуюцца як нейкі цяжар. Найбольш яркім прыкладам гэткіх праяваў ёсьць сучасныя няпрыязныя адносіны да нетэрытор'яльнае меншасьці — жыдоў—у шмат якіх краёх Эўропы.

Раўналежна з гэтым паяўляюцца імкненьні пазбавіць меншасьці і іхняга самастойнага грамадзка-культурнага жыцьця. Зьявішча гэтае сяньня натолькі характэрнае, што спасьцярагаюцца факты, калі малыя народы, што яшчэ так нядаўна самі былі паняволенымі, сяньня выступаюць ужо ўзброенымі да зубоў ува ўсе нацыяналістычна-шовіністычныя атрыбуты і тасуюць да меншасьцаў яшчэ горшы ўціск, чымся самі мелі (прыкладам Латвія і іншыя).

Паказаныя факты, як дзейнікі вонкавыя, маюць аж надта ад'емны ўплыў на беларускае грамадзка-культурнае жыцьцё наагул. У далейшым мы будзем разглядаць толькі грамадзка-культурнае жыцьцё ў Заходняй Беларусі, якому перадусім будзе пасьвечаная і ўся „Маладая Беларусь“.

Трэба адразу сьцьвердзіць, што роўня нашага культурна-грамадзкага жыцьця ў Зах. Беларусі даволі нізкая. Яна далёка не адказвае нашым духовым і матар'яльным сілам нават пры сучасных агульных абставінах. А яшчэ не так даўно жыцьцё гэтае было куды буйнейшым і мела добрыя пэрспэктывы на будучыню. Мы далёкія ад таго, каб усю віну за нездавальняючае выкарыстаньне нашых духовых і матар'яльных сілаў зваліваць на беларускую інтэлігенцыю, каторая адзначаецца ўсёж такі вялікай ахвярнасьцяй і патрыятызмам.

Факты рэнэгацтва між ёй надта рэдкія, а калі і здараюцца, дык выкліканыя ня ідэяй, а толькі прычынамі матар'яльнымі. Аднак у вялікай ступені адказнасьць за сучасны стан нашага грамадзка-культурнага жыцьця падае якраз на інтэлігенцыю, бо фактам натарычна ведамым ёсьць, што апрача паказаных вонкавых дзейнікаў, ад'емна ўплываючых на нашае жыцьцё, сярод нашай інтэлігенцыі наглядаецца цэлы рад хвараблівых праяваў нутранага характару, недапушчальных у грамадзянстве сьведамым сваіх высокіх мэтаў і заданьняў. Гэтыя хваробліваыя праявы натолькі небязьпечныя, што пры далейшым іх разьвіцьці яны пагражаюць разьбіцьцём беларускае інтэлігенцыі на пааасобныя варожыя сабе групы, абядненьнем яе інтэлектуальнае думкі — дзеля чаго творчая роля інтэлігенцыі ў жыцьці народу можа быць зьведзяная да нуля. Ня трэба шмат думаць, каб падаць сутнасьць гэтых нашых хвараблівых праяваў. Успомнім аб найважнейшых.

1. Наглядаецца поўны заняпад усялякае толеранцыі да інакш думаючых і паступаючых і — як далейшая праява гэтага — адсутнасьць пашаны да чужой дзейнасьці, карыснай у грамадзка-культурным жыцьці народу, але нязгоднай з паглядамі і ацэнай

дадзенай групы. Праява гэтая натолькі відавочная, што над ей ня варта далей спыняцца. Трэба толькі зацеміць, што з гэтага гледзішча беларускае сучаснае грамадзянства зьяўляецца ідэальным адбіцьцём беларускага-ж грамадзянства XVII стагодзьдзя, калі, разьедзенае нутранай рэлігійнай барацьбой, яно ўзаемна зьядалася ў розных дагматычных спрэчках, аддаючы гэтым бязплодным дыскусьям усе свае духовыя сілы, здольнасьці, працу; калі найбольш правільных перасьцярогаў не хацелі слухаць толькі дзеля таго, што яны паходзілі ад „праціўніка". Канец, да якога давяла гэная барацьба, быў аж надта сумны і ўсім добра ведамы

2. Нязвычайна вузкі пагляд на беларускую інтэлігенцыю і народ, каторыя трактуюцца як нейкія недасьпелыя арганізмы, вымагаючыя апекі і ў дадатку прымітыўнай, а якую быццам цалком можа забясьпечыць дадзеная група. У галіне нашага культурна-грамадзкага жыцьця гэтае з'явішча спасьцярагаецца з асабліваю яркасьцю. Досыць, прыкладам, нейкаму часапісу абвесьціць, што ўвэдзе сельска-гаспадарчы аддзел, як група, каторая апрабуе іншы гаспадарчы часапіс, пачынае алярм, даказываючы, што ўжо існуе адзіны гэтакі часапіс, які цалком можа здаволіць патрэбу для вёскі гаспадарчае веды, хоць гэты часапіс, прыкладам, выходзіць адзін раз на месяц і ў некалькі бачын. Досыць нейдзе успомніць, што будзе выходзіць другі літаратурна-навукова-грамадзкі часапіс, як пачынаюцца нараканьні — нашто гэта, каму патрэбна, ужо-ж існуе адзін літаратурна-навуковы часапіс. І з энэргіяй, сапраўды годнай лепшае справы, пачынаюцца досьледы над тым, якая „варожая сіла" паклікае новы часапіс да жыцьця. Ігнаруецца пры гэтым цалком той бясспорны факт, што беларускае жыцьцё ўва ўсіх яго праявах з году ў год ідзе наперад, што беларуская інтэлігенцыя ўсьцяж расьце і лічбова і якасна, што патрэбы гэтага жыцьця вымагаюць здаваленьня больш разнаякага і ў шпарчэйшым тэмпе, чымся гэта здаецца пасобным групам.

3. Імкненьне да кіраўнічых роляў і нават дыктатураў, а неахвота і няўмеласьць весьці штодзенную працу. Характэрызуецца гэта тым, што наглядаецца хваробліваe імкненьне быць „генераламі" ў руху і даваць загады, але ня звычайнымі працаўнікамі, выконываючымі загады. Гэтым паясьняюцца тыя сумныя факты нашага культурна-грамадзкага жыцьця, што няраз пастановы паасобных інстытуцыяў, надта карысныя, на апрацоўку якіх пайшло мноства паседжаньняў, нарадаў, гутарак, па іх абвешчаньні, адразу заміралі і ніколі не праводзіліся ў жыцьцё толькі дзеля таго, што ня было каму ўзяць на сябе „чорнай" працы, неабходнай дзеля іх выкананьня — хоць людзей было даволі нават у кругу тэй самай групы. Зьявішча гэта шкоднае нятолькі дзелятаго, што займае мноства часу і стварае некаторую штучнасць жыцьця, але адвучае ад канкрэтнай штодзеннай працы, больш карыснай ад грудаў нявыкананых пастановаў.

4. Узрост пачуцьця безадказнасьці за сваю дзейнасьць сярод паасобных кіруючых адзінак, самаволя і лёгкаважаньне сваіх абавязкаў, што даводзе часам да неадрозьніваньня справаў грамадзкіх ад асабістых.

5. Сярод некаторае часткі беларускае інтэлігенцыі спасьцерагаецца зьявішча культываваньня бязплоднае крытыкі дзеля яе самой, абсалютнае нэгацыі ўсяго існуючага, усякіх пачынаньняў у нашым грамадзка-культурным жыцьці, скуль-бы яны не паходзілі. Людзі падобнага тыпу — гэта пераважна толькі наглядчыкі беларускага культурна-грамадзкага жыцьця, бо прыймаць нейкі бліжэйшы ўдзел у ім яны з натуры сваей ня могуць. А калі прыпадкам хоць адзін з іх апынецца сярод пачынальнікаў якой небудзь найнявіньнейшай імпрэзы, дык сваім іранічным адношаньнем да справы, обструкцыйнай крытыкай і бязьмежным пэсымізмам ён здольны распыліць усялякую працу. Характэрна, што людзі гэтыя з свайго боку не даюць ніколі позытыўнага выхаду з сытуацыі, імі-ж створанай, і калі іх аб гэтым пытацца, лічаць за найбольш адпаведнае маўчаць.

Пералічаныя і ім падобныя прычыны выклікаюць тое зьявішча, што новая беларуская інтэлігенцыя ня можа знайсьці сабе працы ў існуючых арганізацыйных формах і як-бы астаецца паза кругам нашага грамадзка-культурнага жыцьця; пэрсональны-ж склад нашых арганізацыяў трывае ўсьцяж амаль той-жа. Адсюль няраз прыходзіцца чуць памылковы закід, быццам беларуская інтэлігенцыя не расьце — а тым самым заміраe, — што цалком не адказвае сапраўднасьці. Аб'ектыўны наглядчык бязумоўна сьцьвердзіць, што, нягледзячы на вялікія перашкоды, беларуская інтэлігенцыя ўзрастае ня толькі колькасна але і якасна.

Праўда, недахоп арганізацыйных формаў, у якіх яна магла-б выявіць сваю шырэйшую дзейнасьць, выклікае расьцярушанасьць яе сілаў і нават аслабленьне з тых ці іншых прычынаў ейных радоў, але матар'ял, з якога могуць вытварыцца добрыя зарганізаваныя кадры, бязумоўна ёсьць. Наглядаецца і другое пацяшаючае зьявішча — гэта зразуменьне вялікай шкоднасьці пералічаных і іншых балячак нашага нутранага жыцьця і жаданьне парваць з імі назаўсёды. Гэта ўжо стварае здаровыя ідэолёгічныя асновы дзеля абнаўленьня нашай культурна-грамадзкай дзейнасьці і ясьнейшыя пэрспэктывы ейнага разьвіцьця.

Выступаючы на арэну грамадзка-культурнае працы незарганізаваная маладая беларуская інтэлігенцыя павінна знайсьці сабе формы, якія-б дазвалялі ёй на найбольш прадуктыўнае выкарыстаньне сваіх сілаў і здольнасьцяў. Немагчымы ў рамах гэтага артыкулу больш падрабязны разгляд гэтага пытаньня ды і ўрэшце яно можа быць вырашана толькі супольнымі натугамі беларускай інтэлігенцыі. Але на наш пагляд не да прыняцьця была-б тутака ізоляцыя ад існуючых беларускіх культурна-грамадзкіх установаў, што сяньня разьмежаны між сабой кітайскімі

сьценамі. Пажаданым і нават неабходным ёсьць прыплыў да іх маладых сілаў, каторыя маглі-б унесьці новы дух у іхнюю працу, новыя пэрспэктывы і шляхі, а перадусім — разбурылі-б тыя сьцены, што іх дзеляць, ствараючы гэтым магчымасьць каардынацыі працы дзеля асягненьня тых мэтаў, якія ставіць сабе незалежна думаючае беларускае грамадзянства, вольнае ад якіх-колечы ар'ентацыяў.

Другі мамэнт, каторы, паводле нашае думкі, маладая беларуская інтэлігенцыя павінна ўважаць за аснову і мэтад сваей дзейнасьці — гэта бязупынная праца над сабой у кірунку дасканаленьня сваей культурна-грамадзкай веды і выхаваньня, гэтак неабходных ня толькі ў працы на гэтай ніве, але і ў узаемаадносінах. Нездавальняючая роўня культурна-грамадзкага выхаваньня нашага грамадзянства, а што за гэтым ідзе, і неразуменьне мэтаў і патрэбаў беларускага народу, ёсьць аднэй з найважнейшых прычынаў — каторыя выклікалі вышэй успомненыя балячкі нашага культурна-грамадзкага жыцьця.

Маладая беларуская інтэлігенцыя мусіць выкарыстаць навуку дасюлешняга жыцьця і ў сваей дзейнасьці на ніве беларускай культуры і грамадзкасьці не павінна палохацца перашкодаў, каторыя на яе шляхох паўставалі і паўстаць могуць.

М. ШКЯЛЁНАК

# Повесьці й апавяданьні беларускіх (крывіцкіх) летапісцаў *)

## Беларускія (крывіцкія) летапісцы

Паводле пары паўстаньня беларускія (крывіцкія)[1]) летапісцы дзеляцца на тры вялікія групы: 1. летапісцы, паўсталыя да XIV стагодзьдзя; 2. летапісцы, паўсталыя ад XIV — XVII стаг. ўлучна і 3. летапісцы, паўсталыя ў XVIII стаг.

Мова будзе аб беларускіх летапісцах другое пары, г. зн. напісаных у XIV—XVII стаг. Гэта была пара, калі беларускі народ быў злучыўшыся ў вадным сваім гаспадарстве, ведамым пад назовам Вялікага Княства Літоўскага.

Сьпіскі беларускіх летапісцаў. Беларускія летапісцы захаваліся не асобна кожны, але ў зборніках. Арыгіналы летапісных зборнікаў узноў такі загінулі, а захаваліся сьпіскі — копіі з іх.

Назовы свае сьпіскі дасталі ад асобы ці месца, дзе былі знойдзены ў XIX і XX стаг., або ад месца, дзе яны цяпер ёсьцека. Гэтак, прыкл., сьп. Быхаўцаў у часе знаходу належыў да Аляксандры Быхаўца.

Падамо колькі ведамасьцяў аб сьпісках.

1. Сьпісак Супрасьльскі знойдзены ў 1820 г. ў зборніку Супрасьльскага манастыра (ля Беластоку); напісаў яго ў 1519 г., перапісуючы арыгінал летапіснага зборніка або ранейшую копію, Рыгор Івановіч, паповіч, слуга князя Сямёна Адзінцэвіча. Арыгінал гэтага зборніка складзены быў кім іншым у першай палавіне XV стаг.

2. Сьп. Увараўскі дахаваўся ў зборніку графа А. Уварава. У XVI стаг. ён належыў да князёў Слуцкіх. Сьпісак напісаны ў канцы XV стаг.

3. Сьп. Нікіфараўскі, паводле традыцыі, быў вывезены із Жыравіцкага манастыра, дахаваўся ён у зборніку Н. Нікіфарава.

---

*) Заданьнем гэтага артыкулу ёсьць пашырэньне здабытых навукаю ведамасьцяў аб апавяданьнях у беларускіх летапісцах ды аб самых летапісцах. Дзеля таго артыкул адно ў невялічкай меры самастойны, а наагул папулярызуе ведамасьці, падаваныя ў працах выліčаных на канцы, асабліва ў менаванай там працы Т. Сушыцкага.

1) Назовы „Крывіч", „крывіцкі" і г. д. і „Беларус", „беларускі" і г. д. ужываюцца ў тым самым значэньню.

4. Сьп. Віленскі або Аўраамкаў перад вайною быў у Віленскай публічнай бібліётэццы. Напісаў яго ў 1495 г. ў Смаленску Аўраамка, асоба духоўная, што відаць із цытатаў яго із сьв. Пісьма. Ён быў блізкі да япіскапа Смаленскага Язэпа Баўгарыновіча, што бачым з гэткае прыпіскі: „у лета 7003 (1495) напісана бысьць сія кніга, глаголемы летапісец, у градзе Смаленсьце, пры дзяржаве вялікага князя Аляксандра, ізваленьням Божыем і павяленьням гаспадзіна ўладыкі япіскапа Смаленскага Іосіфа, рукою мнагагрэшнага раба Божыя Аўраамкі".

5. Сьп. Патрыяршы напісаны ў канцы XVII стаг. галоўна каля Воршы й Магілева. Арыгінал зборніка паўстаў у пач. XVII стаг. Часьць Патрыяршага сьпіску складае мясцовы Баркалабаўскі летапісец, абыймаючы час ад 1563 — 1608 г. і напісаны ў канцы XVI і пач. XVII стаг. ў Баркалабаве, Быхаўскага пав. Аўтарамі яго былі два прав. сьвяшчэньнікі: Аляксей Гаўрылавіч Мсьціславец і Хведар Піліповіч Магілевец, каторага прызнаюць так-жа ўкладчыкам усяго гэтага сьпіску (яго арыгіналу).

6. Сьп. Рачынскага ў беларускім зборніку бібл. Рачынскага ў Пазнані. Як і ўвесь зборнік, летапісец у XVI стаг. належыў да Уніхоўскіх з Наваградзкага пав. Напісаны каля 1580 г.

7. Сьп. Быхаўцаў дахаваўся напісаны лацінскімі літарамі ў канцы XVI або пачатку XVII стаг. З фонэтыкі захаванае копіі відаць, што апошнім перапісавальнікам быў Украінец. *Ф. Нарбут* надрукаваў гэты сьпісак у сваёй працы „Pomniki do dziejów litewskich" (Вільня, 1846). Просьле гэтага сьпісак Быхаўцаў зьгінуў. Праўдзівасьць надрукаванага Нарбутам тэксту пацьвярджаецца шмат якімі мясцамі польскай хронікі Стрыйкоўскага, прыводжанымі ім з беларускіх летапісцаў.

Апрача вышменаваных ёсьць яшчэ гэткія сьпіскі беларускіх летапісцаў: Акадэмічны, Дуброўскага, Румянцаўскі, Красінскага, Архэёлёгічны, Яўрэінаўскі, Ціханраваў і Альшэўскі — усяго 15 сьпіскаў. Пры гэтым трэба заценіць, што сьпісак Альшэўскі захаваўся ў польскім перакладзе. Асобны летапісец (ня зборнік) пад назовам „Origo regis" захаваўся ў перакладзе лацінскім. Захавалася яшчэ сьпіскаў 9 радаводаў „вялікіх князей літоўскіх".

Ня мала беларускіх летапісных сьпіскаў загінула. Сьведчаць аб гэтым польскія хроністыя Стрыйкоўскі й Бельскі, што карысталіся большай колькасьцяй беларускіх сьпіскаў, чымся мы маем цяпераka.

Сьпіскі крывіцкага летапісцу не адразу сталі ведамы навуццы. Знойдзены яны былі ў часе ад 1820 г. да сусьветнае вайны. Апошнім быў знойдзены сьпісак Ціханраваў.

У меру знаходжаньня сьпіскі былі друкаваны, некаторыя па колькі разоў. Аднак выданьні іх мелі мноства заганаў. У 1907 г. выйшла поўнае й добрае выданьне беларускіх летапісцаў. Зрабіла яго Археёграфічная Комісія Пецярбурскай Акадэміі Навук пад рэд. С. Пташыцкага й А. Шахматава. Тут крывіцкія лета-

пісцы XIV — XVII стаг. пад назовам „Западно русскія лѣтописи" склалі XVII том „Полнаго собранія русскихъ лѣтописей", пазьней перавыданы. У выданьню Археёграфічнае Комісі надрукаваны ўсе сьпіскі крывіцкіх летапісцаў, з выняткам сьпіску Ціханрававага, знойдзенага пазьней; надрукаваны так-жа лацінскі тэкст „Origo regis", „Пахвала Вітаўту" паводле запісу 1428 г. і 9 сьпіскаў радаводаў „вялікіх князей літоўскіх".

Знойдзены пазьней сьп. Ціханраваў выдаў С. Разанаў у час. „Українськиі Науковий Збірник", Масква 1915 г.

Паводле XVII т. „Полн. собр. рус· лѣт." *В. Ластоўскі* перадрукаваў у Коўні 1925 г. сьпісак Рачынскага. Выданьне Ластоўскага з языкаведнага гледзішча не даволі ўважнае, языкаведнікі ім карыстацца ня будуць. Дзеля таго ня было патрэбы захоўваць у перадруку царкоўна-славянскага правапісу, што ў несьпэцыялістых прыводзіць да хвалшывага прадстаўленьня аб фонэтыцы старабеларускага языка.

Р э д а к ц ы і к р ы в і ц к і х л е т а п і с ц а ў. Усе вышменаваныя сьпіскі дзеляцца на тры групы: 1. кароткія сьпіскі — Супрасьльскі, Увараўскі, Нікіфараўскі, Акадэмічны, Віленскі й Дуброўскага; 2. даўжэйшыя або пашыраныя сьпіскі — Красінскага, Патрыяршы, Рачынскага, Яўрэінаўскі, Румянцаўскі, Археёлёгічны, Ціханраваў і 3. адзін найвялікшы сьпісак — Быхаўцаў.

Першая група розьніцца ад абедзьвіх іншых тым, што стаіць у цеснай сувязі із Смаленскім летапісаньнем і ня мае выдуманай казачнай гісторыі беларускага народу. З усіх кароткіх сьпіскаў найпаўнейшыя Супрасьльскі й Увараўскі, прычым гэты старшы, але гэны найтыпічнейшы. Сярод групы пашыраных сьпіскаў найлепшы сьпісак Красінскага.

Сьпіскі першае групы вельмі падобныя адны да адных, яны маюць блізу аднолькавы тэкст; дзеля таго складаюць адну рэдакцыю беларускіх летапісцаў, пайменна *рэдакцыю кароткую.*

Пашыраныя сьпіскі ладне розьняцца паміж сабою, але й яны на гэтулькі блізкія, што складаюць адну другую — *пашыраную рэдакцыю* беларускіх летапісцаў. Пашыраная рэдакцыя паўстала такім спосабам, што ў яе ўвайшоў увесь *зьмест* рэдакцыі кароткае, але ў *хворме* часта зьмененай, перарobленай ды дадана казачную гісторыю крывіцкага народу і гістарычныя весьці з часоў просьле ўлажэньня кароткае рэдакцыі. Ёсьць і некаторыя іншыя розьніцы.

Спісак Быхаўцаў ёсьць цяпер адзіным прадстаўнікам трэйцяе рэдакцыі беларускіх летапісцаў. Яна была ўкладзена з сьпіскаў кароткае й складанае рэдакцыі, пры чым менаваныя сьпіскі ў трэйцяй рэдакцыі былі компілятыўна ператвораны. Вельмі важным зьявішчам у трэйцяй рэдакцыі ёсьць тое, што летапісны зборнік быў вельмі пашыраны на аснове новага матар'ялу. Дык-жэ характэрнай асаблівасьцяй сьпіску Быхаўцавага ёсьць найпаўнейшае выкарыстаньне матар'ялаў з гісторыі беларускага народу

і яго гаспадарства. Дзеля таго трэйцяя рэдакцыя завецца *рэдакцыяй поўнай.*

Кароткая рэдакцыя летапісцу ёсьць адначасна рэдакцыяй *найстаршай.* Была яна складзена не пазьней 40-ых год XV стаг.

Дзьве другія рэдакцыі шмат пазьнейшыя за першую і бліжшыя адна да аднае. Другая рэдакцыя складзена не пазьней 1550 г., а трэйцяя ў 60 гг. XVI стаг.

Сьпіскі ўсіх трох рэдакцыяў прадстаўляюць сабою надзвычайна цікавае й характэрнае зьявішча. Абыймаюць яны 4 стагодзьдзі гісторыі беларускага народу, маюць тры рэдакцыі, у каторыя ўвайшло шмат асобных летапісцаў, пісаных аўтарамі, паходзячымі з розных мясцовасьцяў вялікага беларускага краю, а тым часам адзначаюцца яны вельмі выдзержаным нацыянальным характарам беларускім. Аўтары іх рупяцца аб долі свайго народу, цешацца з яго шчасьця, горача прыймаюць да сэрца ягонае гора, жывуць яго тугою й імкненьнямі. Заўсёды працістаўляюць яны справу беларускую справам сваіх суседзяў, галоўна маскоўскай і польскай. На ўсім працягу беларускага летапісаньня нямашака прыкладу, каб які аўтар летапісцу разьмінуўся з імкненьнямі свайго народу або хоць-бы адносіўся да іх пасыўна. Зырка патрыётычны характар беларускіх летапісцаў — гэта найгалаўнейшая іх характэрная рыса.

З апісаваных у летапісцах падзеяў і суб'ектыўных адносінаў да іх аўтараў відаць, што існавала ў той час вялікае грамадзянства беларускае, каторае з нацыянальнага боку было моцна арганізаванае душэўна і сьвядомае сваіх нацыянальных патрэбаў.

Праслаўляючы гэроеў свае бацькаўшчыны, аўтары летапісцаў дарогаю ўзьвялічэньня гэроеў узьвялічаюць прадстаўлены імі народ. У гэткім разуменьню бел. летапісцы зусім чыста гаспадарсьцьвеныя [1]). Дык жэ, бел. летапісцы сьведчаць, што тагачасныя беларусы (крывічы) Вялікае Княства Літоўскае ўважалі за гаспадарства сваё собскае, беларускае. Каб ня было іншых довадаў, дык стала-б аднаго гэтага на тое, што Вялікае Княства Літоўскае было гаспадарствам беларускім. Ня можа быць, каб нашыя прэдкі, грамадзяне гэтага гаспадарства, мыліліся ў працягу 4-х вякоў.

Беларусы за Вял. Кн. Літоўскага самі сябе звалі Ліцьвінамі, а сваё гаспадарства Літвою, а ў такім прыпадку палітычная (гаспадарсьцьвеная) асыміляцыя Беларусаў магла-б быць адно тады, калі-б настала асыміляцыя культурна-нацыянальная.

Але ня можа быць гутаркі аб культурна-нацыянальнай асыміляцыі тагачасных Беларусоў Ліцьвінамі (паводле цяперашняе тэрмінолёгіі), бо даўнейшыя Беларусы ў поўнай меры жылі сваім культурна-нацыянальным жыцьцём. Апрача таго дыспропорцыя

---

1) Прыр. І. Тихомировъ, „О составѣ западно-русскихъ такъ называемыхъ литовскихъ лѣтописей". Ж. М. Н. Пр. 1901, №№ 3 й 5.

паміж культурнай роўняй Ліцьвіноў і Беларусаў была вялізарная і не на карысьць Ліцьвіноў.

Дык Вял. Кн. Літоўскае, уважанае нашымі прэдкамі гаспадарствам сваім, і было запраўды такім—іхнім і нашым, беларускім.

Сваім стылям нашыя летапісцы, ня гледзячы на свой назоў, бліжэй падыходзяць да хронікаў (напару яны й назоў маюць „кройнікі"), бо запісаў па гадох маюць ня шмат, а часьцей цэлыя апавяданьні. Гэтым беларускія летапісцы розьняцца ад летапісцаў маскоўскіх і ўкраінскіх. Дзеля гэтае свае асаблівасьці бел. летапісцы чытаюцца лёгка. Мова іх чыста беларуская[1]), як і ўся ўрадовая й літаратурная мова Вял. Кн. Літоўскага, і адно ў колькіх старшых апавяданьнях ёсьць шмат элемэнтаў мовы царкоўна-славянскае.

Значэньне беларускіх летапісцаў вялізарнае. У стара-беларускай літаратуры гістарычнай яны займаюць такое месца, як Літоўскі Статут у стара-беларускай літаратуры праўнай. У часы беларускай гаспадарсьцьвенасьці нашыя летапісцы былі пашыраны паміж усяе беларускае інтэлігенцыі: духавенства, паноў, рыцарства, мяшчанаў.

Няма дзіва, што такія важныя гістарычныя творы рабілі ўплыў на гістарычныя працы суседніх народаў. Польскія хроністыя — Длугаш, Мехавіта, Бельскі, Стрыйкоўскі — асабліва апошнія два—імі шырака карысталіся. Стрыйкоўскі часта карыстаўся з розных сьпіскаў беларускіх летапісцаў, на‘т паўнейшых, як ведамыя нам цяперака. Мы відзелі вышэй, што адзін з сьпіскаў пераклалі палякі на сваю мову. Мелі ўплыў крывіцкія летапісцы так-жа на ўкраінскае летапісаньне XVII стаг. Затое малы ўплыў нашых летапісцаў на летапісаньне маскоўскае (расейскае).

У навуковай літаратуры беларускія летапісцы ведамы пад колькімі назовамі. Адныя завуць іх беларускімі, прыкл. *М. Кастамараў*, Карскі, іншыя заходне-рускімі. Другі назоў чыста штучны, але часта ўжываецца ў расейскай навуццы, асабліва ў адносінах да беларускае мінуласьці; радзей гэты назоў ужываецца ў літаратуры ўкраінскай.

Часта завуць беларускія летапісцы літоўскімі, бо й рэдактары летапісцаў іх гэтак назвалі. Ад пал. XIV—XVIII стаг. ўлучна назоў „Ліцьвін", „Літва" і г. д. адносіўся наўперад да народу беларускага. Аб гэтым я пісаў у сваім артыкуле „Czas powstania narodów białoruskiego i litewskiego" („Sprawy narodowościowe", 1931, Nr 4-5, бач. 447). Гэтта дадам адно крышачку. Выглядае, што назоў „Ліцьвін," „Літва" і г. д. спачатку адносіўся толькі да невялічкай часьці цяперашняе Літвы (часьці Аўкштоты)[2]). Памалу гэты назоў пашыраецца на суседнія землі беларускія і іншыя

1) Прыр. Я. Карскі, „О языкѣ т. н. Литовскихъ лѣтописей". Варш. Ун. Изв. 1894 г., № 11.

2) H. Łowmiański, Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. Вільня 1931.

часьці Аўкштоты[1]), так што ад пал. XIV стаг. абыймае ўжо блізу ўсю Беларусь і Аўкштоту. Жамойць ніколі ў мінуласьці ня звалася Літвою і адно гэты назоў на яе быў пашыраны ў XIX і XX стаг. адраджэнскім рухам літоўскім. Значыцца, адначасна Беларусы й Аўкштотцы зваліся Ліцьвінамі, адныя былі Ліцьвіны балтыцкія, другія — славянскія. Дзеля таго, што Беларусы былі ў Вял. Кн. Літоўскім запраўды народам гаспадарсьцьвеным, дык яны засланілі сабою Аўкштотцаў, і назоў „Ліцьвін" і г. д. звычайна адносіўся да Беларусаў. Калі хто хацеў ужыць назоў „Ліцьвін" да Ліцьвіноў балтыцкіх, дык мусіў дадаваць розныя паясьненьні, бо накш яго аднесьлі-б да Беларусаў. Прыкладам, гэтак польскі хроністы М. Бельскі пісаў у XVI стаг.: (Prusom) „języka żadny nie rozumie, jedno sami sobie; jam słyszał ich rzecz, gdym bywał we Gdańsku, barzo podobna litewskiej, tej Litwy, które zową Kurowie (bardzo trafna i słuszna uwaga! — дадае А. Брыкнэр) .. to ci Kurowie jednego narodu ze staremi Prusy są") [2]).

Пашырэньне назову ад народу негаспадарсьцьвенага на народ гаспадарсьцьвены ў гісторыі нярэдка сустракаецца. Гэтак, прыкладам, Немцы, заваяваўшы балтыцкіх Прусаў, самі памалу сталі звацца Прусакамі. У XVI — XVIII стаг., а на'т раней назоў „Прусы", „Прусакі" адносіўся да Немцаў прускіх, хоць у той самы час жылі яшчэ Прусы балтыцкія і так сама гэтак называліся. Значыцца было зусім так, як паміж Беларусамі й Ліцьвінамі.

Дзеля таго што цяперака беларускі народ завуць адно даволі часта Украінцы і просты народ маскоўскі Ліцьвінамі, а іншыя завуць Беларусамі або Крывічамі, дык можна было-б і назоў „Ліцьвін", „літоўскі" і г. д., часта сустраканы ў апавяданьнях летапісных, замяніць на сучасны назоў беларускага народу. Але, з другога боку, назоў „Літва" і г. д. у адносінах да Беларусаў у мінуласьці так заўсёды ўжываўся, такім ён там ёсьцека сваім, прыродным, што замяняць яго ў летапісных апавяданьнях назовам сучасным значыла-б рабіць крывавую апэрацыю. Дзеля таго назоў „Літва", „літоўскі" і г. д. пакінены ў ніжэй друкаваных апавяданьнях.

*Месца паўстаньня беларускага летапісцу, рэдактары й аўтары яго.* Як ужо ведаем, былі тры рэдакцыі беларускіх летапісцаў. Узьнімаецца пытаньне: дзе быў укладзены беларускі летапісны зборнік і хто былі яго ўкладчыкі або рэдактары? Найважней тут будзе даведацца, дзе паўстала першая або старшая (кароткая) рэдакцыя беларускіх летапісцаў. Даведаўшыся гэта, мы тым самым адкажам на пытаньне, дзе паўстаў наагул беларускі летапісец, як зборнік, бо дру-

---

1) Аўкштота палітоўску значыць „верх", а Жамойць — „ніз". Этымолёгічнае значэньне слова „Літва" няведамае, але ў слове „ліцьвін" суфікс „ін" — беларускі. У літоўскай мове гэтыя назовы маюць крыху накшую хворму — Lietuva (=Літва), lietuvis (=ліцьвін).

2) А. Brükner, Z dziejów jęz. polskiego, I, 39.

гая яго рэдакцыя была толькі вялікім пашырэньнем першае, а трэйцяя—пашырэньнем першае й другое. Але летапісны зборнік быў укладзены з асобных летапісцаў, дык адначасна важна даведацца, дзе й калі яны паўсталі і хто былі іх аўтары.

Старшая рэдакцыя крывіцкага летапісцу складаецца з трох гэткіх часьцяў: 1. компілятыўная часьць „Ізбраньня летапісаньня, ізложана ўкратца", абыймаючая час да 1427 г. ўлучна; 2. арыгінальная часьць „Ізбраньня летапісаньня, ізложана ўкратца", абыймаючая час ад 1430—1446 г.; 3. „Летапісец вялікіх князей літоўскіх".

1. Компілятыўная часьць летапіснага зборніка старшае рэдакцыі ёсьць компіляцыяй звыш 3-ох летапісных зводаў небеларускіх. У сваім компіляваньню аўтар дзяржаўся самастойна: ён ня толькі компіляваў, але й скарачаў у 10 і балей разоў свае жаролы. Скарачэньне ён рабіў такім спосабам, што, з аднаго боку, падаваў адны факты, выкідаючы прамовы й пад., ды караций перадаваў зьмест, а, з другога боку, прапушчаў мноства весьцеў чужых, найчасьцей драбных, галоўна ноўгарадзкіх або маскоўскіх. Цікавы яны былі Ноўгарадцу або Маскоўцу, але няцікавы дзеля нацыянальнага летапісаньня беларускага і дзеля таго компілятар іх лягусенька прапушчаў.

Гэтая першая—компілятыўная—часьць летапіснага зборніка складае найстаршы звод, каторага ўкладаньне было скончана ў 1428 г. Найстаршы звод чыста компілятыўны да пал. XIV стаг., а адгэтуль да 1427 г. ўлучна компіляцыя яго толькі частковая ў перамешку з арыгінальнымі весьцьмі. З 1411 г. ёсьць шмат весьцяў з адміністрацыйна-царкоўнага жыцьця ў Беларусі, зьвязанага з мітр. Фотыям (Грэкам). Цэнтральнай хвігураю тут ёсьць мітр. Фотый.

Як добра кажа *Т. Сушыцкі*[1]) запісаваць весьці блізу вылучна з царкоўнага жыцьця мог толькі чалавек духоўны ды такі, што падарожнічаў разам із м. Фотыям па Беларусі, бо перадае аб ім і ягоных падарожжах розныя дробязі. У 1420 г. разам із м. Фотыям у яго беларускім падарожжы езьдзіў яп. каломенскі Амброс. Апрача таго ў найстаршым зводзе перадаюцца розныя дробязі (абеды і інш.) із сустрэчы м. Фотыя з вялікім князям маскоўскім. Два менаваныя мамэнты сьхінаюць Сушыцкага да дапушчэньня, што аўтарам найстаршага зводу быў Масквіцін, каломенскі біскуп Амброс.

Але з гэтым нельга згадзіцца. Масквіціну, што зрабіў адно падарожжа па Беларусі, не магло-б навет прыйсьці ўдум, компілюючы звод, тарнаваць яго да вымаганьняў беларускіх. А калі-б ён навет знаў Беларусаў бліжэй і разьбіраўся ў іхніх патрэбах, дык не патрапіў-бы гэтага зрабіць, выкідаючы весьці ноўгарадзкія й маскоўскія — якраз яму родныя. Праўда, дзіўна, што аўтар компіляванага зводу ведае ўсялякую дробязь із сустрэчаў

1) Західно-руські літописи як пам'яткі літератури, ч. I, бач. 117.

м. Фотыя з вял. кн. маскоўскім. Але ў XVI стаг. аршанскі вайвода, Філон Кміта-Чарнабыльскі, ня меней ведаў усялякае дробязі із жыцьця маскоўскага князя. Маглі ведаць і Беларусы за Вітаўта, асабліва аб Фотыю, што быў аднечасна мітрапалітам беларускім. Весьці гэтыя маглі на'т беспасярэдне паходзіць з двара вял. кн. маскоўскага, жонка каторага, Софія, была дачкою Вітаўтавай. А што да драбязьлівых весьцяў аб Фотыевых падарожжах беларускіх, дык іх яшчэ лягчэй было запісаць беларусу. Вітаўт, што стараўся аддаліць Фотыя з беларускае мітраполіі, мусіў цікавіцца ягонай дзейнасьцяй і ў часе ягоных падарожжаў па Беларусі (Крывіі) мець пры ім свайго пэўнага чалавека. Весьці аб маскоўскім і крывіцкім жыцьцю м. Фотыя былі сабраны кім-колечы з урадовых дзейнікаў беларускіх, а потым дастаны й выкарыстаны ўкладчыкам Найстаршага зводу 1428 г. Укласьці Найстаршы звод мог толькі Беларус, хоць трудна назваць яго імя.

2. Арыгінальная часьць „Ізбраньня летапісаньня, ізложана ўкратца". Перадам далей пераконуючыя довады Сушыцкага аб паходжаньню дальшай часьці старшае рэдакцыі беларускага летапіснага зборніка. Гэтая часьць „Ізбраньня летапісаньня..." накшая, як часьць папярэдняя — кампілятыўная. Гэтта маем не кароткія запісы па гадох, але зьвязнае апавяданьне із шырокім выкладам аб падзеях, каторымі аўтар захоплюецца. Выклад тут прагматычна разьвіты, з асаблівай сымпатыяй да Вітаўта, як галоўнае тут хвігуры, на фоне зацікаўленьняў чыста гаспадарсьцьвенымі падзеямі. Зьмест зусярэджаны на дзьвюх цэнтральных хвігурах—кн. Вітаўта й смаленскага япіскапа, пазьней мітрапаліта, Гарасіма ды на смаленскіх падзеях. У гэтай часьці летапісцу памешчана „Пахвала аб вялікім князі Вітаўце"—твор рыторычна-панэгірычны.

Аўтарам арыгінальнае часьці „Ізбраньня летапісаньня..." быў бяссумлеву Смаленец. Аб гэтым сьведчыць пераважаючая колькасьць запісаных ім весьцяў, беспасярэдне зьвязаных із Смаленскам і смаленскім япіскапам Гарасімом. Смаленцам гэтым быў „кніжнік" Цімох, асоба духоўная. Ён у 1420 г. быў у Царгорадзе, дзе, сустрэўшыся з ім, япіскап Гарасім даручыў яму скопіяваць твор „Словы Ісаака Сірына". У тым-жа годзе Цімох справіўся з гэтай работай, а ў 1428 г. ў Смаленску перапісаў яе яшчэ ды напісаў чарнапіс „Пахвалы Вітаўту", захаванай у варыгінале дагэтуль. Тэкст „Пахвалы" зыходзіцца з весьцяй у летапісу пад 1430 г. аб скліканьню Вітаўтам розных гаспадароў (каралёў і князёў) дзеля ўчасьця ў задуманым ім каранаваньню. Цімох быў блізкі да япіскапа, пазьней мітрапаліта, Гарасіма, прыяў яму, а па сьмерці шкадаваў яго. Паражку Сьвідрыгайлы Жыгімонтам лічыў караю божай за сьмерць мітрапаліта. „За то Бог не пасабе князю Швітрыгайлу, што зажжэ мітрапаліта Гарасіма"—напісаў ён у летапісцу.

3. „Летапісец вялікіх князей літоўскіх" складаецца з колькіх асобных апавяданьняў без хронолёгічнае сеткі.

Апавяданьне аб ходаньню Кяйстута й Вітаўта з Ягайлам ёсьць скарочаньнем твору, паўсталага на аснове мэморыялу Вітаўтавага. „Повесьць аб Падольлю“ паўстала ў канцыляры́і вялікіх князёў беларускіх („літоўскіх“), аб чым сьведчаць точныя даныя аб князёх і старастах падольскіх. Таксама ўрадовы характар мае часьць апавяданьня аб тым, „Як Вітаўт стаў вялікім князям“, пайменна—пав. Сушыцкага—ад словаў: „Прысла к няму кароль Ягайла пасла“, да словаў: „На вясну князь вялікі Вітаўт ідзе й узя зямлю Падольскую“. І толькі казаньне: „Тут-жа прыйдзе на помач вялікі князь Смаленскі Юры Сьвятаславіч з усімі смаленскімі сіламі і ўдары чалом вялікаму князю Вітаўту“ відавочна прыдаў смаленскі рэдактар. Я-бы дадаў, што такі самы ўрадовы характар мае й дальшы тэкст аб паходзе Вітаўтавым у зямлю Падольскую. Тут таксама маем шаблённыя й тыповыя выражэньні ўрадовага беларускага языка, як „чалом ударыці“ і інш. Усю гэтую ўстаўку ад словаў „Прысла к няму кароль Ягайла пасла“ можна назваць апавяданьнем „Аб княжэньню Вітаўта“.

Апавяданьне „Вайна із Сьвятаславам Смаленскім“ выдзяляецца з апавяданьня „Як Вітаўт стаў вялікім князям“ тым, што ў гэным із Сьвятаславам ваюе Сьціргайла, а Вітаўт адно яму памагае, а ў гэтым галоўнай асобай ёсьць Вітаўт. Апрача таго яно розьніцца ад суседняга тэксту сваёй у вялікай меры царкоўнаславянскай мовай (хвормы „зьбіраху“ і інш.), умела прыведзенымі цытатамі із сьв. Пісьма і рэлігійным (хрысьцянскім) падыходам аўтара да свае тэмы. Усё менаванае выдзяляе „Вайну із Сьвятаславам Смаленскім“ у васобнае суцэльнае апавяданьне [1]), збліжае да „Пахвалы Вітаўта“ і сьведчыць, што аўтарам яе быў Смаленец Цімох. Але трудна дапусьціць, каб таковыя точнасьці, як „на страсной нядзелі ў пятніцу“, „у вялікае гавеньне нача Сьвятаслаў думаці з Смаленскімі баяры“, паходзілі ад Цімоха, творства каторага дзесяткі год адлучалі ад гэнае вайны (вайна была ў 1386 г.). Відавочна быў іншы Смаленец (бо точнае азначэньне часу датычыць смаленскіх падзеяў), вочнік або й удзельнік вышменаванае вайны, што парабіў аб ёй у XIV стаг. запісы, выкарыстаныя пазьней Цімохам.

„Пахвала аб вялікім князю Вітаўту“ і „Вайна із Сьвятаславам Смаленскім“ ёсьць літаратурнымі творамі, у каторых аўтар дае волю патосу — у першым захапленьня, у другім абурэньня.

---

1) Сушыцкі ibid. быццам хістаецца што да асобнасьці апавяданьня аб вайне із Сьвятаславам Смаленскім (як і ў прылучэньню запісу аб паходзе Вітаўтавым на Падольле да ўрадовага паходжаньня апавяданьня „Аб княжэньню Вітаўта“): на бач. 153 лічыць яго часьцяй апавяданьня „Як Вітаўт стаў вялікім князям“, а на бач. 321 разглядае яго як апавяданьне асобнае. Драбныя хістаньні ў Сушыцкага трэба выясьніць тым, што другі том ягонае працы выйшаў па сьмерці аўтара, значыцца, чаго аўтар за жыцьця ня ўсьпеў упарадчыць, тое й мусіла быць так выдана.

Належнасьцяй іх да краснай літаратуры трэба выясьніць і багаты царкоўна-славянскі элемэнт іхняе мовы.

Твораў краснае літаратуры ў той час было болей пацаркоўна-славянску, як пабеларуску. Даволі ўспомнець толькі Біблію й творы Кірылы Тураўскага, ня кажучы аб шмат іншых. Адгэтуль будзе зразумелы ўплыў царкоўна-славяншчыны на літаратурныя творы Цімохавы.

Іншая рэч апавяданьне „Як Вітаўт стаў вялікім князям". Гэта звычайны запіс летапісны шырокага апавядальнага характару. Апавяданьне „Як Вітаўт стаў вялікім князям" падае: 1) ведамасьці вялікага значэньня агульна-беларускага — вайна Вітаўта за пасад, прыймо Ягайлам каталіцтва, жаньба яго з Ядвігаю, выхад замуж дачкі Вітаўтавае, Софіі, што мусілі быць цікавы й ведамы ўсім беларусом, і 2) ведамасьці характару мясцовага. У ўсіх апошніх — мясцовых — ёсьць паведамленьні аб Смаленску і смаленскіх падзеях або князёх. Здарэньні агульныя пераданы ня так точна, як мясцовыя; у першых нат' замест імені караля Людвіка пастаўлена „Казіміра"[1]). Менаванае паказуе, што апавяданьне „Як Вітаўт стаў Вялікім князям" мусіла быць напісана ў Смаленску.

Стыль разгляданага апавяданьня падобны да стылю арыгінальнае часьці „Ізбраньня летапісаньня...", напісанага Смаленцам Цімохам. Значыцца ён напісаў і апавяданьне „Як Вітаўт стаў вялікім князям". Ён-жа быў рэдактарам усяе старшае рэдакцыі беларускага зборніка летапіснага.

Паўтару каротка вывады аб месцу паўстаньня старшае рэдакцыі.

Укладчык ці накш рэдактар Смаленец Цімох, асоба духоўная, часьці матар'ялу да летапіснага зборніка сам быў аўтарам, а часьць дастаў гатовую. Сам ён быў аўтарам Смаленскага летапісцу 1430—1446 г., „Пахвалы аб вялікім князю Вітаўту", „Вайны із Сьвятаславам Смаленскім" і апавяданьня „Як Вітаўт стаў вялікім князям". Другой часьці аўтары былі іншыя. Сюды належаць: Найстаршы звод 1428 г., да каторага аднак Цімох дадаў устаўку аб бізантыйскіх падзеях, што дастаў будучы ў Царрадзе ў 1420 г.; далей мусіў Цімох дастаць із цэнтральных бе-

1) А ў „Повесьці аб Падольлю" ёсьць другая абмыла, пайменна кажацца, што ў Казіміра Вялікага была адна дачка, калі запраўды былі ў яго дачкі тры. Абмылкі магчыма выясьніць гэтак. Смаленец у польскіх каралёх слаба разьбіраўся. Маючы перад сабою „Повесьць аб Падольлю", дзе казалася аб каралю Казіміру і трох дачках яго, і ведаючы добра, што Ядвіга была адзіначка, ён „паправіў": у „Повесьці" замест трох паставіў адну дачку, а ў сваім апавяданьню замест „ня пэўнага" з чуткаў Людвіка паставіў із дакумэнту — „Повесьці" — Казіміра.

Другая папраўка рэдактарава ня была абмылкай, але зьявілася дзеля яго смаленскага паходжаньня. У „Повесьці аб Падольлю" ня кажацца, куды дзяваліся старасты, зьмяняныя на Падольлю, а тымчасам аб адным із іх сказана, што Вітаўт даў „Дзідзігольду Смаленеск, а пану Даўгірду Падольле". Відавочна гэтае зацемкі ў спачатным тэксьце ня было, як непатрэбнай, дадаў-жа яе рэдактар Смаленец дзеля свайго смаленскага патрыётызму.

ларускіх урадаў апавяданьне аб „ходаньню Кяйстута й Вітаўта з Ягайлам“, „Повесьць аб Падольлю“ і апавяданьне аб „Княжэньню Вітаўта“, устаўленае ім у сваё апавяданьне аб тым, „Як Вітаўт стаў вялікім князям“.

Укладаньне летапіснага зборніку старшае рэдакцыі было скончана ў 1446 г.

Напасьледак, трэба зацеміць, што старшая рэдакцыя летапіснага зборніка беларускага была ня толькі хундамэнтам яго, але й вялікай ды найхарошшай часьцяй будынку, каторы аставалася далей толькі пашыраць, што й было зроблена рэдакцыяй другой—пашыранай—і трэйцяй—поўнай.

## Повесьці й апавяданьні.

Беларускія летапісцы маюць ня толькі значэньне гістарычнае—дзеля пазнаньня гісторыі беларускага народу і яго гаспадарства,—але й значэньне літаратурнае. Вялікую літаратурную вартасьць маюць повесьці й апавяданьні, зьмешчаныя ў летапісцах. Яны спачатна йснавалі асобна, але з часам рэдактары летапісных зборнікаў упісалі іх у летапісцы.

Дагэтуль адно адумыслоўцы ўмеюць правільна чытаць беларускія тэксты, напісаныя царкоўна-славянскім правапісам. Дзеля таго ў ніжэй друкаваных тэкстах царкоўна-славянскі правапіс заменены беларускім правапісам сучасным. З выняткам „Пахвалы аб вялікім князю Вітаўту“, каторай царкоўна-славянізмы заменены словамі й хвормамі беларускімі, мова нідзе ня зьменена.

### 1. Перамога Беларусаў над Масквою.

Повесьці гэтае ў старшай рэдакцыі беларускага летапіснага зборніку нямашака. Ёсьць яна толькі ў рэдакцыі пашыранай і поўнай. Друкуецца гэтта на першым месцу дзеля таго, што апісуе хронолёгічна ранейшыя падзеі. Назову повесьці ў летапісцу няма, даны ён аўтарам гэтага артыкулу. Повесьць друкуецца паводле сьп. Яўрэінаўскага й Быхаўцавага. Што ў дужках або абазначанае зоркаю, тое ўзята із сьп. Быхаўцавага.

Сярод апавяданьняў і повесьцяў у нашым летапісцу повесьць аб „Перамозе Беларусаў над Масквою“ — адна з найхарошшых. Выдзяляецца яна сваім стылям народна-поэтычнае сымболікі. Калі маскоўскі пасол абвясьціў Беларусам вайну, падаючы агонь і шаблю, беларускі князь Альгерд „выняў із агніва губку да крэмень, запаліў губку, даў паслу і рэк: „Дай то гаспадару сваяму і скажы яму, што ў нас у Літве агонь ё... я дасьць Бог у няго буду на Вялікдзень і пацалую яго красным яйцом чэраз шчыт суліцаю, а з Божыю помаччу к гораду яго Маскве копіе свае прысланю*. Гэтак шчодра й умела зьмест повесьці прыбраны народнымі сымболямі! Сымболь ваеннае перамогі—„прысланеньня копія“—ужыцьцяўляецца ў Маскве. Багатая повесьць і жывымі прамовамі. Альгерд прамаўляе да маскоўскага пасла, прамаўляе

ў Маскве да князя маскоўскага і, напасьледак, ад'яжджаючы з Масквы, кажа вялікім голасам": „Княжа вялікі Маскоўскі, памятуй то, што копіе літоўскае стаяла пад Масквою!"

Вялікі князь Альгірд Гідымінавіч* Літоўскі [і Рускі], іспраўляючы ўрадна гаспадарства свае, [не малы час] гаспадарстваваў у вялікам княстве Літоўскам і* быў у [да] канчаньню[1]) і ў добрай прыязьні з вялікім князям Дзімітрыям Іванавічам Маскоўскім. Той-жа князь вялікі Дзімітрай Іванавіч, бяз усякія віны аставіў даканчалую прыязьнь[2]), прыслаў [да вялікага князя Альгерда] пасла сваяго з ызьветам і прыслаў к няму агонь да саблю, даючы* яму ведаці то: „Буду ў зямлі тваей па краснай вясьне і па ціхому лету". І князь вялікі Альгірд выняў із агніва губку да крэмень і запаліў губку, даў паслу і рэк: „Дай то гаспадару сваяму і скажы яму, што ў нас у Літве агонь ё, жэ он* ізьвячаець мне, хоцячы ў маей зямлі* быці па краснай вясьне і па ціхому лету, а [я дасьць Бог] у няго буду на Вялікдзень [а пацалую] яго красным яйцом [чэраз шчыт суліцаю, а з Божаю помаччу к гораду яго] Маскве копіе свае прысланю, бо* ня то воін, [што часу] падобнага ваюець, але* то воін [калі непагода] вайны, над непрыяцелям сваім непрыязьні даводзіць".

І адпусьціўшы пасла, і забраў войска свае літоўскае і рускае, і пашоў із Віцебска проста [ку Маскве]. І на самы Вялікдзень рана князь вялікі з князі і з баляры [ад заўтрыньні йдзець] із цэркві, а князь вялікі Альгірд [за ўсімі сіламі сваімі, распусьціўшы харугві сваі] паказаўся пад Масквою на Паклоннай гарэ.

[Князь вялікі Маскоўскі ўпадзе ў страх вялік і ужасеся, відзячы вялікага князя Альгерда з вялікаю сілаю яго, іж прышоў на няго так моцне а сільне] подле слова сваяго. [І ня могучы яму жаднага адпору ўчыніці і паслаў да няго просячы яго і вялікія дары яму абяцаючы, абы] яго із вотчыны яго з Масквы ня выгнаў і гнеў свой адпусьціў і ўзяў-бы ў няго што хацеў. І князь вялікі Альгірд [зжаліўся і ласку] сваю над нім учыніў [і з Масквы яго не дабываў і мір з нім узяў]. І потам змову* ўчыніўшы, сам князь вялікі Маскоўскі* к няму выехаў і з нім відзеўся і дары [многімі—бяшчысьлена золата, серабра, і дарагім жамчугом, і сабольмі, і інным дарагім а дзіўным зьверам махнатым князя] вялікага, князя Альгірда дараваў і шкоду, што он у зямлю яго* йдучы прыняў, то яму заступіў. І потам князь вялікі* Альгірд рэк вялікаму князю Маскоўскаму: „Ашча ясьмі з табою і памірыўся, але* мне ся іначай* ня хочаць ані дастоіць, толька* хачу пад горадам тваім Масквою копіе свае прысланіці*, а тую* славу ўчыніці, што вялікі князь Літоўскі, і Рускі і Жамойцкі, Альгерд, копіе свае пад Масквою прысланіў*". І ўседшы сам на

---

1) даканчаньне—мірная ўмова.

2) даканчалая прыязьнь — прыязьнь паводле мірнае ўмовы; прыр. цяперашнія "ўмовы прыязьні".

конь, і копіе свае ўземшы ў рукі, і прыехаўшы к гораду і копіе свае к [сьцяне прысланіў]. І едучы назад рэк так вялікім голасам*: „Княжа вялікі Маскоўскі, памятуй то*, што копіе літоўскае стаяла пад Масквою!“

І потам князь вялікі Альгірд[1]) [за ўсімі] войскі сваімі, з вялікаю чэсьцю і [з многім палонам і нявымоўным дабыткам, звая-ваўшы] і гарады многія пабраўшы і граніцу ўчыніў па Мажаеск да па Каломну [і за ўсімі людзьмі сваімі ў цэласьці ў сваясі адыдзе].

## 2. Пахвала аб вялікім князю Вітаўту.

Аўтарам „Пахвалы“ ёсьць Цімох із Смаленска. Напісаў яе ў 1428 г. як чарнапіс або шкілет, без канчальнага стылістычнага апрацаваньня. Чыстапіс маем у летапісцах; быў ён апрацаваны не пазьней сьмерці Вітаўта, г. зн. 1430 г., бо тон „Пахвалы“ сьвяточны, няма ў ім смутку. „Пахвала“ ёсьць твор з мастацкага боку закончаны, канчальна прытарнаваны да важных падзеяў 1429—1430 г.г., калі мела быць каранаваньне Вітаўта. Відавочна, чыстапіс яе паўстаў у 1429 г., калі на зьезьдзе розных гаспадароў у Вітаўта ў Луцку гукалі аб блізкім прыйме Вітаўтам каралеўскае кароны.

„Пахвала“ ёсьць твор вылучна літаратурны (а ня маючы заданьня падаваць гістарычныя факты, што аўтар яе падаў асобна ў летапісцу). Аўтар яе, за хоплены прыхільнік Вітаўтаў, меў заданьні выказаць магутнасьць беларускага гаспадара. Піша ён не як гісторык, але як пісьменьнік-мастак. Зьмест „Пахвалы“, яе будова, стыль зусім чыста адпавядаюць галоўнаму заданьню гэтага твору. Увесь беларускі летапісец перацяты духам нацыянальнага гэроізму, але найвышшага пункту дасягае гэты тон у „Пахвале“. Не дарма яна пасьвячана найвялікшаму побач із Усяславам Полацкім гаспадару Беларусі, што ня гнаўся за чужымі пасадамі, але рупіўся ўмацаваць пасад свае Бацькаўшчыны, абараніць яе поўную сувэрэннасьць. Зразумела, чаму замест фактаў, знаходзім у „Пахвале“ пераважна патос.

Пачынаецца „Пахвала“ ў урачыстым стылю жыцьцеў сьвятых: „Тайну цараву таіці добра есьць, а дзелы вялікага гаспадара паведаці—добра-ж есьць“. Гэта цытата із сьв. Пісьма. І далей у тэксьце праяўляецца стыль жыцьцёў сьвятых. За аснову да ўшанаваньня дарагога князя аўтар бярэ тэкст із сьв. Пісьма: „Напісана есьць: „Брацьце, Бога бойцеся, а князя чцеце“, так-жа і я хачу вам паведаці аб слаўным гэтым гаспадару“,—гэтыя словы, як і іншыя, зырка выяўляюць асобу пісьменьнікаву, што адкрыта выступае, а не хаваецца ў пакоры, як шмат іншых тагачасных.

У поэтычных абразох выказуе аўтар цяжыню свайго заданьня: „Як нельга нікому даведаціся вышыню нябесную й глыбіню морскую, так немагчыма выказаці сілу й адвагу слаўнага гаспадара“. У гэтым поэтычным абразе кідаецца ў вочы хворма быліннага творства, ведамая й беларускаму пісьменьніку XII стаг. Кірыле Тураўскаму. Гэтак у вапавяданьню стыль жыцьцёў сьвятых гармонійна лучыцца із стылям народнае поэзіі.

1) У друкарні няма літары, адпавядаючай лацінскай g, дзеля таго ў словах, як Альгірд і іншыя падобныя, гук g (лацінская літара) няправільна перадаецца пераз г.

Гэты рыторычна-панэгірычны твор, прыбраны пэрламі пахвальнае рыторыкі, ёсьць найхарошшым прыкладам панэгірычнае літаратуры ў нашых летапісцах. Ён зусім здаваляў мастацкі смак тагачаснае беларускае інтэлігэнцыі.

Тайну цараву таіці добра есьць, а дзелы вялікага гаспадара паведаці—добра-ж есьць. Хачу вам паведаці аб вялікім князю Аляксандру, завемым Вітаўтам, Літоўскім, Рускім і іншых многіх земль гаспадару. Але напісана есьць: „Брацьце, Бога бойцеся, а князя чцеце!“ Так і я хачу вам паведаці аб слаўным гэтым гаспадару. Але немагчыма выказаці ані пяром перадаці дзелы вялікага князя. Як нельга нікому прасачыці вышыню нябесную і глыбіню морскую, так немагчыма выказаці сілу й адвагу гэтага слаўнага гаспадара. Гэты князь вялікі Вітаўт дзяржаў вялікае княжэньне Літоўскае і Рускае і іншыя многія землі, проста раку — ўсю Рускую зямлю. Ня толькі ўся зямля Руская, але яшчэ гаспадар Вугорскае зямлі, званы цэсарам Рымскім, у вялікай любові жыве з ім. Гэты слаўны гаспадар, будучы ў сваім горадзе у Луцку у Вялікім, паслаў паслы свае да караля Вугорскага, званага цэсарам Рымскім, і казаў яму прыехаці к сабе. Той-жа бяз усякае непаслушнасьці прыехаў ік яму із сваею караліцаю і чэсьць вялікую і дары многія падаваў яму, і адгэнуль уцьвярдзілася ў іх вялікая любоў. Як-жа ня дзівіціся із сьці вялікага гаспадара?! Каторыя землі ё на ўсходзе або на заходзе, прыходзячы кланяюцца слаўнаму гаспадару; што ё цэсар над усёю зямлёю, і тый прыйшоўшы пакланіўся слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Аляксандру, званаму Вітаўтам. Яшчэ-ж і Турэцкі цар чэсьць вялікую і дары многія падаваў слаўнаму гаспадару. Дабраверны й хрысталюбівы цар Царыградзкі і тый з ім у вялікай любасьці жыве. Так-жа й Чэскае каралеўства вялікую чэсьць дзяржыць над слаўным гаспадаром. Яшчэ й Данскі кароль вялікую чэсьць і дары многія даваў слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Вітаўту. Таго-ж часу брат яго Ягайла, дзержачы пасад Кракаўскага каралеўства, па лядзкаму языку званы Ўладзіславам, і тый з ім у вялікай любові жыў.

Калі слаўны гаспадар Вітаўт на каторую зямлю гнеўны бываў і каторую зямлю хацеў пакараці, кароль Уладзіслаў заўсёды яму помач даваў, а напару сам яму ходзіць на помач; яшчэ й іншыя вялікія цары ўсходнія служаць яму. Так-жа вялікі князь Маскоўскі ў вялікай любові жыве з ім; яшчэ-ж і іншыя вялікія князі Нямецкія служаць яму з усімі гарады сваімі і землямі, тыя-ж вялікія князі нямецкія па нямецкаму языку—містрове. Яшчэ-ж гаспадар зямлі Малдаўскае й Басарабскае, па валоскаму языку званыя вайводы; так-жа й гаспадар зямлі Баўгарскае, пабаўгарскаму языку званы дэспатам. Яшчэ-ж і іншыя вялікія князі: вялікі князь Цьверскі, вялікі князь Разанскі, вялікі князь Адаеўскі, Вялікі Ноўгарад і Вялікі Пскоў—проста раку: ня знайдзецца ўусім памор'ю ані горад, ані места, каб ня слухалі слаў-

нага таго гаспадара Вітаўта. Тыя-ж вялікія гаспадары—цары, вялікія князі—і вялікія землі, аб каторых гэтта я пісаў, іншыя ў вялікай любові жывуць із ім, а іншыя крэпка служаць яму, слаўнаму гаспадару, і чэсьць вялікую, і дары многія, і дані прыносяць яму ня толькі кожнага году, але й кожнага дня.

Калі слаўны гаспадар вялікі князь Аляксандра, завемы Вітаўтам, на каторую зямлю бывае гнеўны і каторую зямлю хоча сам пакараці або дужых сваіх вайвод паслаці гдзе ўсхочаць, і катораму гаспадару з тых вялікіх земль загадае к сабе прыйці, яны бяз усякае непаслухмянасьці ўборзе прыходзяць із свае зямлі к яму. А калі якому гаспадару ніяк немагчыма прыйсьці, ён усі сваі войскі пасылае яму на помач і на яго службу.

Гэты вялікі князь Аляксандра, завемы Вітаўт, у вялікай сьці й славе гаспадарстваваў; так-жа й айчына яго, Літоўская зямля, ў вялікай сьці была і ўсякім багацьцям напоўнілася і вельмі была людная.

Калі ён быў у вадным із сваіх гарадоў, званым Кіевам, прысылаліся к яму вялікія князі ардынскія, прыходзілі к яму на вялікую службу і прасілі ў яго цара на царства, бо многа ардынскіх вялікіх цароў служылі ў двары яго. Ён-жа даў ім цара Салтана. Тый-жа цар, каторы быў на Ардзе, учуўшы, што слаўны наш гаспадар адступіў свайго слугу на царства, ані ня сьмеў спрацівіціся слаўнаму гаспадару, пакінуў царства і ўцёк. Гэты-ж Салтан, заняўшы Арду, сеў на царства загадам вялікага гаспадара Вітаўта і служыў яму з вялікай баязьняй. І па многім часе іншыя старшыны ардынскія паслалі паслоў сваіх із вялікімі дармі к слаўнаму гаспадару і прасілі ў яго іншага цара. Ён-жа даў ім цара іменем Малога Салтана. Гэты Малы Салтан, сеўшы на царства, ані ня сьмеў ня слухаціся слаўнага гаспадара: гдзе куды яму загадае, ён туды качуе. Па малым часе вялікія князі ардынскія, ня важачыся разгневаці слаўнага гаспадара Вялікага Князя Вітаўта, каб не з яго рукі паставіці сабе цара, і паслалі паслоў з вялікаю чсьцю і прасілі ў яго цара. Ён-жа даў ім іншага цара іменям Даўлед Бердзія. Як рака, працякаючая пераз усю зямлю, людзей і жывёлу поіць, а сама ня менее, так і слаўны гаспадар—мноства цароў адпушчаў на Арду, а ў яго большала. Гэты Даўлед Бердзій крыху пагаспадарстваваў на Ардзе і адыйшоў проч. А старшыны ардынскія, пачуўшы, што слаўны гаспадар блізка ад Кіева, прыйшлі самі і пакланіліся слаўнаму гаспадару Вялікаму Князю Вітаўту і дары многія прынесьлі і просяць у яго цара. Ён-жа даў ім цара іменям Махмэта, бо як з мора мноства водаў выходзіць, так і мудрасьць ад гэтага вялікага гаспадара, Князя Вялікага Вітаўта.

Др. Я. СТАНКЕВІЧ

(Працяг будзе)

## НАШ ДЗЕНЬ

Шчэрыць сонца зубы над вёскаю —
пакаціўшыся
цёплым сьмехам
руні цалуе палоскі —
ліжа салому стрэхаў...
Дымам
з крывых каміноў
дзень закурыў папяроску.
Далёка — далёка —
на сінюю пашу у неба
хмаркі — белыя лебедзі —
выгнаў.
Прыгожа над рэчкай
загойдаў гальлём вербалозу.
Чупрыны задорна раскудрыў
кляноў — бярозаў —
парадак завёў
як трэба.
Разьвесіў над вёскаю вушы
і кісла скрывіўся
пачуўшы,
хлеба —
хлеба —
хлеба...

* * *

Паміж нягод, паміж штодзенных брудаў,
працоўных ідэал, штораз ярчэй гарыць!
Тым краскам новых дзён складаць я песьні буду,
што полымям цьвітуць, як сонца на зары...

Сыны мы, так — сыны, ды не „краіны сіняй“.
Радзіла праца нас, скупаўшы у крыві
наказ такі дала: працуй і не загінеш!
Ты створыш новы сьвет — змагайся і жыві!

МІХАСЬ ВАСІЛЁК

# Успамін

Увайшоў у алешнік. Мякка ступаюць у сьвежы, няпрытоптаны сьнег ногі і зноў варочаецца спакой, а з ім прыходзяць новыя думкі. Панас аддаўся ўспамінам.

Неўзаметку адышло ў мінулае багата год з ягонага жыцьця і толькі ў памяці пакінулі яны свае сьляды. Бурна імчыцца ў прасьцягу ўсіх гэтых год гарачы струмень яго дзён. Яны ў суворым суладзьдзі нязьменна прыходзяць і адыходзяць жывымі істотамі. Вось яны, адышоўшыя, перажытыя, жывым ланцугом, як у карагодзе набліжаюцца і аддаляюцца ад яго, то ў ціхім суладзьдзі, аднолькавыя, то зблытаныя ў натоўп, у якім нічога не разьбярэш, то розныя, але паступова нарастаючыя адзін за адным. З гэтага струменю дзён усплываюць разгубленыя, але ўсё-ж у нейкай сыстэме, невялічкія выспы ўспамінаў і па іх раскідана далёкае, цяжкае, поўнае пакуты дзяцінства і гарачымі кавалкамі, блізкае яшчэ, поўнае палкасьці, юнацтва...

Хмары цярушаць перад вачыма роямі белых сьняжын, усьцілаюць зямлю пухам крыльляў сваіх лебядзіных. Цёпла. Вочы зьліпаюцца і бачаць ня цёмную шэрань гасьцінцу, а асьветленае сонцам поле. У полі так багата сьвятла сонечнага...

— — — — — — — — — —

Сонца гарачае і лянное спынілася на поўнебе якраз, дзе самы глыбокі і чысты блакіт і кружыцца па ім, гуляе.

Ляныя валы паціху ідуць уперадзе сахі, бароняцца хвастамі ад аваднёў і мух, махаюць галовамі, аж ярмо рыпіць. Валоў за матузок вядзе малы хлапчук. Ён босы. Ногі ў яго чорныя ад зямлі, пакалоліся па сухой мураве і леташнім жытнішчы. Ён паціху ўздымае ногі і асьцярожна ставіць іх на зямлю. За валамі вядзе саху дзед сівы, у белай кашулі і ў белых палатняных ісподніках. Ён таксама босы.

Уперадзе ад поля хвойнік малады, рэдкі і сухі напалову. Гэта выгары. Перад хвойнікам зацішна і над самай зямлёй жывым срэбрам пераліваецца нагрэтае паветра. Над полем казачнымі аганькамі снуюць, мятусяцца матылькі. Па-над полем плавае лёгкі цёплы вецер і шавеліць на галаве ў дзеда густыя, пасярэбраныя валасы і такія-ж густыя, колеру кудзелі кужэльнай, у хлапчука.

Хлапчук трымае ў руцэ лёгкі матузок, абкруціў яго вакол далоні і пазірае ў поле, дзе хвойнік штосьці думае. Дзед ідзе за сахою, паціху ступае ў вузкую разору на халадназатую зямлю і сьпявае ціха, сумна:

Э-эх ты, до-о-ля-а-а май-й-а-а,
Ты-ы няў да-а-а ла-й а-а.
Ка-ліж ты ы мя-а-не-э-э
А-а-а-чу-у-ра-а-есь-ся-я.

Ціхія словы дзедавай песьні падаюць на ральлю і зьнікаюць, сашнікі закідаюць іх зямлёй. У дзеда худы, патрэсканы ад ветру, твар. Вочы ягоныя блішчаць схаванымі ў куток сьлязьмі. А хлапчуку ад гэтага і ад слоў песьні дзедавай хочацца заплакаць. Ён туліць вочы ў зямлю, мысьленна ўторыць словы дзедавай песьні, ад якіх разьліваецца па ўсім целе сцюдзёная, незразумелая балючасьць і прыкусвае зубы, каб стрымацца і не расплакацца.

— Прагонім гэны раз туды і назад і паедзем да дому, — кажа дзед, — а то я, браце, замарыўся дужа. Увечары лепш дааром...

Дадому валы па шляху ідуць хутка. Пыліць ззаду за валамі саха. Дзед ідзе за сахою з боку, а хлапчук уперадзе, побач з валамі. Па абое бакі ад шляху цягнуцца вузкія, у два загоны, і бяз меры даўгія, аж да рэчкі і да асіньніку ў другі бок, палоскі. Каля шляху яны засеяны ярынаю. Дзед пазірае на палоскі, на нізкую і рэдкую ў разорах ярыну і кажа:

— Вымакае... а й без разоры нельга, зусім тады вымакне... Мала зямлі ў нас, браце, мала.. Як аслабаненьне было, пан усю „Кунаведзь“ сабе ўзяў, а нас, мужыкоў, на „адмену“, у багну гэную. Вось яно і вымакае... Гэта яшчэ за маёй памяцьцю было, лес тут быў вялізны, бор і балота. Дзе „Дзякава“ — падступіцца тады нельга было, грузьлі і чалавек і карова. А пасьля адкупілі ў пана лес купцы, высеклі, а бацькі нашыя зямлю адкупілі і поле зрабілі... І усё мала зямлі, — працягваў ён. — Тое-ж, як вокам зірнуць, скрозь пушча была, а цяпер поле скрозь і мала... Вось гэта палоскі Аўхіма, Каленіка, Рыгора і Стэпкі, а раней-жа б'ала бацька іхны адзін араў, паласа была во-о!.. А цяпер не завернешся... Усе палосы былі шырэй... Б'ала мы ў бацькі разам жылі, аж да старасьці, пакуль дзяцей не падгадуем і дружба была, а цяпер, як штаны навучыўся насіць сам, дык і дзялі, тата... А што дзяліць? Хіба можна бяз канца зямлю дзяліць?.. Падзялілі ўздоўж, падзеляць упоперак, а тады што?.. А хіба-ж яму чаго не хапае?.. Дзялі... Ды яно падзялю, падзялю... — махнуў дубцом, сагнаў з вала авадня... — Падзялю... І ты, мусіць, браце — зьвярнуўся ён да хлапчука, — як падрасьцеш, возмеш загрудкі бацьку, каб дзяліў. А ?..

Хлапчук думае пра дзедавы словы і не адказывае. Маўчыць. Тады дзед працягвае свае разважаньні.

— Яно ўсё так, спрадвеку ідзе так ужо. І мае бацькі дзяліліся, і дзяды... не зьмяніліся пакульшто людзі...

Назаўтра дзяліў дзед двох сыноў сваіх Мірона і Лазара.

Як толькі пагналі пастухі на ранку статак, дзядзіна, Лазарава жонка, пякла аладкі, нэрвуючыся браскала праз меру моцна аб прыпечак ёмкаю і патэльняй. А на дварэ Лазар крычаў расьцягваючы словы:

— Абдзялілі! Старцам па сьвету пусьціць хочаце!

Яму ціха, але са злосьцю ў голасе, адказвае дзед:

— Ня пушчу старцам! У мяне сыны роўныя, што прыпадае на тваю долю, тое я й даю табе.

— Дык чаму-ж, — крычыць на дзедавы словы Лазар, — доля мая такая, што ўсяго пуня мне, ды цялушка, а яму і валы і карова...

— У яго дзеці малыя, у яго я, валы мае, — адказывае дзед.

— Дык няхай-жа ён пяць мерак дабра возьме, калі так, — зноў крычыць Лазар, — а я не хачу, я тое вазьму.

— Ня возьмеш, возьмеш тое, што даю табе.

— Што тваё — бяры тое, а што маё, — азваўся Мірон, — таго ня дам!

Лазарыха налівае на патэльню з дзежачкі цеста і ўслухоўваецца ў сварку. Хлапчук саскочыў з палацяў, зьлез на лаўку і ўсунуў у рашчыненае вакно галаў. Тады Лазарыха зачмыхала носам, засмаркалася ў фартух і пачала фартухом выціраць сьлязьлівыя вочы.

На двары, насупроць акна, месьціцца старая стопка. У стопцы стаіць каля засеку дзед, а Мірон і Лазар схіліліся над мяшком, ушчапернліся за яго рукамі, цягнуць яго кожны ў свой бок. Цяжкі мяшок коўзаецца па зямлі на адным месцы, а яны пазіраюць друг на дружку злосныя, чырвоныя ад злосьці і стомленасьці. Галовы іхнія блізка. У абодвух вочы наліваюцца крывёю, у абодвых ад моцнай злосьці і напружанасьці трасуцца рукі.

— Мой мяшок! — крычыць Лазар, — я яго вазьму, за валоў, за карову!

— Ня твой! Ня дам! — крыкліва адказвае Мірон і напінаецца, каб перацягнуць мяшок на свой бок.

У дзеда трасецца галава, ён нешта хоча сказаць і ў злосьці не знаходзіць слоў. Вось ён падышоў да Лазара, узяў яго за рукаў кашулі на плячы і адцягвае ад мяшка. Як узяў за кашулю, тады знашоў словы:

— Не разбойнічай, тое бяры, што даю табе, а сілай ня дам браць, людзей клікаць буду!

Мірон, падахвочаны словамі бацькі, напяўся, скрануў мяшок з месца і, калі мяшок пасунуўся паціху да яго, выставіў у бок да брата на выцягнутай аголенай шыі, аброслы твар.

Дзед адцягвае Лазара ад мяшка і рукі ў Лазара дрыжаць мацней, вось, вось самлеюць пальцы і пусьцяць мяшок. А тады, разумее Лазар, усё прапала, мяшок возьме тады брат. І ён хуценька адарваў ад мяшка правую руку, замахнуўся, стукнуў локцем дзеда ў жывот пад дыхальніцу. Дзед схапіўся рукамі за жывот, разявіў рот, адхінуўся назад і абсеў пад засекам

ля кубла. Лазар хапеў зноў схапіцца за мяшок, але не пасьпеў, бо падскочыў Мірон і ўшчапeрыўся пальцамі за каўнер Лазаравай кашулі.

Сьціскае каўнер горла ўсё мацней і мацней, як абцугамі сьціскае, ужо цяжка дыхаць ад гэтага, мутвее ў вачох і млоснасьць спавівае цела. Але памутнелы погляд бачыць з боку на кубле мерку. Адзін толькі міг затрымаўся погляд на мерцы, настолькі, каб працягнуць руку і ўзяць яе. Лазар намацаў пальцамі мерку, сьціснуў яе за ручку і замахнуўся. Мерка кантам, дзе дно, стукнула Мірона па галаве. Пальцы Міронавы растапырыліся, пусьцілі Лазараву кашулю, а сам ён няўдала сагнуўся, абсунуўся і лёг на мяшок, закінуўшы пад засек галаву.

З-пад кубла ўзьвяўся перапуджаны дзед, кінуўся са стопкі на двор і тады ў адзін голас — так вышла — закрычалі і дзед і хлапчук:

— Во-о-о-й!..

— З-а-б-і-ў!

Хлапчук выскачыў праз акно ў двор і пабег з крыкам на вуліцу. А дзед падбег да студні, схапіў вядро, што вісела на круку, і няўдала ліну на галаву сабе ваду, абліў грудзі. Ён тупаў каля студні на адным месцы, разгублены і перапуджаны, далоньню гладзіў на грудзёх мокрую кашулю.

З хаты з ёмкаю выбегла Лазарыха. З вуліцы беглі ў двор суседзі. У стопцы на мяшку, у які было насыпана насеньне, ляжаў Мірон. У цёмным куце на засеку сядзеў Лазар. Ён, то хапаўся рукамі за галаў і сьціскаў далонямі скроні, нібы пяўся штосьці ўспомніць і зразумець, то апушчаў рукі і яны, даўгія, абвісалі ўздоўж ног, аж за калены. Пад нагамі ў яго бокам ляжала на пяску цяжкая, з дубовае клёпкі, мерка.

Падыходзілі да стопкі палахлівыя жанчыны. Яны асьцярожна зазіралі ў стопку, на хвіліну застывалі каля дзьвярэй і, скучыўшыся, таўпіліся тутака ж. Падыходзілі мужчыны. Расьпіхалі груба локцямі жанчын, зазіралі ў стопку і адыходзілі і, ужо стоячы далей ад стопкі, пачыналі гутаркі, ківаючы паціху галовамі.

Адышоў ад студні дзед. Ён успомніў пра тое, што здарылася і закрычаў ціхім надарваным голасам:

— Старасту! Старасту сюды!..

За дзедам адразу, усе гуртам закрычалі да кагосьці жанчыны:

— Старасту!

— Клікайце старасту!

— Хутчэй старасту!

З двара мятнуліся ў вуліцу гурбою дзеці, на старастаў

двор. Прыбегла ад суседа Міронава жонка. Жанчыны далі ёй дарогу. Яна, праклінаючы страшнымі словамі забойцу, паціху ўвайшла ў стопку, спынілася каля парогу, нібы раздумваючы што зрабіць, і, заенчыўшы, кінулася на зямлю каля мужа.

Прышоў стараста. Забойцу, хоць не ўцякаў ён і ня быў страшным, пастронкам завязалі за сьпіну рукі. Жанчыны ўзялі на рукі і аднесьлі ў хату Міронаву жонку. Стараста зачыніў у стопцы дзьверы і загадаў дзесяцкаму нікога туды ня пушчаць, пакуль ня прыедзе ўраднік. Лазара павялі ў воласьць. За ім на вуліцу выйшлі суседзі. Хлапчук стаяў пасярод двара маўклівы, з вялікім затоеным дзесьці ў нутры болем. Да яго падышла адна з жанчын і, пагладзіўшы па галаве, сказала:

— Асірацеў ты, хлопча, сіратою праз што зрабіўся... божачка мой...

Цёплая рука жанчыны адагрэла, растапіла застыглыя ў камячку пад горлам боль і сьлёзы і яны прарваліся. Хлапчук выпусьціў з зацятых вуснаў здушаны, скамечаны крык і хуценька пашоў з двара ў загуменьні, трасучы над схіленай галавою плячыма.

— — — — — — — — — — —

Зышліся і скучыліся каля гасьцінцу кусты алешніку. Прыбраліся яны ў белыя мяккія вопраткі і пра нешта раяцца паміж сабою ціхімі, таемнымі шолахамі.

Угары парадзелі хмары. Зьвесіўся з хмары, зачапіўшыся адным рогам за край яе месяц і падглядае, што робяць кусты, асьвятляе белыя іхнія вопраткі.

Панас ішоў патупіўшы ў зямлю вочы, бачыў ў гары збоку месяц і хаваў ад яго вочы, хацеў працягнуць далей жывую паску ўспамінаў. Але пад нагой затрашчэў тонкі лёд. З гэтым адразу зьнікла дрымота і дзесьці далёка ў памяці ўжо хавалася тое, што вось-вось было ўспомнілася. З поля падуў у твар Панасу халодны калючы вецер. Панас яшчэ глыбей насунуў на галаву шапку, захаваў у запазуху пад пальто руку і пайшоў шпарчэй.

ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

Платон Галавач—адзін із выдатных маладых прозаікаў Усходняе Беларусі. Гэта пісьменьнік із вялікім талентам і эпіцкім размахам. Цікавай асабліvасьцю яго творчасьці ёсьць вялікі рэалізм у адтвараньні жыцьця. У 1926—28 г. выдаў зборнікі апавяданьняў: „Дробязі жыцьця“ і „Хочацца жыць“, у 1930 г. аповесьць „Вінаваты“, у 1931 г. повесьць „Спалох на загонах“, з якой адрывак перадрукоўваем тут п. н. „Успамін“. Апошнім вялікшым творам Галавача ёсьць повесьць „Праз гады“, выданая ў 1935 г.

Рэдакцыя.

## ЛЕПШ НЯ СУНЬСЯ

Сонца, ты любіш купацца па стрэхах,
любіш сесьці на згніўшым крыжы.
Ведай, толькі кажу я ня сьмехам,
лепш ня сунься са мной на нажы.

Глянь само: ну, як мне не злавацца?
абняло крыж, струхнелы, як пень...
Без сьвятла, бачыш, людзі за працай, —
горне іх бяспрытульны цень...

Мае грудзі сьціскаюцца туга,
злосьць скрыгоча цябе разьбіць.
Але я, як і ты, валацуга,
а працоўным буду служыць.

І ты лепш сьвятла шчырай жменяй
кінь глыбей у жыцьцё, ня блудзі...
Скажа „дзякуй“ табе сутарэньне, —
разам вільгаць страхне з грудзі...

Ганарыцца ня варта бляскам;
ёсьць-жа шляхта, — нашто адбіраць?
Ты зірні толькі ў нашыя казкі,
прывітаеш плячмі гэту раць...

Дык пакінь ты лізаць фарбу стрэхаў,
кінь туліць да сябе крыжы.
Калі-ж не, дык кажу я ня сьмехам,
лепш ня сунься са мной на нажы!..

## НОВЫ МЕНСК

Вечны гул ня спыняе лізаць камяніцы,
вочы глытаюць рэклямы вітрын.
Гадзіньнік спакойна на менскай званіцы
б'е глухім звонам дванаццаць гадзін.

Як зьвяры, песьняй сталі скрыгочуць машыны,
блудніцай бегае сонца ля сьцен.
Скрага - жыцьцё, каб ня страціць хвіліны,
Конна імкнецца шукаць сабе зьмен.

Акрываўленай хваляй Менск складкі на твары
змыў з сябе, стаў разьвясёлы юнак.
Песьняй крынічыць! Забаўна штукарыць.
Гудзіць у грудзёх яго Нёмнам вясна.

Спалоханы вецер таемна па стрэхах
за комін прысядзе, коса зірне.
Сонца сьвятла жменю кіне ў прарэху
волату Менску, а разам і... мне.

Баяцца яго, бо падчас бурапеніць;
вуліцай глянь — шмат хто носіць сіняк.
Адстанеш — заменіць сьвінцоваю зьменай.
О, Менск, ты і я — маладняк!

## ЗА ІГОЛКАЙ

Песьні — гучныя вясёлкі
пацяшаюць, як ніхто.
Дашывай мая іголка
навамоднае манто.
А як толькі зьвечарэе,
як заморыцца рука —
пабягу тады хутчэй я
свайго любага спаткаць.
Ой прысяду, каля саду,
каля саду, пры сасьне;
загадае пяць загадак,
пяць загадак мілы мне:
— Каля дрэўца, што віецца?
— А бяз цьвету, што цьвіце?
— Што бяз голасу сьмяецца?
— Што бяз кораня расьце?
— Што бяжыць і сьлед згінае?
загадае мілы мне.
Вечар ціха засьпявае,
вечар ласкава міргне...
Песьні — гучныя вясёлкі
пацяшаюць, як ніхто.
Дашывай мая іголка
навамоднае манто...
Беласьнежнай ценкай ніткай
вышываць узор пачну:
сваей радасьці вялікай,
сваей вольнасьці вясну...

АНДРЭЙ АЛЯКСАНДРОВІЧ

Андрэй Аляксандровіч — гэта адзін з найздальнейшых беларускіх пролетарскіх поэтаў Усходняе Беларусі. Характэрыстыку яго твораў чытач знойдзе ў надрукаваным у гэтай кніжцы „Маладой Беларусі" артыкуле п. н. „На шляхох новай беларускай паэзіі". Два першыя яго вершы перадрукоўваем із зборніка „Па беларускім бруку" (Менск, 1925), а трэці — із зборніка „Прозалаць" (Менск, 1926). — Рэдакцыя.

# Мастацкая песьня ў Заходняй Беларусі

Гэй, родныя песьні! Вы ў суме і горы,
Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны,
Для роднай зямелькі вы сьветлыя зоры,
Для роднага краю вы райскія гымны.

У вас адаб'ецца нядоля і доля,
Ўздыхавьні, што ходзяць з сахой і з сякерай,
І холад і голад, няволя і воля,
І ў будучнасьць ясну надзея і вера.

ЯНКА КУПАЛА

1

**Беларускія гарманізацыі і свабодная творчасьць К. Галкоўскага**

Тэмпы культурнага жыцьця ў Заходняй Беларусі то спадаюць, то падымаюцца ў залежнасьці ад прычын вонкавых, найчасьцей палітычных. Пульсаваньне грамадзкай думкі ніколі ня спыняецца зусім; наадварот, часта нават бурна прарываецца на паверхню.

У барацьбе за лепшую долю вырабляецца і гартуецца грамадзкая думка, пагляды, псыхіка, якія найчасьцей сваё адбіцьцё знаходзяць у мастацкай творчасьці нашых паэтаў і пісьменьнікаў. Такі магутны дзейнік, як мастацкае слова, паколькі магчыма, выкарыстаны, дзеля ўсьведамленньня і гуртаваньня народных масаў каля сваей ідэі. Толькі адна галіна мастацтва, якая заўсёды і пры ўсякіх умовах падымае і стварае настроі ў масах — у нас амаль зусім закінута. Гэта музыка. Арганізаванае грамадзянства мала цікавіцца разьвіцьцём гэтага магутнага ўзгадаваўчага фактару ў нацыянальным жыцьці і гэтым самым часта выказвае сваю адсталасьць, падчырківае нястачу гэтай музычнай культуры.

Ёсьць моманты, дзе трэба паказаць свае вартасьці, бо голымі разважаньнямі не заўсёды можна пераканаць іншых. Інакш кажучы—для дабра і пашырэньня ідэі народнага адраджэньня і вызваленьня неабходна ў перадавым авангардзе пусьціць паэту, музыку, мастака. За імі лягчэй пойдзе палітык, грамадзкі дзеяч, якія знойдуць там прыгатаваны сваімі папярэднікамі грунт да працы. У нас-жа найчасьцей пачынаецца з апошняга.

Слушнасьць нашых вывадаў даводзіцца тым, што дагэтуль беларускае грамадзянства, якое кіруе палітычным і грамадзкім жыцьцём, нават ня ведае аб нашых здабычах у такой важнай галіне культурнага жыцьця, як музыка і песьня.

А здабыткі ёсьць і, як на нашы ўмовы, нават не малыя.

Па колькасьці напісанага, па разнароднасьці тэмаў і мастацкай вартасьці іхняй распрацоўкі, першае мейсца ў Заходняй Беларусі займае кампазытар Канстанцін Галкоўскі.

Сам кампазытар — сын беларуса з Магілеўшчыны — радзіўся ў Вільні, дзе скончыў сярэднюю школу. Вышэйшую музычную асьвету здабыў у пецярбурскай консэрваторыі па клясе кампазыцыі і опэрнай аркестроўкі, пад кіраўніцтвам такіх вялікіх талентаў, як кампазытары М. Рымскі - Корсакоў і А. Глазуноў. Яго дыплёмная праца была 3-х актовая опэра *Цыгане* (на сюжэт Пушкіна), за якую Пэдагагічная рада Консэрваторыі ў 1903 годзе прызнала маладому кампазытару залаты мэдаль. Гэта першы і, здаецца, адзіны выпадак за 50 гадоў існаваньня консэрваторыі.

Перад вялікай вайной К. Галкоўскі працуе ў Вільні, дзе разам з Людамірам Рагоўскім кіруе ўсім музычным жыцьцём. Арганізуе першую ў Вільні сымфонічную аркестру, выступае за дырыжэрскім пультам, піша вялікую сымфонію і дробныя музычныя п'есы і песьні. Пасьля вайны зноў асядае ў Вільні, зарабляючы цяжкаю працаю музыкі—пэдагога на ўтрыманьне сям'і. Вольныя хвіліны прысьвячае працам над беларускай песьняй.

Усё напісанае кампазытарам на беларускія тэмы можна падзяліць на дзьве групы. Першая — найбольшая — гэта тая ці іншая распрацоўка народных беларускіх мэлёдыяў; другая — куды меншая лікам, але ня менш важная па сваім значэньні — гэта арыгінальная музыка на словы беларускіх паэтаў.

Першым асяродкам, дзе зрадзілася культура беларускай народнай песьні, была Віленская Беларуская Гімназія. Яшчэ ў 1926 годзе панавала там песьня прымітыў, песьня з вялікімі заганамі з боку законаў гармоніі. Народны рэпэртуар школьнага хору не падымаўся вышэй за бедныя гарманізацыі Тэраўскага. Можна было-б дадаць да гэтага няўдалыя пераклады з расейскага ды нямецкага. На такім плыткім фундамэнце будаваць музычна-нацыянальнае ўзгадаваньне моладзі і ўсяго беларускага грамадзянства было немагчыма. Аставаўся адзіны шлях—зьвярнуцца да народных крыніцаў, з якіх і дагэтага часу можна чэрпаць цікавыя і багатыя мэлёдыі. Але да гэтага народнага мэлёсу трэба было даваць належную мастацкую аправу. І вось гэтую аправу, гэтую распрацоўку ўзяўся даць К. Галкоўскі. Тагачаснае кіраўніцтва гімназіі шырака йшло на спатканьне гэтым працам. Інспэктар, а пазьней дырэктар той-жа гімназіі, выдатны беларускі пэдагог С. Паўловіч укладаў душу ў культываваньне народнай песьні. І за гэты час нашая песьня вырасла з рамак прымітыву да сапраўднага мастацкага шэдэўру. Першыя гарманізацыі К. Галкоўскага для невялікага мяшанага хору адразу ўнесьлі сьвежасьць, высокі артызм.

Трэба было перамагчы забабоннае недаверра нават сярод беларускага грамадзянства, што нашая песьня ня можа стаць у першых радох з народнай творчасьцю іншых народаў. І вось у траўні месяцы 1928 году Гімназія ладзіць канцэрт славянскай песьні з лекцыяй кампазытара на тую-ж тэму. Гэты канцэрт

пакінуў нязвычайна моцнае ўражаньне. Аб нашай песьні загаварыла ня толькі беларуская прэса. Грамадзянства мела магчымасьць пераканацца, што і наш народ мае вялікія скарбы, якія можна слухаць ня толькі дзеля патрыятычнага сэнтымэнту.

Надыходзіў 1929 год—10-цілетні юбілей Гімназіі. Трэба было адзначыць належным спосабам дзень заснаваньня так важнай для нас культурнай установы. Пачалася інтэнсыўная праца над падрыхтоўкай мастацкай праграмы для юбілею. Дзеля гэтага прышлося рабіць спэцыяльныя выезды на правінцыю, зьбіраць народныя мэлёдыі, якія гарманізаваў для ўрачыстага сьвята наш талентавіты кампазытар. Праўда, юбілей ня мог адбыцца з прычынаў ведамых беларускаму грамадзянству. Але затое асталося некалькі новых дзесяткаў багатых народных хораў і адна народная сюіта *Дуда*.

Далей гэтая праца ня спыняецця. Заглянуўшы ў пракрыніцу нашай народнай творчасьці, трудна ад яе адарвацца. Так сталася і з кампазытарам. Ён гармонізуе новыя песьні, піша новую сюіту *Каханьне*. Працуе, пакольні пазваляе аддавацца творчасьці цяжкі матар'яльны стан.

Галоўная асаблівасьць усіх гэтых працаў тая, што ўладаючы дасканальна ўсімі музычнымі формамі гармоніі, кампазытар шырака прыкладае іх да нашых мэлёдыяў, усебакова выяўляе глыбокую красу народнай песьні. Багатыя модуляцыі, лёгкія пераходы з мажорнага ў мінорны лад і наадварот, перадача мэлёдыйнае тэмы аднаго голасу другому ў залежнасьці ад таго, якія словы яна ілюструе, прычым аснаўная мэлёдыя заўсёды захаваная, — усё гэта складае тое багацьце музычных апрацовак, якія так выгадна выдзяляюць Галкоўскага сярод іншых кампазытараў. Некаторыя песьні — гэта проста сымфоніі ў мінятуры. Узапраўды-ж інакш ня можна і назваць такую песьню, як, напр. *Ды хто, ды хто па цёмным лесе гукае*, вясельная песьня сіраты, якая пакідае нязвычайна моцнае, прыгожае, чаруючае ўражаньне. Да цыклю такіх апрацовак, апрача *Дуды* і *Каханьня* трэба залічыць: *Чорны вочкі пара спаць*—для солё і хору, *А ў гаспадара, Ходзіць пава па вуліцы*—для мяшанага хору, *Ой белая бярозанька*—для мужчынскага хору, і многа іншых.

Вось што кажа, пазнаёміўшыся з працамі Галкоўскага, украінскі прафэсар А. Прыходзько: „Гэта вялікая краса, вялікае народнае мастацтва, глыбокая народная музыкальнасьць... Мала знаю гісторыю Беларусі, але колькі гэтых песьняў гаворыць мне болей, як вялікі том гісторыі. Вялізарнае ўражаньне на мяне зрабіў К. Галкоўскі песьнямі *А ў гаспадара* і *Ходзіць пава па вуліцы*.

А ізноў-жа малады баўгарскі кампазытар Георгі Вакарджыеў, дастаўшы дзьве народныя песьні — *Ой за ліхімі, за марозамі* і *Ой па гары, па даліне галубы лятаюць*, напісаныя Галкоўскім для солёсьпеву і фортэп'яну, прызнае, што з гэтымі песьнямі можна

сьмела выступаць у шырокі сьвет: ня будзе сораму ні аўтару, ні беларускай музыцы. Гэтыя песьні — адна краса! Якая сьвежасьць, мілагучнасьць, бадзёрасьць!

Гэтую бадзёрасьць жыцьця пранёс народ наш праз вякі няволі, гэтую бадзёрасьць падслухаў у яго песьнях слаўны кампазытар і ў прыгожай музычнай форме паказвае ўсяму культурнаму сьвету, што Беларускі народ жыве, працуе, змагаецца, расьце.

Кароткі агляд зробленага К. Галкоўскім у галіне беларускай народнай музыкі выглядае болей-меней так: дзіцячых і жаночых хораў 14, мяшаных невялікіх 22, вялікіх 12, мужчынскіх 2, дзьве солёвыя песьні з акампан'ямэнтам фортэп'яну і апрача таго дзьве народныя сюіты — *Дуда* і *Каханьне*, з якіх кожная пры выкананьньні хорам займе па паўгадзіны часу.

Так выглядаюць нашыя культурныя здабыткі ў галіне народнай творчасьці, прыдбаныя К. Галкоўскім. Трэба адзначыць, што ўвесь гэты музычны скарб, з нявялікімі вынияткамі, ляжыць дагэтуль у рукапісах.

Не абмінуў кампазытар сваім талентам і беларускай паэзіі. У Заходняй Беларусі толькі і маем тую музыку да слоў нашых паэтаў, якую напісаў Галкоўскі.

Як ні дзіўна выглядае, але ацэну і прызнаньне гэтая свабодная творчасьць кампазытара знаходзіць ізноў-жа перадусім заграніцай. Беларускія рамансы Галкоўскага выконываюцца ў перакладах на мовы польскую, чэскую, расейскую. Сьпявачкі опэры ў Празе чэскай уводзяць беларускія рамансы Галкоўскага *Адна, ізноў адна* і *Лугам, лугам зелянэнькім* у свой сталы рэпэртуар на канцэртных выступленьнях.

Пачатак беларускага рамансу ў Заходняй Беларусі, як бачым, зьвязаны ўжо выключна з імем К. Галкоўскага. У рахунак ня можаісьці пісаніна розных „музыкаў", так-жа, як ня могуць тварыць паэзіі слабыя вершыкі мала граматных паэтаў. Параўнаньне такой паэзіі, скажам, з творчасьцю Купалы або Коласа выглядала-б грубым і непрызваітым жартам. З музычнымі-ж творамі мы часта на такія жарты сабе пазваляем. Часта здараецца, што слабыя і проста няграматныя музычныя творы трактуюцца нароўні з мастацкімі творамі Галкоўскага.

Кампазытар з асаблівай любасьцю піша музыку да словаў Янкі Купалы, Якуба Коласа і Ясакара. Для аднаго голасу напісаныя *Выйдзі спаткаці вясну*, *Абнімі ты мяне маладая* — на словы Я. Купалы, *Лугам, лугам зеляненькім*, *Ці грэх цябе любіць* — на словы Ясакара, *Адна, ізноў адна* — на словы К. Буйло. Дуэты: *Як у лесе зацьвіталі*, *Тры сыны*, — на словы Я. Купалы, *Цёмная ночка гажыцца* — ноктурн на словы А. Гурло; вокальны квартэт *Месяц* — на словы Я. Коласа; *Гымн свабодзе* — мяшаны хор, на словы Я. Купалы. Да гэтага трэба дадаць 6 музычных ілюстрацыяў да

п'есы *На Полацкім замчышчы* — на словы Я. Купалы (хоры і сольныя сьпевы).

Апрача таго, кампазытар задумаў і распачаў вялікую працу — беларускую опэру паводле паэмы Я. Коласа *Сымон музыка*. Некалькі месяцаў маруднай працы было патрачана на адну інсцэнізацыю паэмы; былі паложаныя асновы музыкі. Усе кірункі беларускага грамадзянства былі азнаёмленыя дакладна з гэтым пачаткам вялікай працы, якая, трэба сказаць, пакідала на ўсіх бяз вынятку вялізарнае ўражаньне. Патрэбная была толькі невялічкая ахвярнасьць з боку грамадзянства, якая зусім не перавышала нашых беларускіх магчымасцяў. Такія магчымасьці маглі быць лёгка знойдзены. Але нашае грамадзянства не даценіла вартасьці гэтага сапраўды вялікага пачынаньня. Не здабыліся на патрэбны натуг і культурныя арганізацыі. Нажыва і кар'ерызм, або культурная адсталасьць перамагалі ўсё.

Прыкра гэта, але мусім сьцьвердзіць, што экзаміну культурнай сьпеласьці, можа за невялікімі выняткамі, нашае грамадзянства ў такой важнай галіне, як музыка, не злажыла. Мы дагэтуль ня можам здабыцца на паважную арганізацыю музычных імпрэзаў, існуючая прэса ня можа здабыцца на культурную крытыку. У гэтай галіне мы, як відаць, яшчэ не дарасьлі да Галкоўскіх, Грэчанінавых, бо да гэтага часу нам бліжэйшая вокальная тандэта, музычны прымітыў, звульгарызаваная прывалочаная чужая мэлёдыя такой *Бабы-Еўкі*, чымся *Устань ты старонка, родная маці, Адна, ізноў адна, Тры сыны, Месяц, Дуда.*

Кожны паэта піша, каб яго чыталі, кампазытар творыць, каб яго слухалі. Калі ўсе стануць няграматнымі — паэту і пісьменьніку ня будзе для каго пісаць; калі ўсе будуць глухімі — кампазытару няма для каго тварыць. І хіба нашая музычная глухата ёсьць прычынай таго, што наш кампазытар у апошні час ня творыць. Для Беларускага Народу гэта вялікая страта, бо маўчыць вялікі праўдзівы талент — глыбокі знаўца музыкі нагул і народнай асабліва.

Яшчэ далёка ня ўсё сказана кампазытарам, яшчэ многа захавана ў ім творчай нявыкарыстанай энэргіі і здольнасьцяў, і мы верым, што яшчэ пачуем новыя шэдэўры слаўнага кампазытара, імя якога будзе ўпісанае беларускім народам у сьветлыя старонкі гісторыі росту нашай культуры і нашага мастацтва. А абавязкам беларускага грамадзянства ёсьць стварэньне адпаведных варункаў да таго, каб гэты вялікі талент мог выявіць сябе на ніве беларускай музыкі ўва ўсім сваім мастацкім размаху.

Р. ШЫРМА

# Ці існуе крызыс беларускага руху?

Беларускі рух заняпаў... перажывае крызыс... Беларускі рух ня мае будучыні... — чуем мы вельмі часта падобныя словы з вуснаў розных людзей. Мусім спыніцца над гэтай справай, разглезьдзіць нашую сапраўднасьць.

Патнаццаць год ужо мінула ад часу, як была падзелена Беларусь на некулькі часьцяў. Усходнюю Беларусь (Смаленшчыну, паўночныя паветы быўшай губ. Віцебскай і Чарнігаўскай) афіцыяльныя савецкія дадзеныя ўважаюць за „истинно русскую Западную область“, апіраючыся на перапісе з 1926 г. Праведзены гэты перапіс так, што знаходзіць тут каля 90% расейцаў (вялікарусаў)[1], Дадзеныя перапісу пярэчаць ня толькі даваенным расейскім этнографам і лінгвістам, але і пасьляваенным — савецкім. Працы апошніх, выданыя ў 1926—28 г. г., аднагалосна называюць насельніцтва гэтага краю беларускім і прыводзячы цытаты з мясцовай народнай творчасьці і мясцовы слоўнік, стараюцца азначыць, да якога з беларускіх дыялектаў можна залічыць гутарку гэтых беларусаў[2]). Выглядае так, што савецкая ўлада ня хоча бачыць беларусаў у Ўсходняй Беларусі.

У Цэнтральнай Беларусі, т. зв. Савецкай Беларусі, справа прадстаўляецца значна лепш. Там існуюць у вялікай колькасьці беларускія школы ад пачатковых да вышэйшых уключна. Нажаль, у сапраўднасьці ў гэтых школах беларускімі зьяўляюцца дзеці, моладзь і мова; матар'ял навучаньня далёка небеларускі, а можа часта нават процібеларускі. Калі ходзе аб іншыя галіны жыцьця, пачынаючы ад палітычных і канчаючы навуковымі, то яны звычайна знаходзяцца пад кіраўніцтвам каго хочаце, але толькі не беларусаў. Выяўленая ў поўнасьці беларускасьць зьяўляецца часта прычынай высылкі з роднага краю. Ад 1927 г. нішчыцца тут усё, што выказвае беларускі нацыянальны характар, згодна з клічам барацьбы з нацдэмаўшчынай.

У Заходняй Беларусі ў сучасны мамэнт для польскіх урадовых дзейнікаў беларускае пытаньне амаль ня існуе—яно перачыркнутае, бо беларускі рух, цьвердзяць яны, мала актыўны. Пры апошніх выбарах беларусы, як палітычная, арганізаваная сіла былі выэлімінаваныя. Побач з гэтым мусім згадзіцца з тым, што беларускае арганізаванае жыцьцё аслабла. Яно раздробленае, разьедзенае іржой грызьні, інтрыг і нянавісьці розных дзейнікаў — перадусім чужых, але часта і сваіх. Няма ў нас моцных палітычных, эканамічных і культурных арганізацыяў, няма апрацаванай палітычнай праграмы-ідэолёгіі, ці ідэолёгіяў, няма павадыроў. Старыя павадыры адраджэньня — найчасьцей романтыкі — або зьяўляюцца

---

[1]) Всесоюзная перепись населения, 1926 г. т. IX, РСФСР. Отд. I, Москва 1929 г.

[2]) Росторгуев: Северно-белорусские говоры; Полевой: О языке Новозыбковского уезда Гомельской губ.; Бузук: Паўночна-беларускія гаворкі.

ізаляваныя ад грамадзкага жыцьця тут, або мераюць бязьмежную шырыню расейскіх тундраў і стэпаў, а ёсьць і такія, што перайшлі ў варожы абоз, ці на службу мамоне. Тыя-ж з іх, што да апошняга часу стараліся ўтрымацца на паверхні жыцьця, так перасварыліся між сабой, што згубілі давер і пашану ў народзе, а нават у самых сябе.

Маладыя сілы, прыплыў якіх быў так значны ў папярэдніх гадох, скіроўваліся на ўсход у беларускую „Мэкку" з поўнай верай, што там будуецца беларускі дом, што там яны ўкладуць свае маладыя сілы ў творства вялікай будыніны Беларусі і забясьпечаць лепшую будучыню сабе і свайму народу. Савецкая сапраўднасьць спаткала іх інакш. Беларускі Менск аказаўся толькі перадачным пунктам, з якога разьсеялі іх па ўсім абшары Саветаў—ад Камчаткі да Ленінграду і ад Ледаватага Акіяну да Пэрсыдзкай граніцы. Тая-ж інтэлігенцыя, што асталася тут, часткова была ўцягнутая ў агульную куламесу грызьні розных беларускіх і псэўдобеларускіх арганізацыяў і груп, часткова засела на выгадных становішчах пасадаў ці вольных прафэсіяў і забылася пра свае папярэднія ідэалы - лятуценьні аб Беларусі. Рэшта, менш шчасьлівая, ці мо больш верная нацыянальнаму сумленьню, пасьля атрыманьня дыплёму апынулася пад бацькавай страхой і дзеліць матар'яльную бяду сучаснай беларускай вёскі з сваімі братамі і сёстрамі. Несправядлівай аднак была-б думка, што ўся гэная інтэлігенцыя для беларускага руху страчаная. Калі яна бязьдзейная ці маладзейная, дык толькі таму, што трапіла ў неадпаведныя варункі, што пры найлепшай волі вельмі часта не магла прыняць удзелу ў беларускім жыцьці—такім, якім яно прадстаўлялася дасюль. Адно, што можна было-б ей закінуць, дык нястачу ініцыятывы, актыўнасьці ў тварэньні здаровых падставаў беларускага жыцьця.

Беларуская вёска прадстаўляецца невясёла. Пануе тут крызыс, безграшоўе, таніна на сельска-гаспадарчыя прадукты, беззрабоцьце, нястача адплыву для маладых, здаровых рук працы — ад моладзі тут аж кішыць. А да гэтага яшчэ трэба дадаць гаспадарчую і культурна - грамадзкую неарганізаванасьць.

Землі нашыя—у параўнаньні нават з іншымі землямі Польшчы — асабліва занядбаныя. Яны заніщто аддаюць свае прадукты, каб купіць патрэбныя фабрыкаты, каторыя прывозяцца з іншых земляў Польшчы ці заграніцы — нават і тыя, што маюць усе варункі да вырабу тут на мейсцы. Ніхто ня дбае аб палепшаньне дабрабыту беларуса, які знаходзіцца сяньня ў матар'яльнай галіце. Таксама адчувае ён голад духовы, бо ўсякія пробы арганізацыі, ці то гаспадарчай, ці культурна-асьветнай, спатыкаюцца з вялікімі перашкодамі.

На 2½ мільёны насельніцтва, а паводле апошняга польскага перапісу—1.600.000, у Заходняй Беларусі існуе каля 50 беларускіх урадовых пачаткавых школаў, якія беларусы, здаецца слушна, уважаюць за псэўдо-беларускія, і Беларуская Філія Польскай

Дзяржаўнай Гімназіі Славацкага ў Вільні, як адзіная прадстаўніца беларускага сярэдняга школьніцтва. Аб вышэйшых беларускіх школах ня можа быць тут мовы.

Існаваўшыя ня так даўна сотні культурна-асьветных арганізацыяў у паўстаўшых варунках часта замерлі, а там, дзе жывыя, культурна асьветная праца спатыкае звычайна столькі розных перашкод, што часта астаецца толькі прыгожымі імкненьнямі, ці заціснутай у сэрцы тугой.

Так прадстаўляецца сяньняшняя беларуская сапраўднасьць. Мейма аднак грамадзкую адвагу сьмела глянуць ёй у вочы і зусім об'ектыўна сьцьвердзіць тое, што ёсьць благім. Але з поўным об'ектывізмам мусім зазначыць, што сказ аб крызысе беларускага руху апіраецца толькі на ацэнцы вонкавых яго праяваў арганізаванага беларускага жыцьця, якое тварыла беларуская інтэлігенцыя. Калі ходзіць аб гэтыя праявы, а не аб рух у цэлым, дык сказ гэты слушны.

Распачатая ад 1922 г. шырокая беларуская акцыя ў Заходняй Беларусі распылілася пад уплывам няпрыяючых палітычных абставін, якія ўсьцяж пагаршаліся і сяньня дайшлі бадайшто да кульмінацыйнага пункту. Тыя-ж абставіны прычыніліся да паўстаньня сярод беларускага грамадзянства розных палітычных ор'ентацыяў. Кіруючыя беларускія дзейнікі не пасьпелі агледзіцца, як сталіся выканаўцамі чужой волі, няраз нават супроць свайго сумленьня. Пачалася грызьня, інтрыгі. Да закуліснага рэжысэрства далучыліся асабістыя амбіцыі, асабістыя справы. Чуючыся ашуканымі, кіраўнікі беларускай палітыкі стараліся вярнуцца на ўласную дарогу, але было ўжо позна... Тымчасам народ і малодшая гэнэрацыя інтэлігенцыі адвярнуліся ад іх. Так была скрыўленая аснаўная лінія беларускага адраджэньня, а рэпрэзэнтуючыя яе павадыры вышлі з палітычнай арэны. Рух астаўся без павадыроў і без праграмы. Не загінула, праўда, ідэя незалежнасьці Беларусі, але да гэтага часу яшчэ ніхто ня выпаўніў яе канкрэтным беларускім зьместам. Пры гэтым, за цэлы сьцяг гадоў нічога ня зроблена ў галіне эканамічнага жыцьця, якое мусіла-б быць базай да працы культурнай і палітычнай. Настроі беларускіх масаў, іх гон да тварэньня масавага арганізаванага беларускага жыцьця, ня толькі ня былі адпаведна выкарыстаныя, але яшчэ змарнаваныя. Паважнейшыя натугі робленыя ў гэтым кірунку давалі нечаканыя вынікі, што сьведчыла аб дасьпеласьці справы. Але што-ж, калі заместа здаровай духовай стравы падсоўваліся часта беларускай вёсцы імпартаваныя сурагаты, а мэты арганізацыі, якія спачатку выдаваліся патрэбнымі і адпавядаючымі беларускаму жыцьцю, у практыцы часта аказываліся эфэктоўнымі фэервэркамі, шумнымі бумамі, патрэбнымі камусь, але не беларускай справе. Так беларускія масы ў многім аказаліся ашуканымі, здэзор'ентаванымі і консэквэнцыі гэтага мы адчуваем да сяньняшняга дня. У канчальным выніку за ўсё гэта трэба было вельмі дорага заплаціць — найлеп-

шым людзкім матар'ялам. Уцягнены ў арганізацыйную работу беларускі народны актыў — найдаражэйшы дзейнік руху — быў выстаўлены дырыжорамі, як галоўны жырант цэлай справы і мусіў заплаціць сотнямі гадоў турмы, ссылкай, здароўем, а нават маладым жыцьцём. У гэтым крыецца найвялікшая трагэдыя маладой беларускай інтэлігенцыі і беларускага руху, бо-ж ахвяры гэтыя, заместа на свой, папалі на чужы аўтар... У звязку з усім гэтым беларускае арганізацыйнае жыцьцё пачало заняпадаць. Прычыніліся да гэтага ўлады, як напр. у справе „Грамады", і дырыжоры, зьвязаныя з ор'ентацыямі. Няма дзіва таму, што беларускія масы сваімі вымогамі, нацыянальнай і грамадзкай сьведамасьцю перарасьлі магчымасьці, якія магла-б даць ім беларуская інтэлігенцыя ў сучасных варунках.

Так паўстаў крызыс арганізаванага беларускага жыцьця. Выкліканы ён перадусім цяжкімі палітычнымі абставінамі. Аднак крызысу гэтага ня можна адносіць да беларускага руху ў цэлым руху масавага, як гэта хочаць бачыць польскія ўрадовыя і неўрадовыя дзейнікі. Тым больш ня можа быць мовы аб заняпадзе руху. Ён загубіў толькі свае вонкавыя, арганізаваныя праявы. Аб гэтым, калі мы прыгледзімся, кажыць жыцьцё беларускіх масаў.

Пятнаццаць год таму беларуская вёска зусім мала чула пра беларускую справу, а нацыянальная сьведамасьць была атрыбутам малой жменькі адзінак у розных мясцовасьцях. Тады яшчэ розным урадам і асобам трэба было даказываць існаваньне беларускай народнасьці. Сяньня аб гэтым няма мовы, ніхто не пярэчыць існаваньню беларускай народнасьці, ні адна афіцыяльная папера з рубрыкамі нацыянальнасьцяў не абходзіцца бяз рубрыкі беларускай. Беларусы як народ сталіся рэальным фактарам. Беларускае пытаньне сталася міжнародным, нацыянальнае усьведамленьне пашло наперад гігантычнымі крокамі. Аб гэтым сьведчаць тысячы рознага тыпу беларускіх школаў у цэнтральнай (Савецкай) Беларусі, у якіх вучыцца беларускія масы, мільёны беларускіх кніжак, сотні тысяч экзэмпляраў беларускіх газэт і часапісаў, масавая прадукцыя беларускай інтэлігенцыі. Праўда, савецкія ўлады стараюцца з усяго гэтага выбіць беларускі нацыянальны зьмест, але што гэта ім не ўдаецца, відаць хоцьбы з таго, што амаль дзесяць год вядзецца там змаганьне з т. зв. нацдэмаўшчынай — ці інакш кажучы, з беларускім нацыянальным рухам, а ўсё-ж рух гэты і сяньня там існуе, аб чым гавораць нам шпальты самой савецкай прэсы.

Аб росьце нацыянальнай сьведамасьці ў Заходняй Беларусі сьведчаць тысячы дэклярацыяў, якія складала ў сваім часе беларуская вёска на беларускую школу, перапіс насельніцтва з 1931 г., у які беларусамі запісалася 1,600,000 людзей! А мы ведаем, як праводзіўся гэты перапіс, дык той, хто запісаўся беларусам, мусіў быць сапраўды нацыянальна сьведамы. Аб нацыянальнай сьведамасьці сьведчыць імкненьне беларускай вёскі да закла-

даньня культурна-асьветных арганізацыяў, да ладжаньня беларускіх імпрэзаў. Беларускі Народ жыве сваім нацыянальным жыцьцём, хоча яго пашыраць, тварыць нацыянальныя цэннасьці. Беларускія масы ня хочаць прыняць іншых небеларускіх формаў і зьместу жыцьця. І тут бязсільнымі робяцца і чужая школа, радыё, і газэты, і адміністрацыя, і служба ў войску. Беларус у школе ці ў войску хутка навучыцца папольску, ці парасейску, але па вавароце пад родную страху зноў сальецца з сваім адвечным жыцьцём вёскі. Гэта сьцьвярджаюць напр. самі палякі, калі гавораць, што палянізацыя на беларускіх землях ня робіць поступу. І няхай нам не гавораць, што беларускі рух заняпадае. Мы ведаем, як прадстаўляецца справа. Іншая рэч, што дзеля прычын перадусім соцыяльнага характару і сучаснага грамадзкага ладу, беларуская вёска перажывае матар'яльную бяду, што часткова праз гэта, а часткова дзеля іншых прычын, неарганізаваная, адцятая ад культурнага жыцьця сьвету. Але яна жыве, шукае лепшых формаў і зьместу жыцьця, часта-густа сваім адумам, без павадыроў, без свае інтэлігенцыі. Толькі абставіны сяньня створаныя такія, што трудна гаварыць аб масавай арганізацыі беларускай вёскі з удзелам беларускай інтэлігенцыі.

Але ніколі няма крызысу беларускага руху, ані тымбольш яго заняпаду. Ёсьць толькі штучнае стрымліваньне, з якога выплываюць недамаганьні, ці крызыс беларускага арганізацыйнага жыцьця. Гэтае штучнае стрымліваньне руху ня страшнае. Усякія штучныя перашкоды беларускі рух пераможа, як зрабілі гэта нацыянальныя рухі ўсіх адрадзіўшыхся народаў.

Беларуская моладзь мусіць сабе гэта ўсьведаміць і рабіць тое, што наказывае ей яе нацыянальнае сумленьне, а памылкі з нядаўнага мінулага хай будуць для яе навукай. Зьмяніліся часы, абставіны, варункі. Патрэбны новыя людзі — з новай энэргіяй, з іншымі мэтодамі працы, з выработанай ідэолёгіяй, з моцнай, нязломнай воляй. Такіх людзей трэба гуртаваць і гартаваць.

В. ГРЫШКЕВІЧ

# З культурнага жыцьця

## Консолідацыя.

У беларускім жыцьці на землях Заходняй Беларусі трэба з здаваленьнем адцеміць факт скоордынаваньня сваіх натугаў у дамаганьні беларускай школы двох нашых культурных арганізацыяў — Таварыства Беларускае Школы і Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, які быў пададзены ў супольна падпісанай і апублікованай дэклярацыі (гл. „Наша Воля“ № 4 з 29 II.36 г.).

Для нас, маладой беларускай інтэлігенцыі, даўно было ясна, што змаганьне за родную школу, гэта завялікая і паважная справа, каб тут і далей можна было-б у нашых палітычных абставінах пазваляць сабе на нескоордынаваную працу паасобных культурных арганізацыяў. І хоць сучасныя „дэмократычныя“ абставіны моцна розьняцца ад абставінаў 1926-28 г.г.—гадоў першага нашага плебісцыту за родную школу, — аднак нягледзячы на гэта, нашым абавязкам ёсьць і далей кінуць на гэтае змаганьне ўсе свае народныя сілы.

Супольная выступленьне ТБШ і БІГіК, апрача свайго вялікага значэньня для школьнай справы, ёсьць яшчэ адбіцьцём росту і консолідацыі актыўных сіл беларускага народу на фронце змаганьня за свае нацыянальна-культурныя патрэбы.

## Т-ва Беларускае Школы.

Таварыства Беларускай Школы, найстарэйшая Беларуская културна-асьветная арганізацыя ў Заходняй Беларусі, палажыўшая найбольшыя заслугі перадусім у змаганьні за родную школу, у апошнія гады перажывала трудныя хвіліны свайго існаваньня, перадусім з прычын вонкавых. Ад многіх ужо гадоў німа магчымасьці склікаць агульны зьезд арганізацыі для аднаўленьня Галоўнай Управы. Колькасьць дзейных і незавешаных гурткоў моцна зьменшылася.

Нягледзячы на гэта, апошнім часам Т-ва ізноў пачынае працаваць. Адносна жывую працу пачаў вясьці Віленскі Цэнтральны Гурток ТБШ. Адным з важных пачынаньняў гэтага гуртка, ёсьць распачатыя сёлета Завочныя Агульнаасьветныя Курсы. Галоўная Ўправа таксама ўжо выдала сёлета нумар часапісу „Летапіс ТБШ“ і пачала акцыю ў справе дамаганьня роднай школы.

Належнае ажыўленьне працы ТБШ у нялікай меры залежыць ад кадраў беларускай інтэлігенцыі, якая да гэтай пары часта астаецца паза ўсякімі культурна-асьветнымі арганізацыямі.

## У справе грамадзкага суда.

Усім ужо ведамая з прэсы пастанова грамадзкага суду ў справе т. зв. беларускай санацыі — Астроўскага, Луцке-

віча, Самойлы і Трэпкі. Суд сьцьвердзіў знаны агульна факт — карыстаньне арганізацыяў, кіраўнікамі якіх былі вышэй успомненыя асобы, з конфідэнцыёнальных сум; а ў адносінах да дырэктара беларускай філіі гімназіі ім. Славацкага — Астроўскага, суд прызнаў яшчэ яго дэмаралізуючы ўплыў на студэнцкую моладзь карпарацыі „Скарыніі". Трэба зазначыць, што да 1934 г. беларускім санацыйным кірункам кіравалі супольна, як Астроўскі так, і Луцкевіч і Трэпка і за ўсе шкоды, прынесеныя гэтым кірункам беларусам, паносяць адказнасьць у роўнай меры ўсе ўспомненыя асобы.

Аб гэтай дэмаралізацыі ярка гаворыць і неспатыканы нідзе ў культурным сьвеце спосаб. у які дыр. Астроўскі пробаваў бараніцца перад пастановамі грамадзкага суду— сабраў проста асоб, так ці іначай ад сябе залежных, якія і напісалі сваю „пастанову" аб тым, што грамадзкі суд „памыліўся", бо гр. Астроўскі „цешыцца вялікім паважаньнем і аўторытэтам". Для гэтай „абароны" быў выданы нават спэцыяльны часапіс „Mówią Młodzi" ў польскай мове (відаць выдаўцы часапісу зразумелі, што апраўдываць гр. Астроўскага перад беларускім народам — справа безнадзейная). Трэба падчыркнуць, што гр. Астроўскі і далей астаецца дырэктарам беларускай філіі польскай дзяржаўнай гімназіі ім. Славацкага, а гэтым самым і далей „гадуе" беларускую моладзь.

Сумны для беларускай санацыі канец, гэта яшчэ адзін прыклад таго, як канчаецца ўсякая ўгода інтэлігенцкіх груп ці арганізацыяў. І маладое пакаленьне беларускай інтэлігенцыі мусіць сабе добра ўсьведаміць, што роднай школы, дэмакратычных правоў і свабод, свабоды культурна-нацыянальнай працы і належнага, згодна з інтарэсамі шырокіх мас беларускага народу разьвязаньня соцыяльных пытаньняў не здабываецца ўгодай тэй ці іншай інтэлігенцкай групы. Ня ўгодамі разьвязываюцца нацыянальныя і соцыяльныя праблемы. А яе выканаўцы заўсёды раней ці пазьней апынуцца за кругам грамадзкага жыцьця беларускага народу.

## Літаратурнае жыцьцё ў БССР.

Зьмена палітычных варункаў і грамадзкага ладу ў БССР пазволіла многім талентам-самародкам выйсьці з беларускіх народных нетраў, выявіць і разьвіць свае здольнасьці, і таму літаратурнае жыцьцё ў БССР,— ня гледзячы нават на зьмены палітычных „курсаў", пры якіх некаторая іх часьць мусіць змаўкаць (напр.: Пушча, Дубоўка, Лужанін і інш.), — бурліць.

Арганізацыйна ўсіх пісьменьнікаў і паэтаў абымае Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў БССР (ССП БССР). Літаратуры і мастацтву прысьвечаныя два спэцыяльныя часапісы. Пяцідзёнка вялікага газэтнага фармату — „Літаратура і Мастацтва" — служыць перадусім літаратурнай і мастацкай крытыцы і арганізацыйнаму жыцьцю. Там таксама друкуюцца вершы. а з прозы — кароткія новэлі. Другі часапіс — „Полымя Рэвалюцыі", выходзе ў форме месячнага журналу, абыйма 10—15 аркушоў друку. Тут, апрача вершаў, друкуюцца даўжэйшыя поэмы, расказы, цэлыя повесьці, раманы і крытычныя нарысы. Апрача часапісаў, друкуецца даволі вялі-

кая колькасьць вершаў, расказаў і раманаў у форме кніг.

Буйна разьвілася ў БССР, асабліва ў параўнаньні з даваеннай беларускай літаратурай і літаратурай Заходняй Беларусі, — проза. Апрача старых даваенных прозаікаў — Т. Гушчы, З. Бядулі, — вырасла тут цэлая плеяда новых талентавітых пісьменьнікаў. Гэта Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Платон Галавач, Міхась Зарэцкі і Сымон Баранавых. Іхнія высокай мастацкай вартасьці раманы і новэлі перакладаюцца на чужыя мовы (расейскую, украінскую), а таксама ахвотна чытаюцца беларускім савецкім чытачом (напр.: раман Галавача „Спалох на загонах“ напісаны ў 1931 г., у 1935 г. дачакаўся ўжо 5 га выданьня). Побач з гэтымі першараднымі прозаікамі падрастае і цэлы чарод маладых, часта ня менш талентавітых. Мікуліч, Самуйлёнак, Віцьбіч, Скрыган, Оршын, Знаёмы, Дудар, Мурашка, Пасьлядовіч, Каваль, Стаховіч, Гурскі, Кандрацёнка—вось прозьвішчы тых пісьменьнікаў, расказы, повесьці, а нават раманы якіх можна спаткаць у „Літаратуры і Мастацтве“ або ў „Полымі Рэвалюцыі“.

Крыху слабей, але таксама даволі буйна разьвілася паэзія. Тут, побач з старымі паэтамі Купалай і Коласам, выступаюць імёны такіх ужо разьвіўшыхся талентаў, як Чарот, Александровіч, Дудар, Кляшторны, Алесь Звонак, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Дарожны, Хведаровіч, Хадыка, — і цэлы чарод маладзейшых, часта яшчэ пачынаючых, як Багун, Лявонны, Куляшоў, Жаўрук, Сяднёў, Казлоўскі, Вечар, Леанідаў, Гваздоў, Сабаленка, Буза і іншыя.

Горшая справа з драматургіяй (Гурскі, Альшэўская, Зарэцкі і інш.), а асабліва блага з літаратурнай крытыкай, якая выразна адстае ад агульнага разьвіцьця беларускай літаратуры ў Саветах. В. Т.

## III. Пленум Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў СССР у Менску.

У дні ад 10 да 16 лютага с. г. адбываўся ў сталіцы Беларускай ССР, у Менску, III Пленум Праўленьня Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў СССР (ССП СССР). Апрача пісьменьнікаў беларускіх, былі тут пісьменьнікі расейскія, украінскія грузінскія, армянскія, башкірскія і іншых народаў СССР. На праграму пленуму зложыліся даклады і дыскусіі над імі. Даклады чыталі: 1. Клімковіч — аб беларускай літаратуры; 2. Тагіраў — аб башкірскай літаратуры; 3. Суркоў — аб савецкай паэзіі наагул; 4. Сенчэнка—аб украінскай паэзіі і 5. Александровіч—аб беларускай паэзіі.

Клімковіч у сваім доўгім дакладзе разглядзіў беларускую літаратуру пачынаючы ад Паўлюка Багрыма аж да сяньняшніх дзён. Дакладчык падчыркнуў вялікія здабычы беларускай савецкай літаратуры ў галіне прозы, аб чым сьведчаць апошнія творы такіх прозаікаў, як Лынькоў, Галавач, Гушча, Чорны, Бядуля, і ўважае, што ў далейшым у галіне прозы трэба змагацца „з натуралізмам, з фатаграфічнасьцю, з паўзучым апісальніцтвам“. Горш справа стаіць з драматургіяй. Тут, хоць пісьменьнікі пробуюць з аднэй стараны крануць праблему „новага чалавека“, а з другой т. зв. вечныя праблемы (каханьне, зайздрасьць, сяброўства, бацькаўшчына, здрада і інш.), — поступ вельмі нязначны. Ня лепш і з літаратурнай крытыкай, у якой у апошнія часы ізноў былі выкрытыя ўхілы т. зв. нацдэмаўшчыны ў Вольскага і Некрашэвіча і трацкізму ў Дунца і Бэндэ. У заканчэньні свайго дакладу Клімковіч кажа, што галоўным лёзунгам сучаснай савецкай літаратуры павінна быць—увага новаму чалавеку.

Ня менш даўгі, але болей павярхоўны быў даклад паэты Александровіча аб беларускай паэзіі.

Абодва дакладчыкі падышлі да беларускай літаратуры з аднэй стараны з гледзішча комуністычнага, а з другой з гледзішча апошняй нацыянальнай сталінскай „лініі“. Трэба адзначыць, што ў дакладах на пленуме і наагул у беларускай савецкай літаратурнай крытыцы, пачалі апошнім часам больш прыхільна і рачова разглядаць сучасную беларускую літаратуру Заходняй Беларусі (гаворыць аб гэтым напр. рэцэнзыя ў адным з нумароў „Літаратуры і Мастацтва“ на апошні зборнік Машары).

У дакладчыкаў мясцамі трапляліся яркія супярэчнасьці. Напр: Клімковіч у сваім дакладзе кажа: „На працягу раду гадоў у працы Наркому Асьветы і Галоўмастацтва мы мелі яўную недацэнку народнай творчасьці, у выніку чаго былі ў загоне хор народных песьняў, ансамблі народных інструмэнтаў, народныя танцы і г. д. Пісьменьнікі мусяць карыстацца старымі этнографічнымі зборнікамі Шэйна, Раманава, Сержпутоўскага (чаму адтуль ня выбраныя лепшыя і каштоўныя народныя казкі і легенды і не перавыдадзеныя?)... Які магутны струмень новых слоў і новых вобразаў мог-бы ўліцца ў літаратурную мову, калі-б паставіць сур'ёзна гэтую справу" (справу карыстаньня ў літаратурнай творчасьці з фольклёрных багацьцяў). Так гавора Клімковіч. Александровіч тымчасам з абурэньнем падае, што наццэмы „пашыралі анкету па збору жывой беларускай мовы і ў спэцыяльнай інструкцыі давалі дырэктыву пры запісах слоў ар'ентавацца на мову старых няпісьменных бабулек і на мову дзяцей, якія яшчэ ня вучацца ў нашых савецкіх школах". Адно з двох: або беларускія савецкія пісьменьнікі сапраўды хочаць чэрпаць з „магутнага струменю новых слоў і новых вобразаў, якія дае фольклёр, і тады трэба зьвярнуцца па гэтыя вартасьці ў самыя нетры беларускага фольклёрнага багацьця, якраз, між іншым, да „няпісьменных бабулек"; або пісьменьнікі гэтых „новых слоў і новых вобразаў" ня хочаць, і тады німа што дэклямаваць пра вартасьці фольклёру. Бо ў мове дзяцей „якія ўжо вучацца ў савецкіх школах", тав. Александровіч знойдзе перадусім мову вучыцялёў і мову савецкіх падручнікаў, пісаных звычайна гарадзкой інтэлігенцыяй. І німа што там шукаць „магутнага струменю" беларускага фольклёру.

У сваіх канчатковых рэзалюцыях адносна беларускай літаратуры плэнум сьцьвердзіў: 1. нястачу адпаведнага выхаваньня маладога пакаленьня пісьменьніцкіх радоў і 2. патрэбу стварэньня перадавой, вядучай літаратуру крытыкі. Гэтыя постуляты, асабліва апошні, трэба прызнаць за зусім слушныя, бо беларуская савецкая літаратурная крытыка часта сапраўды стаіць „ніжэй крытыкі". Досыць тут прыпомніць факт, як „літаратурны крытык" А. Кучар зусім паважна дакараў паэту Дарожнага ў тым, што шасьцістопны хорэй ягонага верша шкодны, бо... будову шасьцістопнага хорэя мае „нацдэмаўская" лявоніха!... Гумару, як бачым, у тав. Кучара хапае; горш з толкам.

Адкрываўся плэнум вельмі ўрачыста. Ад імя ўладаў БССР віталі пісьменьнікаў кіраўнікі рэспублікі — Гікала, Галадзед і Чарвякоў. Відаць у сувязі з напружаным міжнародным палажэньнем, плэнум адбываўся пад клічам „Няхай жыве вялікая дружба народаў Савецкага Саюзу". Дружбу гэтую беларускія ўдзельнікі паседжаньняў плэнуму выказвалі перадусім у падчырківаньні палітычнай і культурнай ор'ентацыі на расейскі народ. І так, у сваім прывітаньні Галадзед казаў: „Мы стаім на праўдзівай глебе, на той глебе, якая гаворыць, што літаратура Беларусі паўстала і разьвіваецца на аснове расейскай літаратуры.. якая і зьяўляецца вядучай літаратурай для нас". Клімковіч у сваім дакладзе гаворыць аб „магутным рускім народзе", аб патрэбе для беларускіх пісьменьнікаў „вучобы палітычнай, вучобы літаратурнай у клясыкаў рускай літаратуры", а Александровіч з патосам заявіў ад імя беларускіх паэтаў: „Мы вучыліся і будзем вучыцца па творчасьці генія рускай літаратуры Аляксандра Сяргіевіча Пушкіна".

В. Т.

## Беларускія слоўнікі.

Інстытут Літаратуры і Мовы Беларускай Акадэміі Навук закончыў складаньне беларускага артографічнага слоўніка з 20,000 слоў.

Падрыхтоўваецца таксама да друку вялікі расейска-беларускі слоўнік у двох томах з 75,0000 слоў. Першы том, які зьмяшчае літары ад „а" да „о" — ужо апрацаваны.

Адначасна выдаецца беларуская навуковая граматыка з трох частак. Першая частка (фонэтыка)

вышла ў леташнім годзе. Цяпер заканчываецца складаньне другой часткі (морфолёгія).

У плян работы Інстытуту Літаратуры і Мовы, нарэшце ўстаўлена выданьне беларускага акадэмічнага слоўніка з 100,000 слоў, з абшырнымі выясьненьнямі да кожнага слова. Слоўнік будзе складацца з некалькі томаў. Выданьне яго разьлічанае на рад гадоў.

Гэтую вялікую працу над акадэмічным слоўнікам, хоць моцна спозьненую, калі яна сапраўды выконываецца згодна з навуковымі вымаганьнямі, трэба шчыра прывітаць, бо ў апошнія гады, ад часоў „нацдэмаўшчыны“ БАН нічога ў гэтым кірунку не рабіла. На гэта жаліўся на III Пленуме ССР СССР і пісьменьнік Кузьма Чорны. Гаворачы аб труднасьцях літаратурнай мовы, ён, праўда, вельмі асьцярожна зазначыў пра Інстытут Мовы Беларускай Акадэміі Навук: „Магчыма я мыляюся, але мне здаецца, што ніякой работы Інстытут не вядзе“.

Усякія навуковыя выданьні патрабуюць працы і першарадных навуковых сілаў. А тымчасам спатыкаем незразумелае зьявішча перакіданьня беларускіх вучоных за межы БССР. Напрыклад апошнім часам звольнены з становішча прэзыдэнта БАН акадэмік П. Горын і адкамандыраваны ў Маскву на „іншую работу“. Ізноў-жа філёляг Б. Тарашкевіч, які якраз мог-бы быць вельмі цэнным пры працы над навуковым слоўнікам—сядзіць у Маскве, таксама відаць пры „іншай рабоце“. Такія зьявішчы хіба беларускай навуковай працы ў БССР не аблягчаюць.

## Плян літаратурнага выдавецтва ў 1936 г.

У пляне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва ў Менску прадбачыцца на 1936 г. у галіне літаратуры выданьне 20 новых кніг прозы беларускіх пісьменьнікаў. Між імі новыя раманы Галавача, Самуйлёнка, Гартнага, Чорнага, Бядулі, гістарычны раман Зарэцкага, зборнік расказаў Каваля, повесьць Мікуліча „Ліпень“ і інш.

З паэзіі маюць быць выданыя новыя зборнікі вершаў Купалы, Коласа, Александровіча, Броўкі, Хведаровіча, Глебкі, Хадыкі і інш. З цыклю поўных выданьняў выйдуць: III том збору твораў Чарота (расказы), II том Бядулі (дарэвалюцыйная проза) і II том твораў Крапівы.

У гэтым-жа годзе будуць перавыданыя раманы „Дрыгва“ Гушчы, „Дужасьць“ Мікуліча, „Праз гады“ Галавача, „Бацькаўшчына“ Чорнага і інш.

У перакладзе на беларускую мову выйдуць: з расейскай літаратуры — III кніга „Ціхога Дону“ і II часьць „Паднятай цаліны“ Шолахава, „Пётра I“ Ал. Талстога; будзе далей весьціся праца над 22-томным выданьнем твораў М. Горкага. З паэзіі выйдуць у перакладзе 1 том выбраных вершаў Пушкіна і асобнымі кнігамі „Аўгень Анегін“ і „Капітанская дачка“; таксама 2 зборнікі вершаў Маякоўскага ў перакладзе Броўкі, Хадыкі, Глебкі і іншых.

Выдадуцца таксама пераклады з літаратуры ўкраінскай, грузінскай, жыдоўскай і інш. З украінскай літаратуры, між іншымі, выйдзе зборнік выбраных твораў Тараса Шэвчэнкі ў перакладзе Янкі Купалы.

З сусьветнай заходня - эўрапэйскай літаратуры прадбачыцца ў пляне выданьне твораў Анрі Барбюса, Ромэн Роляна; зборнікаў вершаў Гайнэ, Міцкевіча, „Фаўста“ Гётэ, „Іліяды“ Гомэра, „Жанітба Фігаро“ Бомаршэ і іншых.

Плян выдавецтва, як бачым, шырокі, трэба толькі пажадаць, каб ён быў у поўнасьці выкананы.

В. Т.

Рэдагуе КАЛЕГІЯ

Рэдактар: ВІТАЎТ ТУМАШ Выдавец: МІКАЛАЙ ШЧОРС



Друк. І. Баеўскага, Вільня, Татарская вул. 13.

**МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ**

выдаецца з сталых месячных складак беларускага грамадзянства і Выдавецтва гэтым зварочваецца да тых Грамадзян, каторыя гэтай складкі яшчэ ня плацяць, з заклікам прылучыцца ў круг сталых выдаўцоў часапісу.

Толькі рэгулярнае падтрыманьне шырокіх кругоў беларускага грамадзянства дасьць магчымасьць „МАЛАДОЙ БЕЛАРУСІ" належна разьвіцца як з боку якасьці, так і з боку абыйма.

Сталую месячную складку даюць ужо Гр. Гр.:

Др. Б. Грабінскі па 5 зл., мгр. М. Шкялёнак 5 зл., праф. Я. Цеханоўскі 5 зл. праф. П. Скрабец 5 зл., адв. П. Сьвірыд 5 зл., др. А. Орса 5 зл., інж. М. Гарошка 5 зл., інж. В. Лаўскі 3 зл., Ст. Станкевіч 0.50 зл., Чантарыцкі М. 1 зл., Драгун 0,50 зл., мгр. М. Пяцюкевіч 2 зл., А. Будзька 3 зл., праф. В. Грышкевіч па 5 зл., інж. А. Нэканда Трэпка па 5 зл., Чэчка 0,50 зл., інж. У. Л.—2 зл., Пліс 1,50 зл., др. Я. Станкевіч 1 зл.

Задэкляравалі месячную складку Гр. Гр.:

Я. Бэкеш па 3 зл., Пратасэвіч 1 зл., Абрамовіч 1 зл., праф. Егер 1 зл., інж. Малевіч А. 2 зл., мгр. Ст. Станкевіч 1 зл.

Аднаразовую складку зложылі Гр. Гр:

Адв. Віруковіч 3 зл., мгр. Н. Гаўрылічанка 9 зл., інж. Дыліс А. 5 зл., В. Ч. 10 зл., В. Юравец 0,20 зл., У. Дунец 1 зл., В. Труцька 10 зл., А. Будзьчанка 0,12 зл., В. Войтэнка 4 зл., С. Шкутка 5 зл., Ч. Ханяўка 1 зл., праф. В. Кавалевіч 1 зл., мгр. В. Русачанка 10 зл., др. Ст. Грынкевіч 5 зл., Артысты Аматары м. Н. Сьвержаня 12,50 зл., праф. М. Чатырка 5 зл., Г. 2.50 зл., Інж. У. М. 5 зл., інж. М. Гузоўскі 5 зл., мгр. А. Глухоўская 2 зл., мгр. Б. Кіта 2 зл., Н. Ільляшэвіч 1,50 зл., Мініч А. 1 зл.

Каб даць магчымасьць гуртавацца каля „МАЛАДОЙ БЕЛАРУСІ" якнайшырэйшым кругом беларускай інтэлігенцыі, а передусім маладой беларускай інтэлігенцыі, Рэдакцыя зьмяшчае ў часапісе артыкулы і працы, выказаныя пагляды ў якіх часта нават у большай ці меншай меры незгаджаюцца з паглядамі Рэдакцыі.

Усякія літаратурныя творы, артыкулы і працы ў наступны нумар „МАЛАДОЙ БЕЛАРУСІ" просім Паважаных Супрацоўнікаў прысылаць да 15 красавіка с. г.